29 лістапада 2019 | № 44 (655)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ





# Непадцэнзурны Кастусь Каліноўскі



Сяргей ПУЛЬША

**На мінулым тыдні ў Вільні перапахавалі парэшткі Кастуся Каліноўскага. Падавалася б, для Беларусі гэта павінна быць падзеяй нацыянальнага маштабу. Усё ж Каліноўскі заўсёды быў «нашым» героем: «Люблю Беларусь! — То ўзаемна!». Але афіцыйныя беларускія СМІ надалі гэтаму непрапарцыйна мала ўвагі. Дый яшчэ і падцэнзуравалі рэпартажы з падзеі, абрэзаўшы з кадраў бел-чырвона-белыя сцягі.**

Даволі дзіўнае стаўленне да асобы Кастуся Каліноўскага. Нават у савецкія часы яго постаць не без скрыпу, але ўпісвалася ў афіцыйную ідэалогію і афіцыйную гісторыю — як барацьбіта з царызмам і ініцыятарам вызвольнага паўстання. Падавалася б, калі Беларусь — краіна, злепленая па савецкіх лякалах (што заўсёды падкрэсліваецца нашым правадыром: «Мы ўзялі ўсё лепшае ад СССР»), то і стаўленне да героя павінна быць адпаведным.

Але ж не. Нават тыя рэпартажы, якія асвятлялі гэту падзею, былі нейкія «вокамгненныя». Нібыта, перапахаванне такой постаці ў беларускай гісторыі — шараговая з'ява.

Чаму ў афіцыйных мас-медыя краіны не адбылося належнага рэзанансу? Можа быць, таму, што Каліноўскі змагаўся супраць Расійскай імперыі? А тая імперскасць цяпер у трэндзе ў нашай суседкі, якая намагаецца адрадзіць «былую веліч». У той жа час, мы ці імкнёмся ўвайсці ў гэтую імперыю праз незразумелыя інтэграцыі, ці не імкнёмся, кажучы, «на храна нам такі саюз». Можа быць, замоўчванне такой гістарычнай падзеі — нежаданне злаваць «вялікага брата»?

Але такі падыход у чарговы раз паказвае, што нашы дзяржаўныя СМІ, як гэта адзначалася ўжо неаднаразова, працуюць не на нашу дзяржаву. А на дзяржаву-суседку, якая не хавае планаў далучыць да сябе Сінявокую. А некаторыя ў суседзяў нават адкрыта кажуць не пра «далучэнне», а пра «паглынанне». Праўда, пакуль яны не ведаюць, навошта ім дадатковыя шэсць датацыйных рэгіёнаў, што яны будуць з імі рабіць і ці здолеюць «праглынуць»... Але для «імперскай велічы» прагматычныя пытанні не вельмі істотныя. Тут варта задаволіць пачуццё асабістай важнасці, а падумаць можна будзе пасля (калі ёсць чым думаць).

А можа, постаць Каліноўскага не даспадобы сённяшнім беларускім уладам? Усё ж такі Кастусь Каліноўскі — арганізатар, кажучы сучаснаю моваю, «майданаў», рэвалюцыянер, падпольшчык, што выступаў супраць дзейснай на той момант улады.

Да таго ж Каліноўскі — правадыр, як пісалі ў падручніках па гісторыі, «нацыянальна-вызвольнага паўстання» (ключавое слова тут — «нацыянальны»), звяртаўся да «мужыкоў», пісаў на беларускай лацінцы (страшна падумаць!) і выступаў супраць таго, каб беларусы выпраўлялі сваіх дзяцей на чужыя войны. Дый яшчэ гэта: «Не народ для ўрада, а ўрад для народа!» А ў нас на носе прэзідэнцкія выбары — і правакацыйных лозунгаў нам тут не трэба... Па сённяшніх мерках улады, Каліноўскі — не проста ідэйны апазіцыянер, а поўны «адмарозак».





Фота Алены Ляшкевіч

Таму пра яго і трэба казаць як мага менш — як у час нядаўняй імітацыі парламенцкіх выбараў здымалі з эфіру перадвыбарчыя ролікі з-за «жорсткай крытыкі ўлады і яе палітыкі».

Але такі падыход — вельмі заганны для дзяржавы. І справа нават не ў тым, што, калі мы на афіцыйным узроўні цураемся сваіх герояў, іх прысабечвае нехта іншы — ці палякі, ці літоўцы.

Справа зусім у іншым. Чаму ў Беларусі так і не выпрацавалі такую рэч, як «дзяржаўная ідэалогія»? Чаму нашыя незалежнасць і суверэнітэт перманентна пад пагрозай? Чаму пад пагрозай апынаецца існаванне беларусаў як нацыі? І чаму, урэшце, усе гэтыя вайсковыя парады на 3 ліпеня, «лініі Сталіна», «патрыятычнае выхаванне», БРСМ і гэтак далей не даюць аніякага плёну?

Проста таму, што гісторыя, насамрэч — штука непадзельная. Яе нельга падзяліць на «ідэалагічна слушную» і «ідэалагічна варожую». Так, быў у нас і Кастусь Каліноўкі, і Марат Казей. Быў Вацлаў Ластоўскі і Панцеляймон Панамарэнка. Быў Мікалай Дземянцей і жывы, дзякуй Богу, Станіслаў Шушкевіч. І ў гісторыі яны звязаныя непарыўна.

**Гісторыя непадзельная. Яе нельга падзяліць на «ідэалагічна слушную» і «ідэалагічна варожую»**

Калі дзяржава ўпарта ігнаруе адны старонкі гісторыі, то пад пагрозай аказваюцца і іншыя. Можна колькі заўгодна не надаваць увагі спадчыне Вялікага Княства Літоўскага, адмаўляць ці замоўчваць Кастуся Каліноўскага і казаць пра тое, што стваральнікі БНР былі «нямецкімі шпіёнамі». Але ў такім разе варта рыхтавацца да таго, што будуць абясцэненыя і подзвігі партызанаў, і «дзед Талаш», і аперацыя «Баграціён». Замоўчванне гісторыі ў адным непазбежна прыводзіць да недаверу ў іншым — тым, чым дзяржава хацела б ганарыцца.

Немажліва сабраць аўтамабіль, выкінуўшы палову дэталяў рухавіка. Немажліва казаць пра станаўленне беларускай нацыі, адкідаючы Каліноўскага і Касцюшку. Немажліва казаць пра «беларусізацыю 1920-х» і «ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі», абмінаючы калектывізацыю і Курапаты. Нельга казаць пра гераічную абарону Брэсцкай крэпасці без згадак пра пакт Молатава і Рыбентропа. Адкідаючы «непрыемнае» ў гісторыі, мы заблытаемся ў гісторыі «прыемнай».

А ў выніку — не будзем мець ніякай гісторыі. Не кажучы ўжо пра «дзяржаўную ідэалогію».

# Адрэкламаваў, дык ужо адрэкламаваў!

Святлана МЯЦЁЛКІНА

**Нарэшце стала зразумела, хто заняў сваімі катэджамі ўсю зямлю ў Драздах. Мы грашылі на чыноўнікаў, а на самай справе гэта фінансаваная з-за мяжы апазіцыя, якая зажэрлася! Прынамсі, гэта вынікае са словаў Аляксандра Рыгоравіча.**

На сустрэчы з губернатарам Калінінградскай вобласці штарміла не па-дзіцячаму. Спачатку Лукашэнка надумаў паквапіцца на тэрытарыяльную цэласнасць суседняй дзяржавы (жартам, вядома, але, як гаворыцца, у кожным жарце…), а пасля вырашыў разабрацца з унутранымі праблемамі.

І вось губернатар Калінінградскай вобласці вымушаны быў слухаць пра ўзаемаадносіны Лукашэнкі, Захаду і апазіцыі (здзівіўся напэўна, чаму ён, але хто ж яго пытаў?!) Лукашэнка падрабязна і ў асобах пераказаў губернатару, пра што размаўляў з міністрамі замежных справаў Швецыі і Фінляндыі.

«Вось яны (кіраўнікі МЗС Швецыі і Фінляндыі) пачалі гаварыць: "Чаму няма празаходніх апазіцыянераў? У мінулым былі тры чалавекі, а ў гэтым ніводнага", — працытаваў іх Лукашэнка, і патлумачыў: — Не ўва мне прычына. Калі людзі не падтрымліваюць, што я магу зрабіць? Я кажу: вы ім не давайце грошай. Яны даюць грошы, тыя купляюць аўтамабілі, будуюць асабнякі. Грошы немалыя ідуць. Мы іх усе бачым. Тое, што не бачым мы, нам расіяне падкажуць, адкуль яны ідуць. Звычайна цераз Літву, Польшчу. Амерыканцы, немцы фінансуюць. Добра яны жывуць. На чорта ім гэтая ўлада, галаўны боль?»

Заява Лукашэнкі пра аўтамабілі і асабнякі апазіцыі цікавая па некалькіх прычынах. Мы ж думалі, што асабнякі ў нас у Драздах пабудавалі зусім іншыя людзі. А вось яно як атрымліваецца! Пакуль Лукашэнка парламент беднякамі набівае (некаторых і па некалькі разоў мучыць — нездарма ж стогнуць, небаракі), гэтыя атлусцелыя на нямецка-амерыканскіх харчах «найміты» ва ўладу нават сунуцца не жадаюць — «на чорта ім гэты галаўны боль»?

Мне падаецца, пасля такіх словаў Лукашэнкі кожны нармальны чалавек папросту абавязаны захацець стаць апазіцыянерам. Таму што лепшай працы і не прыдумаеш. Вялізарныя грошы плацяць, на асабнякі-машыны хапае, дый рабіць нічога не трэба — такіх прапановаў сёння на рынку працы проста не адшукаць. Прычым, гарантыя 100-працэнтная — сам Лукашэнка рэкламуе! А ён жа хлусіць дакладна не будзе!

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# «Адчуваю сябе бездапаможным»

**Калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда пад старшынствам Сяргея Шыцікава 26 лістапада адхіліла апеляцыйную скаргу блогера Андрэя Павука на рашэнне суда Акцябрскага раёна, якія не задаволіў пазоў да мясцовага райаддзела міліцыі аб спагнанні маральнай шкоды.**

«Я адчуваю сябе бездапаможным. Не ведаю нават, што рабіць, як абараняць сябе і сваю сям'ю. Падаецца, няма ўжо аніякага выбару, апроч як стаць радыкалам», — сказаў пасля рашэння суда Андрэй Павук карэспандэнту службы маніторынгу Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Нагадаем, што ў сакавіку супрацоўнікі крымінальнага вышуку Акцябрскага РАУС правяліператрус у кватэры блогера, забралі камп'ютарную тэхніку, відэакамеру, мабільныя тэлефоны. Павук даглядаў дома пяцігадовую дачку. Міліцыя затрымала Андрэя, прымусіла яго пакінуць малалетнюю дачку адну ў кватэры, па сутнасці, у небяспечны сітуацыі.

Праваахоўнікі затрымалі блогера на пяць гадзін на той падставе, што нібыта з яго электроннага адрасa ў Гомельскае ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра мініраванне Акцябрскага райвыканкама. Аднак скрыншота паведамлення ні міліцыянты, ні следчыя не паказалі.

Супраць Андрэя Павука завялі крымінальную справу паводле часткі 1 артыкула 340 Крымінальнага кодэкса — па факце паведамлення пра мініраванне райвыканкама. Максімальны тэрмін пакарання па згаданым артыкуле — да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Гісторыя з ілжывым мініраваннем у звязку з блогерам Павуком паўтарылася 15 траўня. На электронную пошту Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра мініраванне будынка суда ў Мазыры, дзе ў той дзень меўся адбыцца суд над калінкавіцкім прадпрымальнікам і блогерам Віталём Манько. Зноў западозрылі Павука. Супрацоўнік Акцябрскага РАУС Віктар Карпянок выклікаў блогера ў міліцыю, каб апытаць яго ў якасці сведкі пра «мініраванне» суда ў Мазыры.

Дзеянні супрацоўнікаў міліцыі блогер Павук абскарджваў раённаму, абласному і генеральнаму пракурорам. Ён прасіў таксама высветліць, хто выкарыстоўвае нумар яго мабільнага тэлефона ў такіх небяспечных гульнях. Аднак уцямнага адказу Андрэй Павук так і не атрымаў. Тады ён звярнуўся ў суд з пазовам да Акцябрскага РАУС аб кампенсацыі нанесенай маральнай шкоды, якую блогер ацаніў у 25 тысяч рублёў.

Акцябрскі раённы суд 11 кастрычніка адхіліў пазоў блогера да райаддзела міліцыі. Суд стаў на бок міліцыянтаў і прызнаў, што ў службовых асоб меліся дастатковыя падставы падазраваць блогера ў здзяйсненні злачынства. Якія гэта падставы і чаму з імі не пазнаёмілі падазраванага блогера, адказу не было.

Блогер не пагадзіўся з высновамі суда першай інстанцыі і падаў апеляцыйную скаргу ў Гомельскі абласны суд, але і той не знайшоў падставаў, каб адмяніць вынесенае Акцябрскім райсудом рашэнне.

**Паводле spring96.org**

# Новыя шыхты Каліноўскага сцвердзяць беларускую нацыю

Дзяніс ІВАШЫН

**Масавы ўдзел патрыётаў Беларусі ў гістарычнай падзеі пахавання Кастуся Каліноўскага і яго баявых пабрацімаў стаўся важнай часткай беларускага нацыятворчага працэсу. Беларускія ўдзельнікі колькасна дамінавалі падчас правядзення ўсёй цырымоніі, што яскрава сведчыць пра яе безумоўную важнасць і значэнне для нашай краіны.**

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў Беларусь знаходзіцца ў эканамічным, палітычным і гуманітарна-культурніцкім посткаланіяльным становішчы, пры якім нацыянальная ідэнтычнасць з боку дзяржавы не развіваецца, але ўтрымліваецца ў штучна створаным стазісе. Для польскай і літоўскай нацыяў — сцверджаных і інтэграваных у Заходнюю цывілізацыю — пытанні нацыянальнага выхавання і развіцця на сёння не маюць падобнага архіважнага значэння, як для беларускай. Ані польскай, ані літоўскай нацыі, у адрозненне ад беларускай, зараз істотна не пагражаюць паглынанне і пераварванне ў межах новай мадыфікацыі расійскага імперскага ўтварэння. Менавіта гэтым можна патлумачыць шматколькасную прысутнасць і дамінаванне беларускіх удзельнікаў на цырымоніі пахавання.

Перазахаванне герояў паўстання 1863–1864 гадоў не сталася развітаннем, але наўпрост спрычынілася да трансцэндэнтнай духоўнай сувязі і яднання пакаленняў беларускіх патрыётаў, нягледзячы на тое, што паміж намі пралягла цэлая гістарычная эпоха.

Удзел тысячаў беларусаў у гэтай цырымоніі стаўся сімвалам пераемнасці пакаленняў дзеля працягу геараічнага чыну абароны і сцвярджэння беларускай нацыі. Дзень 22 лістапада безумоўна мае заняць сваё пачэснае месца ў беларускім нацыянальным календары.

На нашых вачах адбылося сапраўднае ўспамыненне нацыі, якое ёсць важным этапам для яе гістарычнага сцверджання. Адметна, што гэта сталася менавіта ў колішнім культурным і палітычным цэнтры беларускай айкумены — Вільні. Па-сапраўднаму братэрскі нам літоўскі народ, з якім мы стагоддзямі ўтваралі адну дзяржаву, непасрэдна паспрыяў абуджэнню беларускай нацыянальнай памяці. Спалучэнне з ёю жывой нацыятворчай сілы абавязкова спрычыніцца ў гістарычнай перспектыве да фарміравання паўнавартаснай беларускай нацыі-дзяржавы.

Асобу Кастуся Каліноўскага варта разглядаць у гэтым кантэксце як заснавальніка, першага палітыка і жаўнера мадэрнай беларускай нацыі, дзеля існавання якой ён ахвяраваў сваё ўласнае жыццё.

Нягледзячы на сённяшні посткаланіяльны статус нашай краіны, пакрысе, але няўмольна з боку актыўнай грамадзянскай супольнасці працягваецца кшталтаванне ўласнай беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, якая — праз выстаўленыя заслоны і перашкоды — здзяйсняе ўплыў і на пазіцыю дзяржаўнай улады. Паказальна, што падчас прамовы афіцыйнага прадстаўніка ісэтэблішменту РБ прагучалі словы пра тое, што чын Каліноўскага непасрэдна звязаны з барацьбой за беларускую дзяржаўнасць, а ягонае імя, як і падзеі паўстання, назаўжды ўвайшлі ў гісторыю Беларусі. Гэтая заява цалкам нівелюе і робіць нікчэмнымі ўсе спробы прадстаўнікоў (пра)расійскіх сілаў дэгераізаваць і дэсакралізаваць вобраз Каліноўскага і паўстанцаў для Беларусі. Гэта істотны ўдар па расійскім цывілізацыйным выбары.

Варта асабліва адзначыць, што Беларусь знаходзіцца на лініі геапалітычнага разлому паміж дзвюма цывілізацыямі — ліберальна-дэмакратычным Захадам і традыцыяналісцкай і аўтарытарнай Расіяй. Згодна з Самюэлем Хантынгтанам, поўнамаштабныя ідэалагічныя канфлікты мінулага саступяць сваё месца сутыкненню цывілізацый, якія набудуць форму глабальнага канфлікту. Ужо зараз пачынаецца стадыя акселерацыі гэтых працэсаў. Расія актыўна мілітарызуецца, нарошчвае сваю вайсковую сілу: нанова створаная 1-я танкавая армія, перафарміраваная 20-я агульнавайсковая армія, гэтыя фарміраванні валодаюць значным патэнцыялам аперавання менавіта на беларускім стратэгічным напрамку. Апроч гэтага сфарміраваная новая 8-я агульнавайсковая армія, перафарміроўваюцца злучэнні 58-й арміі.

Уздоўж мяжы з Украінай і Беларуссю — ад Новачаркаску Растоўскай вобласці да Ельні Смаленскай вобласці — сфарміраваная паўнавартасная наступальная лінія Узброеных сілаў РФ. Усё гэта ёсць наўпроставым увасабленнем рэалізацыі расійскага цывілізацыйнага праекту, фундаментам якога ёсць супрацьстаянне Заходняй цывілізацыі, якую расійская імперыякратыя разглядае ў якасці экзістэнцыяльнага ворагу. Беларусь у гэтай светапоглядная парадыгме выступае толькі ў ролі расійскага стратэгічнага вайсковага плацдарму, вайскова-тэхнічнай базы і патэнцыйнага тэатру ваенных дзеянняў. Пры гэтым посткаланіяльная палітычная эліта не толькі ўцягнула нашу краіну ва ўсе магчымыя вайскова-палітычныя хаўрусы з Расіяй, але і працягвае рэалізацыю з ёй неаімперскага праекту ў выглядзе так званага «Союзного государства».

Характэрна, што менавіта ў гэты ключавы момант і адбываецца рэактуалізацыя значэння і сімвалізму постаці Кастуся Каліноўскага для Беларусі — і перадусім для абароны яе заходняга цывілізацыйнага выбару. Тое, чаго баяліся маскоўскія стратэгі, сталася праз 155 гадоў, і ў самы нязручны для іх час. Шмат хто назаве гэта Божай задумай — і пэўна будзе мець рацыю. У вызначальны момант нашай гісторыі мы духоўна і фізічна набылі сімвал нацыі, увайшлі ў эпоху рэнавацыі геараічнага чыну, калі міф перастае быць міфам. Вышэйшая сіла надае нам магчымасці для ўмацавання цывілізацыйнай самасвядомасці, для ўратавання ад непазбежнага распускання і знікнення ў інтэграцыйным расійскім праекце.

У гэтым кантэксце актуальнасць і аргументацыя галоўных пастулатаў «Мужыцкай праўды» не аслабела. Наадварот, яны набываюць цяпер практычнае значэнне. У гэты ключавы перыяд нашай гісторыі, у рэаліях істотнай пагрозы самому існаванню нашай краіны, магістральным напрамкам мае стаць кансалідацыя і аб'яднанне высілкаў усіх нацыятворчых сілаў у адзіны магутны кулак, які здолее абараніць нашу, Богам дадзеную, зямлю.

Шчыры апостал беларускага народа Кастусь Каліноўскі заснаваў беларускую нацыю, якую мы — яго ідэйныя і духоўныя нашчадкі — маем сцвердзіць.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# І дзе атабарылася тое жуллё?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Напрыканцы мінулага тыдня Аляксандр Рыгоравіч чарговым разам крытыкаваў банкіраў. Маўляў, яны недастаткова падтрымліваюць вёску і сельскую гаспадарку. Ён даручыў старшыні праўлення Нацбанка Паўлу Калауру «нагрузіць» банкі і прыцягнуць іх да аказання дапамогі адсталым сельскагаспадарчым арганізацыям Віцебскай вобласці.**

«Пра Нацыянальны банк і падпарадкаваныя яму структуры, а яму ўсё падпарадкавана, мы яшчэ асобна пагаворым. Жырye жуллё. Былыя і сапраўдныя. А займацца (дапамагаць калгасам) не хочуць. Таму дагружаць іх — па калгасе, па паўтара, па два, хай там працуюць. Гэта не абмяркоўваецца», — заявіў Лукашэнка.

Пры гэтым ён падкрэсліў, што пытанне шэфскай дапамогі банкамі сельгаспрадпрыемствам не здымаецца. «А калі трэба прывесці банкаўскую сістэму ў пачуццё, я думаю, Калаур гэта зробіць. Не зробіць — гэта зробяць іншыя», — сказаў ён на заканчэнне.

Падаецца, што банкірам пастаянныя папрокі надакучылі. Мала таго, што крэдыты сельская гаспадарка не аддае, мала таго, што ў яе ўбухваюць мільярдныя датацыі кожную пасяўную і «бітву за ўраджай», дык яшчэ нашы калгасы і «шэфскую дапамогу» ад банкаў патрабуюць. А замест падзякі — «жырye жуллё».

Таму Асацыяцыя беларускіх банкаў разаслала па банкаўскіх установах ліст з просьбай паведаміць пра рэалізаваныя на працягу апошніх 2–3 гадоў праекты па падтрымцы дзяржаўных сельгаспрадпрыемстваў, буйнога, малога і сярэдняга бізнесу ў вёсцы. Таксама плануецца агучыць інфармацыю пра аказанне матэрыяльнай і шэфскай дапамогі сельгасвытворцам (калгасам і іншым сельгаспрадпрыемствам), аб удзеле банкаў у развіцці аграэкатурызму, сацыяльных праграмах для сельскіх жыхароў, работнікаў сельгаспрадпрыемстваў. У тым ліку АББ збірае інфармацыю пра ўдзел банкаў у правядзенні дзяржаўных аграфестываляў кшталту «Дажынак» і іншых мерапрыемстваў для працаўнікоў вёскі.

Карацей, банкіры рыхтуюцца даць адлуп Лукашэнку. Таму што сапраўды — колькі можна бясконца спансаваць «чорную дзіру» беларускай эканомікі?

Улада і Лукашэнка нам пастаянна кажуць пра «беднасць» калгасаў, пра слабую матэрыяльна-тэхнічную базу, пра неабходнасць падтрымкі «харчовай бяспекі» і іншае, іншае, іншае. Але, насамрэч, ці такая ўжо наша сельская гаспадарка гаротная?

З першага погляду — так. Але ў адным з інтэрв'ю эканаміст Леанід Заіка прывёў цікавы прыклад. Ён параўнаў кошты на літр малака ў крамах і на літр бензіну на запраўках. Улічваючы, што зараз малако расфасоўваецца не па літры, а па 900 мілілітраў, то кошт малака нават даражэйшы за бензін!

Пры гэтым НПЗ з'яўляюцца «флагманамі беларускай эканомікі», экспарт нафтапрадуктаў — адна з асноўных крыніцаў папаўнення беларускага бюджэту, а заробкі ў нафтахімічнай сферы лічацца аднымі з найлепшых у краіне (не зважаючы на айцішнікаў, канешне). А сельская гаспадарка — пры раўназначных коштах на прадукцыю — чамусьці хранічна адсталая і з самымі нізкімі заробкамі.

Калі зайсці ў краму і паглядзець на цэннікі, мы пабачым, што амаль уся сельскагаспадарчая прадукцыя так ці інакш набліжаная да гэтага «індэксу бензіну». Цукар, яблыкі, нават хлеб (калі лічыць за кілаграм). Садавіна і гародніна крыху адстаюць, але «літр бензіну» каштуюць два кілаграмы бульбы альбо цыбулі. Дык чаму ж сельская гаспадарка нерэнтабельная, а нафтаперапрацоўка — яшчэ як? Чаму банкіры павінны ўкладвацца ў калгасы, а не ў НПЗ?

> **«Гаротная» сельская гаспадарка, якая пастаянна патрабуе падтрымкі і грашовых унёскаў, зарабіла толькі на 785 мільёнаў долараў менш, чым «элітная і флагманская» нафтаперапрацоўка! Хто-небудзь яшчэ верыць, што калгасы «бедныя»?**

Нехта можа запярэчыць: у сельскай гаспадарцы працуе на парадак больш людзей, чым у нафтавай сферы. Усім ім трэба плаціць заробак, і таму нельга параўноўваць нафтаперапрацоўку з калгасамі. Аднак жа і бензін, у адрозненне ад малака і хлеба, не з'яўляецца таварам штодзённага попыту! Хлеб і малако мы набываем у крамах штодня, а машыну запраўляем раз на тыдзень. Таму і грошай у гэтай самай сферы сельскай гаспадаркі павінна быць на парадак больш, чым у нафтаперапрацоўцы! Дык дзе яны?

Згодна дадзеным Белстату за першае паўгоддзе 2019 года, экспарт нафтапрадуктаў з Беларусі склаў 3315,6 мільёна долараў. Экспарт сельскагаспадарчай прадукцыі — 2531,3 мільёна долараў. То-бок, «гаротная» сельская гаспадарка, якая пастаянна патрабуе падтрымкі і грашовых унёскаў, зарабіла толькі на 785 мільёнаў долараў менш, чым «элітная і флагманская» нафтаперапрацоўка!

Хто-небудзь яшчэ верыць у міф пра тое, што сельская гаспадарка ў нас «бедная»?

Пытанне толькі ў адным — дзе грошы? Куды знікаюць тыя сродкі, якія зарабляе сама сельская гаспадарка? Не кажучы ўжо пра бясконцыя дзяржаўныя датацыі, спісанне пазыкаў і «шэфскую дапамогу» беларускіх банкаў. Дзе ўсё ж атабарылася «жуллё, якое жырye», па выразе нашага кіраўніка дзяржавы? У банках, якія «слаба падтрымліваюць» сельскую гаспадарку? Альбо ў самой сельскай гаспадарцы, адкуль грошы — і немалыя грошы — знікаюць немаведама куды?

А ў банкаў, насамрэч, хапае сваіх праблемаў і без сельскай гаспадаркі — асабліва ў Нацбанка. Пра трывожнасць сітуацыі сведчыць праект новай рэдакцыі Закона «Аб валютным рэгуляванні і валютным кантролі». Згодна яму, урад сумесна з Нацыянальным банкам могуць уводзіць валютныя абмежаванні ў выпадку «пагрозы эканамічнай бяспецы краіны».

Паводле звестак БелаПАН, улады могуць пайсці на ўвядзенне валютных абмежаванняў у выпадку рэзкага пагаршэння сітуацыі ў плацежным балансе, узнікнення рызыкаў значнага зніжэння золатавалютных рэзерваў і з'яўлення перадумоў для істотнага вагання курсу нацвалюты.

Канешне, па словах аналітыкаў, перадумоў да ўвядзення валютных абмежаванняў цяпер няма. Канешне, расійскі падатковы манеўр ускладніць нам паступленне валютнай выручкі ад НПЗ, Расія абмежавала фінансаванне Беларусі, але пра гэта было вядома даўно, і ў нас быў час падрыхтавацца. Таму паўтораў сітуацыі 2011 і 2014 гадоў эксперты не чакаюць. Дый золатавалютныя рэзервы ў нас «на піку» — 9193,8 мільёна долараў ЗША на 1 лістапада. Аднак тое, што Нацбанк вырашыў «падаслаць саломкі» на выпадак гучнага падзення, — таксама не можа не ўражваць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вольга Кавалькова



**Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі заявіла пра гатоўнасць быць кандыдаткай у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2020 года, хоць раней яна прайграла праймерыз у БХД Паўлу Севярынцу.**

«Мае заявы наконт патэнцыйнага вылучэння гучалі ўжо раней. Пасля парламенцкіх "выбараў" 17 лістапада я не страціла матывацыі, а яшчэ больш жадаю зменаў. Бо я на свае вочы пабачыла фальсіфікацыі, несправядлівасць, якія адбываюцца ў краіне. У нас скралі яшчэ 4 гады, прызначыўшы стэрыльную Палату, і ў мяне яшчэ больш матывацыі дзейнічаць. Я лічу, што ў мяне ёсць і кампетэнцыя, і сілы змагацца за дэмакратыю ў Беларусі», — сказала яна «Радыё Свабода».

Паводле яе, вылучэнне адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах яшчэ абмяркоўваецца. «Было ўзгадненне працэдуры праймерыз у межах правацэнтрысцкай кааліцыі. Але цяпер хочацца, каб гэтае кола было шырэйшае за правацэнтрысцкую кааліцыю. Каб кандыдатуры былі розныя ад розных партый, і каб мы ўзгаднілі тую працэдуру, паводле якой адзіны кандыдат будзе абраны. Бо відавочна, што калі мы разам, то наша змаганне больш эфектыўнае», — сказала яна.

«Я лічу, што калі не вылучаць кандыдатуру на выбарах, то апазіцыя губляе нашмат болей. Мы не зможам паказаць, што ёсць альтэрнатыва, знайсці прыхільнікаў для гэтай кандыдатуры. І гэта акурат на карысць уладам. Бо людзі хочуць пераменаў і хочуць бачыць альтэрнатыву — тых людзей, якія не баяцца і гатовыя змагацца за будучыню», — мяркуе Кавалькова.

Пры гэтым яна лічыць, што вылучэнне некалькіх кандыдатур на прэзідэнцтва — памылка. «У 2020 годзе нам трэба зрабіць высновы і дзейнічаць адзіным фронтам. Я лічу, што кандыдатур, людзей, якія могуць прадстаўляць апазіцыю на досыць высокім узроўні, — дастаткова. І я сябе да іх адношу», — заявіла яна.

## Рыгор Кастусёў



**Кіраўнік Партыі БНФ лічыць, што вынікі кампаніі па абранні ПП могуць паўплываць на захаванне незалежнасці Беларусі. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю сайту «Беларускі партызан».**

Па словах Кастусёва, АБСЕ вельмі жорстка не прызнала мінулую выбарчую кампанію. «Мы (і палітыкі, і журналісты, і аналітыкі) да канца яшчэ не ўсвядомілі важнасць зробленай жорсткай заявы аб непрызнанні выбараў. Краіна знаходзіцца ў чаканні падпісання чарговых інтэграцыйных пагадненняў паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй. Паводле міжнародных нормаў, для прызнання дакументу легітымным неабходна, каб Палата прадстаўнікоў зацвердзіла яго», — адзначае Кастусёў.

Але, па меркаванні палітыка, непрызнанне вынікаў выбарчай кампаніі, непрызнанне Палаты прадстаўнікоў сёмага склікання «вядзе да таго, што нелегітымны парламент, падпісаўшы гэты дакумент, не надасць легітымнасці дакументу ў свеце».

«Для нас гэта — апераджальны крок ад інкарпарацыі Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі, непрызнання інкарпарацыі ва ўсім свеце… Мы ў Беларусі паставілі перашкоду перад прызнаннем сусветнай супольнасцю інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі», — лічыць Кастусёў.

## Уладзімір Навіцкі



**Спартыўны каментатар Уладзімір Навіцкі напісаў заяву аб сыходзе з канала «Беларусь 5». 65-гадовы журналіст пайшоў на пенсію, паведамляе Tribuna.com.**

Навіцкі нарадзіўся 8 траўня 1954 года ў Брэсце. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, а таксама Беларускі політэхнічны інстытут. На тэлебачанні працаваў з траўня 1981-га. Яго першы рэпартаж — матч паміж мінскім «Дынама» і «Пахтакорам» з Ташкенту (жнівень 1981 года). А самым сваім памятным рэпартажам Навіцкі лічыць матч алімпійскага хакейнага турніру Беларусь — Швецыя, 20 лютага 2002 года ў Солт-Лэйк-Сіці.

Агулам журналіст працаваў на 10 Алімпійскіх гульнях.

# Расійскі ўплыў і кантроль

Дзяніс ІВАШЫН

**У першай частцы расследавання (№41 ад 1 лістапада) мы падалі звесткі пра некаторых прадстаўнікоў сілавога блоку расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі і паспрабавалі раскрыць асноўныя мэты і задачы знаходжання ў нашай краіне амбасадара Дзмітрыя Мезенцава. У другой частцы — інфармацыя пра іншых прадстаўнікоў сілавых ведамстваў, выяўленых чальцоў расійскага казацтва і раскрытых выканаўцаў агентурнай дзейнасці.**

Пасля адклікання адыёзнага амбасадара Расіі ў Беларусі Міхаіла Бабіча, часова паверaным у справах Амбасады РФ у Беларусі стаў дарадца-пасланнік Уладзімір Андрэеў. Функцыі кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва ён выконваў да прыезду ў чэрвені новага амбасадара Дзмітрыя Мезенцава.

Савецкі і расійскі кадравы дыпламат Уладзімір Андрэеў з'яўляецца найбольш каларытнай асобай з каманды Бабіча на дыпламатычнай службе ў Беларусі.



Уладзімір Вадзімавіч Андрэеў нарадзіўся ў 1960 годзе. У 1982-м скончыў Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў (МДІМА). З чэрвеня 2005-га па травень 2010-га быў намеснікам дырэктара Дэпартамента па пытаннях новых выклікаў і пагрозаў МЗС РФ. З чэрвеня 2010-га па травень 2013-га Андрэеў працаваў генеральным консулам Расіі ў Сімферопалі, заканчэнне яго паўнамоцтваў на гэтай пасадзе звязана з гучным дыпламатычным скандалам.

У траўні 2013 года Андрэеў у жорсткай форме забараніў расійскай дэлегацыі наведаць у Сімферопалі прэм'ерны паказ фільму рэжысёра Ахтэма Сэітаблаева «Хайтарма», прысвечанага савецкай дэпартацыі крымскіх татараў у 1944 годзе. На просьбу журналістаў патлумачыць сваё рашэнне, Андрэеў не толькі пацвердзіў сваю пазіцыю, але правакатыўна абвінаваціў аўтараў фільму нібыта ў скажэнні гісторыі, а таксама паведаміў, што праўда пра «Вялікую Айчынную вайну» (ВАВ) павінна гучаць разам з тэмай здрады і калабарацыі крымскіх татараў. Падсумоўваючы, ён заявіў, што гэта — афіцыйная пазіцыя Расіі. Апроч таго, ён выказаў перакананне, што дэпартацыя крымскіх татараў была выключна трагедыяй савецкага народу, але не крымскататарскага. Гэтыя заявы сталі падставай да масавых пратэстаў пад сценамі расійскага генконсульства ў Сімферопалі з патрабаваннем прызнаць Уладзіміра Андрэева персонай non grata і выслаць яго з тэрыторыі Украіны.




**Акцыя пратэсту пад сценамі Генконсульства РФ у Сімферопалі, травень 2013 года**

Лідары крымскіх татараў абвінавацілі Андрэева ў спробе апраўдаць злачынствы сталінскага рэжыму і распаліць міжнацыянальную варажнечу. Знешнепалітычнае ведамства Украіны выказала афіцыйнае незадавальненне заявамі генконсула, у якіх ён абразіў карэннае насельніцтва паўвострава. У сваю чаргу, МЗС РФ адрэагавала заявай, згодна з якой словы Андрэева ў дачыненні крымскіх татараў былі прызнаныя некарэктнымі. Андрэеў выказаў нязгоду з пазіцыяй свайго ведамства і падаў у адстаўку. Саму ж заяву расійскага МЗС ён назваў «беспомощное, глупое и беспринципное позорище МИД России». Гэта, аднак, не паўплывала на яго далейшую дыпламатычную кар'еру.

Вызначана, што незадоўга да сваёй адстаўкі Андрэеў асабіста ўдзельнічаў у арганізацыі ў 2013 годзе прапагандысцкай акцыі «Наша великая победа» на тэрыторыі Крыму. Яе правядзенне ініцыяваў расійскі рух «Боевое братство». Пасля пачатку расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны адным з суарганізатараў гэтай акцыі, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, стаў «Антимайдан».

Характэрна, што ў студзені 2011 года падчас першага афіцыйнага святкавання ў Крыме чальцамі «Партыі рэгіёнаў» і прарасійскіх рухаў гадавіны так званай «Пераяслаўскай рады» Уладзімір Андрэеў заявіў, што палітычныя перашкоды на шляху яднання і адзінства народаў Украіны і Расіі пераадоленыя.

Тады ён зазначыў, што маюцца ўсе мажлівасці для эфектыўнай супрацы, для рэалізацыі самых амбіцыйных супольных праектаў, і Крым стане адным з самых яскравых праектаў у бліжэйшыя гады.

Андрэеў не памыліўся, Крым стаў сапраўдным увасабленнем рэваншысцкай неаімперскай палітыкі Расіі ў XXI стагоддзі, праявай падступнай і цынічнай ваеннай агрэсіі супраць суседніх з РФ краін, сімвалам татальнай мілітарызацыі, прыдушэння правоў і свабодаў і поўнамаштабных рэпрэсіяў акупаванага насельніцтва.

Відавочна, што з дапамогай генконсульства РФ у Сімферопалі здзяйснялася агульная кардынацыя дзеянняў большасці прарасійскіх палітычных сілаў Крыму з моманту стварэння консульскага прадстаўніцтва і да расійскага ваеннага ўварвання на паўвостраў у лютым-сакавіку 2014 года. Роля дарадцы-пасланніка Уладзіміра Андрэева, які з'яўляецца другой асобай Амбасады РФ, можа мець ключавое значэнне ў стратэгічным плане Расіі па поўнамаштабным разгортванні так званага «Саюзнага государства» (СГ).

Яшчэ адным супрацоўнікам расійскай Амбасады ў Беларусі, шчыльна звязаным з дзейнасцю ў Крыме, з'яўляецца капітан 1 рангу Кірыл Калючкін. З 2017 года ён выконвае функцыі вайсковага і вайскова-паветранага аташэ расійскага дыппрадстаўніцтва ў нашай краіне. Яго можна ўмоўна аднесці да каманды колішняга амбасадара Аляксандра Сурыкава.

Кірыл Сяргеевіч Калючкін нарадзіўся ў 1969 годзе ў Балційску. У 1991 годзе скончыў Ленінградскую вышэйшую вайскова-марскую вучэльню радыёэлектронікі. З 2012 па 2014 гады быў вайскова-марскім аташэ амбасады РФ ва Украіне. Паводле дадзеных Цэнтру «Міратворац» і групы «Інфармацыйны супраціў», з'яўляецца падпалкоўнікам Галоўнага ўпраўлення Генштабу Узброеных сілаў РФ (колішняе ГРУ, далей выкарыстоўваецца гэтая абрэвіятура). 30 красавіка 2014 года ў выніку правядзення паспяховай контрвыведвальнай аперацыі Калючкін быў затрыманы супрацоўнікамі СБУ на месцы здзяйснення ім агентурнай акцыі. Падчас затрымання ў яго былі выяўленыя дакументы сілавых ведамстваў Украіны з грыфамі сакрэтнасці. Яго дзейнасць была прызнаная несумяшчальнай са статусам дыпламата, ён быў абвешчаны персонай non grata і высланы з Украіны.



**Кірыл Калючкін.** Фота vsr.mil.by

Праз тры гады пасля раскрыцця Кірыл Калючкін быў пераведзены на беларускі напрамак. З таго часу ў адкрытых крыніцах інфармацыі маецца няшмат звестак пра яго дзейнасць, збольшага гэта перадача ўзнагародаў ветэранам ВАВ або іх сваякам. Высветлена, што Калючкін падтрымлівае непасрэдныя кантакты з Беларускім саюзам вайсковых маракоў. А ў верасні 2019 года ён асабіста прысутнічаў падчас пахавання на Аршанскім цвінтары загінулага расійскага вайсковага пілота Арцёма Лычова, які быў родам з Горак і загінуў у Сірыі.



**Скрыншот з відэа аператыўнай здымкі СБУ падчас затрымання Кірыла Калючкіна**

Варта асабліва зазначыць, што Кірыл Калючкін да моманту раскрыцця ва Украіне падтрымліваў шчыльныя сувязі з камандаваннем Вайскова-марскімі сіламі Украіны і, перадусім, з камандуючым — Юрыем Ільіным. У 2016 годзе Генпракуратура Украіны абвесціла Ільіна ў дзяржаўны вышук за ўдзел у злачыннай арганізацыі і дэзерцірства. Кірыл Калючкін, з улікам яго раскрытай агентурнай дзейнасці, цалкам мажліва, мае непасрэднае дачыненне да правядзення актыўных мерапрыемстваў расійскіх спецслужб напярэдадні і падчас спецаперацыі па захопе Крыму. Відавочна, у арсенал сродкаў расійскай агентуры ўваходзілі ў тым ліку подкуп і вербаванне каманднага складу ВМС Украіны. У святле гэтай інфармацыі да персоны Кірыла Калючкіна павінна быць падвышаная ўвага з боку грамадзянскай супольнасці, а таксама сілавых ведамстваў Беларусі.

Памочнікам апарату вайсковага аташату пры Амбасадзе РФ у Беларусі з'яўляецца Ілля Мелітоўскі. У склад расійскага дыппрадстаўніцтва ў нашай краіне ён быў пераведзены, як і Кірыл Калючкін, у 2017 годзе.

Ілья Вячаслававіч Мелітоўскі нарадзіўся ў 1985 годзе ў сям'і вайскоўца ў горадзе Гайжунай Літоўскай ССР, пражываў у Омску. Мае вайсковае званне маёра. Яго адкрытая дзейнасць таксама абмяжоўваецца перадачай узнагародаў ветэранам ВАВ або іх сваякам. Захапляецца экстрэмальнымі відамі спорту, мае выдатную фізічную падрыхтоўку. У 2016 годзе Мелітоўскі ўдзельнічаў у пешым марафоне на адлегласць 70 кіламетраў па перасечанай мясцовасці «Тропа мужества — лето 2016». Паводле шаўронаў і нагрудных знакаў, з'яўляецца афіцэрам Камандавання Паветра-дэсантных войскаў УС РФ, адмыслоўцам другога класу. Аднак гэта можа быць прыкрыццём, з вялікай доляй верагоднасці Мелітоўскі можа з'яўляцца афіцэрам ГРУ Генштабу УС РФ.



**Ілья Мелітоўскі.** Фота gp.by

Паводле інфармацыі праекту «Інфармацыйны супраціў», Ілья Мелітоўскі з'яўляецца адмыслоўцам у правядзенні гібрыдных аперацыяў, можа быць заангажаваны ў рэалізацыю агрэсіўнага сцэнару па дэстабілізацыі і паглынанні Беларусі Расіяй.

Цікава, што бацька Ільі Мелітоўскага — Станіслаў Васільевіч Мелітоўскі (змяніў імя з Вячаслава на Станіслаў) — ваяваў у Афганістане і Косаве, меркавана, мае званне падпалкоўніка, і з 2015 года знаходзіцца ў Сімферопалі, на тэрыторыі акупаванага Расіяй Крыму.

Характэрна, што на гэты момант вайсковы аташат пры Амбасадзе РФ у Беларусі застаецца пакуль без свайго кіраўніка. Напачатку кастрычніка 2019 года аташэ ў пытаннях абароны Раман Спірыдонаў быў адкліканы з Мінска, меркавана, праз раскрыццё яго выведвальна-агентурнай дзейнасці. Паводле інфармацыі некаторых крыніцаў, ён з'яўляецца кадравым контрвыведнікам з вялікім баявым досведам і Зоркай Героя Расіі. У Беларусі ён працаваў працяглы час і мог спрычыніцца да значнага павелічэння ўразлівасці ўсёй сістэмы нацыянальнай бяспекі Беларусі.

Яшчэ адным прадстаўніком сілавога блоку ў складзе расійскай амбасады ў Беларусі з 2018 года з'яўляецца дарадца Антон Іванавіч Аляксандраў.

Палкоўнік паліцыі Антон Аляксандраў непасрэдна прадстаўляе ў нашай краіне Міністэрства ўнутраных спраў РФ. Падтрымлівае сувязі з наменклатурай і прадстаўнікамі МУС РБ на нацыянальным і рэгіянальным узроўні.

Адной з найбольш знакавых постацяў з дыпламатычнага складу расійскай амбасады ў Беларусі можна назваць першага сакратара Леаніда Макурава, які пачаў выконваць свае паўнамоцтвы ў Беларусі з першай паловы 2017 года.



**Антон Алясандраў.** Фота duma.bryansk.in

# у Беларусі: рэзідэнтура

З гэтага ж года ён пачаў здзяйсняць абавязкі старшыні, а зараз з'яўляецца намеснікам старшыні прадстаўніцтва ў Беларусі Федэральнага агенцтва па справах СНД, суайчыннікаў, што жывуць за мяжой, і па міжнароднай гуманітарнай супрацы. Гэты дзяржаўны орган, падначалены МЗС РФ і падпарадкаваны непасрэдна Пуціну, мае скарочаную назву «Россотрудничество». Сваю гісторыю ён вядзе ад Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, якія напачатку 1990-х гадоў былі трансфармаваны ў «Росзарубежцентр». Усе гэтыя органы выкарыстоўваліся для забеспячэння легальнай дзейнасці за мяжой супрацоўнікаў КДБ, а затым іх пераемнікаў з ФСБ. У функцыі «Россотрудничества» ўваходзяць культурніцкія і навуковыя сувязі за мяжою, але перадусім гэтае федэральнае ведамства ёсць поўнамаштабным сродкам расійскай прапаганды, інкубатарам шматлікіх (пра) расійскіх арганізацый і рэалізатарам стратэгіі «мяккай сілы» ў краінах свайго базавання.

Леанід Генадзевіч Макураў нарадзіўся ў 1955 годзе ў Ніжнім Тагіле. Вядома, што на працягу чатырнаццаці гадоў, з 1976-га па 1990-ы, ён праходзіў вайсковую службу ва Узброеных сілах. У 1995-м, дзякуючы значнаму вайсковаму досведу, ён увайшоў у экспертна-кансультатыўную раду Дзяржаўнай Думы РФ па праблемах нацыянальнай бяспекі, чальцом якой быў да 2001 года. Таксама ў 1995-м ён ачоліў Балтыйскае рэгіянальнае грамадскае аб'яднанне «Безопасность Отечества», у якое ўваходзілі адстаўныя вышэйшыя і старшыя афіцэры. У 1999 годзе Макураў скончыў Акадэмію пры прэзідэнце РФ, а ўжо напачатку 2000-х выступіў у ролі пасярэдніка ў перамовах па гандлі караблём у Грэцыю караблёў на паветранай падушцы «Зубр» і сродкаў супрацьпаветранай абароны. У 2001-м ён стаўся віцэ-прэзідэнтам выдавецкага дому, а потым і медыягрупы «Русский предприниматель», станам на 2006 год быў галоўным рэдактарам аднайменнага часопіса, сярод заснавальнікаў якога, апроч іншых, была рэгіянальная грамадская арганізацыя ветэранаў знешняй выведкі. Цікава, што гэты часопіс выступіў адным з заснавальнікаў установы «Центр динамического консерватизма» Віталя Авяр'янава — намесніка старшыні чарнасоценнага «Изборского клуба».

Леанід Макураў падчас кіравання гэтым выданнем стаўся адным з ініцыятараў стварэння так званай «Русской Доктрины», якую яго стваральнікі называюць у якасці патэнцыйнага асноўнага праграмнага дакумента «русского мира». Адным з экспертаў, які ўдзельнічаў у напісанні асобных палажэнняў гэтай дактрыны, стаў Аляксандр Барадай — удзельнік спецаперацыі па захопе Крыму, колішні так званы прэм'ер-міністр і старшыня Савету міністраў тэрарыстычнага ўтварэння «ДНР», кіраўнік «Союза добровольцев Донбасса».

У 2005 годзе Макураў заснаваў выдавецтва з вельмі характэрнай назвай «Лубянская площадь». З 2005-га па 2009-ты працаваў у структурных падраздзяленнях «Газпрома». У 2008 годзе скончыў Расійскі дзяржаўны універсітэт нафты і газу. З 2009-га стаў галоўным дарадцам, намеснікам начальніка Дэпартамента інфармацыйна-аналітычнага забеспячэння Упраўлення прэзідэнта РФ. Прыблізна ў гэты ж час у яго кар'ернай біяграфіі пачынаецца «казацкі» перыяд.


**Аляксандр Барадай.** Фота topwar.ru

Пэўны час Макураў быў чальцом кіравання Цэнтральнага казацкага войска, дзе адказваў за аналітычную працу. З 2011-га ачольваў Камітэт па справах казацтва Масквы і паралельна з'яўляўся атаманам рэестравай маскоўскай акруговай казацкай грамады. Апроч гэтага быў дарадцам старшыні Савета пры прэзідэнце РФ па справах казацтва. Менавіта Макураву належыць ідэя патрулявання расійскай сталіцы казацкімі спецатрадамі, якіх пачалі актыўна ўжываць для разгонаў акцыяў расійскай апазіцыі.


**Казацкі палкоўнік Леанід Макураў**

Не дзіўна, што з самага пачатку сваёй дзейнасці Макураў актыўна пачаў прасоўваць у Беларусі вельмі блізкую яму тэму казацтва. У верасні 2017 года ён асабіста курыраваў сустрэчу, ініцыяваную прадстаўніцтвам «Россотрудничество» з казацкімі парамілітарнымі фарміраваннямі, якія функцыянуюць на тэрыторыі нашай краіны. Фармальнай мэтай сустрэчы было абмеркаванне пытанняў пашырэння сувязяў з расійскім казацтвам. Для прыкрыцця гэтай дзейнасці было запланавана стварыць Цэнтр вывучэння казацкай культуры, які б дзейнічаў пры Расійскім цэнтры навукі і культуры ў Мінску. У траўні 2019-га ён асабіста прысутнічаў на Фэсце славянскіх адзінаборстваў у Гродна, аднымі з арганізатараў якога з'яўляецца парамілітарнае казацкае аб'яднанне «Нёманские казаки» і клуб «Аридан», які ўзначальвае так званы гродзенскі казацкі атаман Уладзімір Адамаў. А ў чэрвені Макураў асабіста адкрываў Фэст казацкай песні «Гайда».

У жніўні 2019-га Леанід Макураў удзельнічаў у адкрыцці чарговага расійска-беларускага злёту так званай казацкай моладзі ў Смаленскай вобласці. Прадстаўнікі сілавых ведамстваў РФ навучалі дзяцей, у тым ліку з Беларусі, разборцы-зборцы аўтаматаў Калашнікава, праводзілі з імі заняткі рукапашнага бою.

Апроч курыравання казацкага напрамку, Леанід Макураў у статусе першага сакратара Амбасады РФ вельмі актыўна займаецца ў Беларусі пытаннямі культурніцкага і адукацыйнага ўзаемадзеяння з расійска-беларускім памежным рэгіёне.

У кастрычніку 2018 года ў Віцебску прайшоў расійска-беларускі Фэст моладзі памежжа з красамоўнай назвай «С чего начинается Родина?», на якім Макураў прысутнічаў асабіста. Паводле інфармацыі дзяржаўных СМІ, гэтае мерапрыемства сабрала прыблізна 500 удзельнікаў з Віцебскай і Смаленскай абласцей. Непасрэдную супрацу з беларускім школьніцтвам і студэнцтвам здзяйсняе «Российский союз молодежи», які практычна штомесяц праводзіць супольныя мерапрыемствы са студэнтамі Віцебшчыны. У межах форуму адбыўся таксама сход маладых настаўнікаў.

Вельмі актыўна дзейнічае Макураў і на Магілёўшчыне. На гэты момант рэгіён перанасычаны супольнымі з Расіяй навучальна-адукацыйнымі ўстановамі, (пра)расійскімі грамадскімі і культурніцкімі арганізацыямі, праваслаўнымі парамілітарнымі фарміраваннямі. Падобная актывізацыя інстытуцыяў «русского мира» вельмі нагадвае сітуацыю, якая склалася на Данбасе на этапе падрыхтоўкі да пачатку ваеннай гібрыднай агрэсіі РФ супраць Украіны. Расійскія дыпламатычныя структуры досыць шчыльна працуюць з магілёўскім сацыяльна-культурніцкім грамадскім аб'яднаннем «Наследие» і смаленскай асацыяцыяй «Агентство интеграционных инициатив» перадусім у праектах трансмежнай рэгіянальнай супрацы. Кіраванне справамі прэзідэнта Расіі здзяйсняе пры гэтым грантавую падтрымку. Напрыклад, сёлета фінансаванне атрымаў праект «Днепро-Двинский регион — регион возможностей», які скіраваны ў першую чаргу на непасрэднае заангажаванне моладзі Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай абласцей у інтэграцыйны працэс СГ.

Згаданае аб'яднанне «Наследие» — таксама адно з арганізатараў разнастайных творчых мерапрыемстваў, якія праводзяць у Магілёве, у тым ліку з падтрымкай мясцовага Беларуска-Расійскага ўніверсітэту. Значная іх частка прысвечана пераважна ВАВ, а магістральная тэма — «защита единого Отечества» і «борьба многонационального народа Советского Союза с фашизмом». У гэтыя мерапрыемствы залучаюць навучэнцаў не менш чым дзесяці сярэдніх школаў Магілёва. Асабістая прысутнасць на іх Макурава ў якасці першага сакратара можа сведчыць пра здзяйсненне своеасаблівага ментарскага нагляду з боку расійскай амбасады.

У снежні 2018 года Макураў удзельнічаў у адкрыцці канферэнцыі, якая была прысвечаная асобе Жукава і праходзіла ў Доме Масквы ў Мінску. У гэтае мерапрыемствы былі залучаныя беларускія вучні. А ў 2019 годзе Леанід Макураў быў адным са стваральнікаў у Беларусі літаратурнага конкурсу «Мы помним. Мы гордимся», у якім апроч некалькіх сотняў навучэнцаў з больш як 80 адукацыйных устаноў Беларусі, удзельнічалі таксама і прадстаўнікі «ДНР».

Падобныя мерапрыемствы, якія выкарыстоўваюць тэму вайны, а насамрэч з'яўляюцца неад'емнай часткай расійскай прапаганды так званага «единого Отечества» і «одного (разделенного) народа», структуры расійскай амбасады і «Россотрудничество» рэгулярна праводзяць ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Аб'ектам выступаюць перадусім навучэнцы беларускіх адукацыйных установ. Пры гэтым здзяйсняюцца і спробы аб'яднання адукацыйнага працэсу. Леанід Макураў анансаваў рэалізацыю праекту «Кадетство», які павінен аб'яднаць не толькі кадэцкія вучэльні, але нават кадэцкія класы на тэрыторыі Расіі і Беларусі.

У выніку правядзення расследавання выяўлены яшчэ адзін «казацкі» прадстаўнік са складу расійскага дыппрадстаўніцтва ў Беларусі, які можа ўтвараць разам з Леанідам Макуравым цэлую асобную групу па пытаннях казацтва. Ім з'яўляецца аташэ Амбасады РФ Кірыл Адзінёў (рус. — Кирилл Одинев), які пачаў выконваць свае функцыі на тэрыторыі Беларусі, мяркавана, з першай паловы 2015 года.



Кірыл Уладзіміравіч Адзінёў нарадзіўся ў 1973 годзе ў Маскве. У 1996-м скончыў Вайсковую акадэмію імя Дзяржынскага (сёння — ВА РВСН імя Пятра Вялікага), навучаўся на Кафедры аўтаматызаваных сістэм кіравання і сувязі. У 2005-м скончыў Дыпламатычную акадэмію МЗС РФ. Праходзіў курс польскай мовы ў Польскім інстытуце ў Мінску.

Падчас вывучэння акаўнту сацсеткі «VK» Адзінёва сярод яго сяброў выяўленыя не толькі прадстаўнікі расійскага казацтва, але і баевікі тэрарыстычнага ўтварэння «Л/ДНР».

Нягледзячы на тое, што Адзінёў з'яўляецца супрацоўнікам расійскай амбасады, ён адкрыта спрабуе насміхацца з жыхароў Беларусі і кіраўніка дзяржавы, у якой здзяйсняе свае дыпламатычныя функцыі.



**Скрыншот акаўнту сацсеткі «FB» Кірыла Адзінёва**

Больш прыстойна і з захаваннем дыпламатычнага пратаколу паводзіць сябе кіраўнік Гандлёвага прадстаўніцтва пры Амбасадзе РФ Юрый Залатароў, які пачаў дзейнасць у нашай краіне з 12 красавіка 2019 года. Важная асаблівасць — ён шчыльна звязаны з Міхаілам Бабічам.

Як і афіцэр ГРУ Аляксей Сухаў (гл. першую частку) быў памочнікам і намеснікам паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта РФ у Прыволжскай Федэральнай акрузе (ПФА), дзе курыраваў блок сацыяльных праектаў. Характэрна, што перад сваім прызначэннем у ПФА Залатароў працаваў менавіта ў Мінэканомразвіцця РФ, меў пасаду намесніка дырэктара Дэпартаменту Азіі і Афрыкі.


**Юрый Залатароў.** Фота fo.gov.ru

Пасля адкліканія з пасады амбасадара ў Беларусі Міхаіл Бабіч быў прызначаны намеснікам кіраўніка Міністэрства эканамічнага развіцця РФ, а 30 верасня яго падвысілі да першага намесніка міністра. Паводле слоў кіраўніка Мінэканомразвіцця Максіма Арэшкіна, адна з галоўных задачаў Бабіча на новай пасадзе — актыўны ўдзел у максімальнай ступені інтэграцыі ў межах СГ. З улікам велізарнай дыспрапорцыі эканамічных патэнцыялаў Беларусі і Расіі вядзецца перадусім пра эканамічнае, а разам з гэтым і палітычнае паглынанне нашай краіны.

Відавочна, Юрый Залатароў адыгрывае вельмі важную ролю ў межах рэалізацыі пастаўленых перад Міхаілам Бабічам задачаў па беларуска-расійскай эканамічнай інтэграцыі.

У наступнай частцы мы працягнем раскрыццё звестак пра прадстаўнікоў расійскай амбасады ў Беларусі, зробім акцэнт на непасрэдных рэалізатарах расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў нашай краіне.

Азбука паліталогіі

# У сабачкі баліць, у коціка баліць, а ў выбаршчыка — гаіся-загаіся



Сяргей НІКАЛЮК

**«Усё разумнае рэальнае, усё рэальнае разумна», — сцвярджаў нямецкі філосаф Гегель. Разумны быў мужык, словаў на вецер не кідаў.**

Сказанае класікам тычыцца і беларускіх выбараў, чыя гісторыя неаддзельная ад гісторыі грамадства, краіны і дзяржавы. Больш за тое, нішто так не паўплывала на фарміраванне беларускай дзяржавы, як выбары. У сваю чаргу, дзяржава ў даўгу не засталася: своеасаблівасць беларускіх выбараў — прамое следства своеасаблівасці дзяржавы.

Такі вось нацыянальны аналаг гісторыі з курыцай і яйкам, у якім назіральніку збоку і без паўлітра не разабрацца, што тут першаснае, а што другаснае. «Дыялектыка, аднак», — як сказаў бы вядомы персанаж з анекдотаў, і абсалютна меў бы рацыю.

Выбары — гэта не даніна сучаснай модзе ці савецкай спадчыне. Нашы продкі шляхам галасавання яшчэ ў IX стагоддзі вырашалі, каго паклікаць на княжанне, а каго выгнаць. На жаль, у XXI стагоддзі такой магчымасці беларусы пазбаўленыя, і адбылося гэта не з прычыны ціску з боку «нашай Расіі». Не, усё значна прасцей — і таму больш сумна. Адмова ад права клікаць і выганяць князёў аформілася ў Беларусі неяк сама сабой, г.зн. іманентным парадкам (ад лацінскага immanens — «той, хто знаходзіцца ўнутры»).

Згодна з Вікіпедыяй, «выбары — адна з найбольш распаўсюджаных формаў удзелу грамадзян у грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, важны інстытут функцыянавання палітычнай сістэмы і палітычнага рэжыму, іх легітымнасці».

Справядлівасць такога вызначэння неаднаразова пацвярджалі даследаванні сацыёлагаў НІСЭПД. У прыватнасці, у чэрвені 2016 года ў лідарах пры адказе на пытанне: «Калі вы цікавіцеся палітыкай, то ў чым выяўляецца гэтая цікавасць?» апынуўся варыянт: «Галасую на выбарах» (66%). На другім жа месцы з больш чым двухразовым адставаннем прытуліўся варыянт «абмяркоўваю палітычныя падзеі з сябрамі» (31%).

Цікава, пагадзіцеся. Беларусы галасуюць часцей, чым абмяркоўваюць палітычныя падзеі! Але ў гэтай нацыянальнай асаблівасці ёсць свая логіка. Беларуская палітыка — як і яе савецкая папярэдніца — пабудаваная на выкананні абмежаванай колькасці рытуалаў. Выбары — адзін з іх, і арганізуюцца яны «дзяржавай для народа» як відовішча, таму іншай актыўнасці, акрамя глядацкай, ад народу і не патрабуецца. Абмеркаванне — гэта ўжо вышэйшы пілатаж. Круціць палітычныя «мёртвыя петлі» і «бочкі» здольныя нямногія, ды ў тым і няма патрэбы.




## З поля — у загон

IX стагоддзе — гэта глыбокая старажытнасць, але і за паўтары тысячы гадоў да нашых продкаў грэкі збіраліся на гарадскіх плошчах для таго, каб шляхам галасавання вырашаць пытанні — ад паўсядзённых да абвяшчэння вайны і заключэння міру.

У наш час для вырашэння пытанняў нацыянальнага маштабу народ на плошчах не збіраюць. Тое, што працавала ў гарадах-дзяржавах, аказваецца неэфектыўным па прычыне прынцыпова іншага маштабу. Выключэнні з агульнага правіла, зразумела, сустракаюцца. Дастаткова прыгадаць краіну прамой дэмакратыі — Швейцарыю, у якой на рэферэндумы выносяцца законы, прынятыя парламентам. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што звычайна швейцарцам даводзіцца галасаваць як мінімум чатыры разы на год.

Швейцарыя — краіна дэмакратычная. Электаральная актыўнасць яе грамадзян здзіўлення не выклікае, аднак і большасць грамадзян аўтарытарных краін галасуе рэгулярна. У чым іх інтарэс, і ў чым інтарэс арганізатараў галасаванняў?

Даследаванні аўтарытарных рэжымаў адназначна сведчаць, што аўтакрат з выбарамі жыве нашмат даўжэй (а часта і лепей), чым без іх. «Правільна» арганізаванае «народнае волевыяўленне» адыгрывае ролю своеасаблівага аналагу ахоўнага клапана паравога катла.

Вось як яго працу апісвае расійскі палітолаг Глеб Паўлоўскі: «Выбаршчык — гэта "пятая калона", самая небяспечная. Так, яму выбары не патрэбныя. Але паспрабуйце іх адмяніць — і вы ўбачыце, што ён пачне скардзіцца. Прычым скардзіцца будзе не на адсутнасць выбараў, а на нейкія нязначныя праблемы — цэны ў крамах, тое ды сёе, і яму можа раптам нават падацца, што і Амерыка не такі вораг. Гэта значыць, няма спосабу адмовіцца ад тэлепастаноўкі, якая мае рэйтынг. А выбары маюць рэйтынг, гэта элемент нашай тэлепастаноўкі. Патрэбны вельмі добры серыял, каб замяніць выбары».

Нагадаю чытачам прыказку, якую маладыя матулі прамаўляюць, дзьмухаючы на пабітыя калені сваіх малых: «У сабачкі баліць, у коціка баліць, а ў Васілька гаіся-загаіся».

Сумняваюся, што хоць бы 1% маладых матуль знаёмы са спісам з 10 метадаў маніпулявання чалавечай свядомасцю, складзеным прафесарам лінгвістыкі Масачусецкага тэхналагічнага інстытута Наамам Хомскі. Матулям цалкам хапае інтуіцыі для разумення галоўнага, а галоўным, на думку амерыканскага прафесара, з'яўляецца «адцягненне ўвагі людзей ад важных праблем і рашэнняў, якія прымаюцца кіруючымі коламі, з дапамогай пастаяннага насычэння інфармацыйнай прасторы нязначнымі паведамленнямі».

Адцягненне ўвагі, тут я дазволю сабе яшчэ адну цытату, дапамагае «дасягаць таго, каб грамадзяне пастаянна былі чымсьці занятыя і ў іх не заставалася часу на разважанні; з поля — у загон, як і ўсе іншыя жывёлы».

## А нічога больш і не трэба

«Хто валодае інфармацыяй, той валодае светам». Аўтарства гэтага афарызму прыпісваюць англійскаму банкіру Натану Ротшыльду. Афарызм не страціў сваёй актуальнасці і ў наш час, але яго можна ўзмацніць, замяніўшы слова «інфармацыя» на фразеалагізмы «інфармацыйны шум» або «інфармацыйнае смецце».

Выбары спрыяюць стварэнню ідэальных умоваў для генерацыі інфармацыйнага шуму і смецця, прычым на любы густ і ў неабмежаваных колькасцях: ад справаздач з нагоды росту дабрабыту насельніцтва, да маляўнічых апісанняў чарговых падкопаў унутраных і знешніх ворагаў, якія імкнуцца разбурыць «нашу стабільнасць».

У якасці прыкладу прывяду адказ спадара Давыдзькі, далёка не апошняга чалавека ва ўладнай іерархіі, які ён даў на нязручнае пытанне журналіста: «Я са здраднікамі не размаўляю, паколькі вы працуеце на замежную дзяржаву і хочаце дэстабілізацыі нашай краіны. Вы з'яўляецеся ворагам дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь і нашай незалежнасці. Мы бачым Юду з трынаццаццю (?!) сярэбранікамі ў кішэні».

Ведай нашых! Дзяржаўнікі такога ўзроўню на дарозе не валяюцца. Па слова ў кішэню яны не лезуць, што і адзначыў адзіны палітык, размаўляючы 17 кастрычніка з журналістамі на выбарчым участку: «Я думаю: "вось калі б людзі Давыдзьку падтрымалі — ён бы мог узначаліць камісію па сродках масавай інфармацыі". [Камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ. — Рэд.] Што ў гэтым дрэннага?! Вы хочаце з ім на беларускай мове размаўляць — ён будзе па-беларуску з вамі размаўляць, вельмі выдатна. Даша [журналістка тэлеканала "Мір". — Рэд.] прыйдзе па-руску з ім пагаварыць — ён і па-руску пагаворыць. Што яшчэ трэба?»

А нічога больш і не трэба. Беларусы — яны ж «рускія са знакам якасці», палітыку дзяржавы разумеюць правільна. Паўтараць ім нешта двойчы — марнаваць час.

## Як бы гэта мякчэй сказаць…

Выбары — не проста працэс галасавання, выбары — гэта абмеркаванне грамадствам праблемаў, якія хвалююць грамадзян. На жаль, падобнага вопыту ў беларусаў няма, і запазычыць яго няма адкуль.

Афіцыйным прадстаўнікам інтэлектуальнай эліты, чыім найважнейшым абавязкам з'яўляецца фарміраванне культурных узораў, прапанаваць няма чаго, акрамя ўзораў лаяльных паводзінаў. У мінулым вопыце — суцэльнае адзінства партыі і народа. На яго не абаперціся. Краіна пад кіраўніцтвам камуністаў 73 гады маршыравала верным курсам — і ў выніку апынулася, як бы гэта мякчэй сказаць… (прапаную чытачам самастойна абраць патрэбнае слова).

Аднак не варта ўсё валіць на тых, хто наверсе. «Кожнае грамадства, — тлумачыць расійскі палітолаг Мікалай Пятроў, — заслугоўвае не толькі сваіх кіраўнікоў, але і свае выбары».

Нашы выбары — гэта акламацыі, г.зн. «спрошчаны парадак прыняцця або адхілення якога-небудзь рашэння на аснове рэакцыі ўдзельнікаў, што выказваецца ў выглядзе апладысментаў, воклічаў, рэплік і іншага непасрэднага (нефармальнага) выяўлення свайго меркавання».

Чакаць іншых паводзін выбаршчыкаў у бедных краінах не даводзіцца. Тыя, хто не ўносіць прыкметны падатковы ўклад у бюджэт, заўсёды галасуюць за бясплатныя даброты. А такога кшталту даброты абяцаць могуць толькі палітыкі-папулісты.

Тым не менш, сучасныя выбары — гэта своеасаблівыя палітычныя «чорныя дзіркі», здольныя паскараць гістарычны час. Яны ўжо неаднаразова давалі старт «каляровым рэвалюцыям» на постсавецкай прасторы, дый не толькі на постсавецкай. Таму страх перад выбарамі, нягледзячы на тое, што ўсё схоплена, ніколі не пакідае іх арганізатараў.

**Беларуская палітыка пабудаваная на выкананні пэўных рытуалаў. Выбары — адзін з іх, і арганізуюцца яны «дзяржавай для народа» як відовішча, таму іншай актыўнасці, акрамя глядацкай, ад народу і не патрабуецца**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (159)
(лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Бэтмэн супраць Быкава: масавае і элітарнае



Людміла СІНЬКОВА

**Мы жывем у часы, калі лёгкае чытво ў крамах усяго свету актыўна выцясняе з кніжных паліц элітарную літаратуру.**

Беларусь тут не выключэнне. Варта, напрыклад, зайсці ў Цэнтральную кнігарню Мінска на праспекце Незалежнасці і паглядзець, што за кнігі гартаюць патэнцыяльныя пакупнікі. Мы адразу ўпэўнімся, што большасць цікавіцца ўзорамі так званай масавай літаратуры. Пра гэты факт варта задумацца спецыяльна.

## Што такое масавая літаратура?

Масавымі лічацца кнігі, у якіх пра што заўгодна расказваецца элементарна, «на пальцах»: гэта папулярныя думкі ў папулярных формах, гэта «простыя словы, простыя рэчы» для «простага» чытача.

Вось тут і трэба агаварыцца. Ёсць рознае «простае». Ёсць, безумоўна, зусім прымітыўнае, белымі ніткамі шытае.

Але ў большасці выпадкаў гаворка пра іншае. Калі дасціпныя Міхал Анемпадыстаў і Лявон Вольскі (аўтары песні са знакамітым слоганам пра простыя словы і простыя рэчы) маюць на ўвазе «хлеб на стале і полымя ў печы», дом, сям'ю, наш беларускі свет, то мы разумеем: насамрэч гэта зусім не элементарна — пабудаваць свой дом, вырасціць сына, зладзіць агмень. І мы адчуваем усмешку аўтараў, перажываем эйфарыю, слухаючы Вольскага: як гэта здорава, што творцы змаглі перафармацыраваць у папулярны слоган нашы сакральныя сэнсы.

Аналагічна: чытаючы Быкава, ніхто не думае, што «У тумане» — гэта толькі дэтэктыў. Любому ясна, што тут форма дэтэктыва абслугоўвае Быкава, а не наадварот (і ў фільме Сяргея Лазніцы 2012 года па Быкаву, трыумфатары 65-га Канскага фестывалю, той жа дэтэктыў абслужыў арт-хаус). Банальны прыклад такога ж кшталту — амаль увесь Дастаеўскі.

І наадварот: кароткі слоган на тэму «Нигде, кроме / как в Моссельпроме» (нават калі яго аўтар — сам Маякоўскі) — гэта ўсяго толькі масавая рэклама. А дэтэктыў, у якім няма нічога звыш таго, што нехта некага забіў, у кагосьці штосьці скраў ці падмануў чужую жонку — гэта толькі масавае чытво: разгадванне крыжаванкі, скакалка для мазгоў, вінпацэцін.

## Чаму літаратура для мас такая папулярная ва ўсім свеце?

Вядома, у іншых народаў таксама ёсць свая міфалогія, казкі, літаратура і культура — але няма такіх тэхналагічных і фінансавых магчымасцяў, каб трансляваць уласнае светабачанне ўсім і кожнаму, хто ахвочы спажываць прафесійна прыгатаванае і ўпакаванае.

Але, можа быць, нават больш важная за эканоміку тут псіхалогія: масавая літаратура актыўна і наўпрост звяртаецца да нашага ўнутранага жыцця — да нашых патаемных жаданняў, мар, нашай фантазіі, уяўленняў пра будучыню, нашай прагі незвычайных прыгод і асалод, яскравых эмоцый... Не толькі да свядомага, але і да падсвядомага, да інстынктаў, страхаў і комплексаў. Фрэйд з яго тэзісамі пра сублімацыю ў XXI стагоддзі аказаўся суперактуальным.

І калі чалавек не хоча засмучаць сябе надзвычай траўматычнай праўдай пра рэальныя войны і чарнобылі, сацыяльны гвалт і абсурд, то відовішчы гвалту ў трылерах, дзе брутальнага героя лупяць жалезным прэнтам па галаве, а ён пасля гэтага ўсіх лупіць двума прэнтамі, якраз глядзіцца ледзь не з катарсісам.

## Ці вінаватыя людзі ў тым, што любяць масавую літаратуру?

У любові, кажуць, ніхто не вінаваты. Сярэднестатыстычны чытач вінаваты хіба ў тым, што ён лэйзі — гультай. Ён хоча толькі пасіўна спажываць, стоячы ля прыгожай вітрыны, інфантыльна ідучы за мерчандайзерам (тавараведам-рэкламшчыкам), не даючы сабе працы задумацца, што можна шукаць у кніжнай краме...



Фота www.spectator.co.uk

Ён падатлівы, ён гатовы саступіць: нашто чытаць «У тумане» (экзістэнцыйную драму), калі можна — Марыніну (мікс дэтэктыва з жаночай прозай)? Нашто глядзець яшчэ і нізкабюджэтны «Салярыс» (філасофскую прытчу), калі можна — толькі найвысокабюджэтны «Аватар» (казку-фэнтэзі)?

Але чытацкая падатлівасць — якасць перспектыўная, яна дазваляе чытачу расці. Асабліва, калі рост пачынаецца ў юнацкія гады і з такіх выдатных аўтараў, як Эдгар По і Уладзімір Караткевіч, Агата Крысці і Людміла Рублеўская, Баляслаў Прус і Уладзімір Арлоў... Такое чытанне выхоўвае густ і вучыць выбіраць!

## Чаму мы аднойчы ўсё ж абавязкова выбіраем класіку?

Чаму аднойчы абавязкова запальваем свечку? Таму што ў душы кожны ведае, што ёсць на свеце рэчы вялікія, абсалютныя, светланосныя, пра якія гаворыць нам Слова. Слова — гэта Бог (так запісана Янам Багасловам). Ніякі рэнтген не можа выявіць у чалавечым целе душу. Гэта можа толькі слова. І калі мы захочам адчуць трывалае апірышча для сваёй душы ў нейкую змрочную часіну, або прыгадаць некалі перажытую асалоду ад гармоніі і хараства, дасціпу, якія заўсёды можна знайсці ў слове, мы адкрываем сур'ёзныя кнігі.

## Чаму Бэтмэн ніколі не пераможа Быкава?

Калі запытацца ў мінака на вуліцы пра яго любімыя кнігі, то чалавек, калі ён не жартуе, памкнецца ўсё ж назваць і нешта аўтарытэтнае. Сярод значных для сябе ён назаве і тыя творы, што замацаваны грамадствам у высокім аксіялагічным рэгістры. Інстынктыўна кожны адчувае: кругагляд сучаснага чалавека не павінен быць абмежаваны толькі нейкім культурным фаст-фудам.

Ды і яшчэ адно тлумачэнне такому выбару ёсць.

Літаратура для мас ніколі не пераможа класіку, не зможа заняць яе месца найперш таму, што кожнаму чалавеку наканавана расці і сталець.

Няхай сабе многія школьнікі з Пушкіна найтрывалей запамінаюць фразу «выпьем с горя; где же кружка? / Сердцу будет веселей», а выраз «и мальчики кровавые в глазах» звязваюць выключна з якімі-небудзь разборкамі. Аднак гэта ж не азначае, што трэба выкінуць са школьнай праграмы пушкінскага «Барыса Гадунова» на карысць якой-небудзь «Гаўрыліяды» або пакінуць толькі верш «Зімні вечар».

Калі з «Палескай хронікі» вучні найлепш запамінаюць гісторыю кахання Васіля, Ганны і Яўхіма, то гэта яшчэ не значыць, што настаўнік павінен трактаваць Мележа як «Богатые тоже плачут», каб навучыць падлеткаў любові да беларускай літаратуры і культуры, развіць інтэлект.

Няхай у купалаўскай страфе — «Сярод раз'юшаных сатрапаў / Крывавы зладзіўшы хаўрус, / Свае таргуюць і чужыя / Табой, няшчасны беларус» — хтосьці напачатку будзе разумець толькі адно словазлучэнне: «няшчасны беларус»... няхай напачатку з кімсьці будзе менавіта так.

Але ж усе школьнікі абавязкова вырастуць. І важна, каб будучыя дарослыя з гэтай страфой, з цэлай Атлантыдай літаратурнай класікі і захаванай у ёй культуры проста не размінуліся. Тады ў іх застанецца шанс яшчэ з ёю сустрэцца, многае зразумець.

Бо ў дарослым жыцці менавіта сур'ёзнае, культурай напоўненае слова дае сэнс, апірышча, арыенціры для быцця ў гэтым свеце. Такую функцыю пісьменства для рэлаксу (таксама ж патрэбнае!) выконваць не здатнае. Яно, як правіла, якраз дэзарыентуе — на карысць таго, хто «трымае бізнес».

Калі ж чытач хоча ўсё жыццё заставацца інфантылам, выключна звяном у «харчовым» ланцужку, то гэта яго асабістая праблема. Класічная літаратура тут ні пры чым. А вось інтэлігенцыя — «пры чым»: сцвярджаць сапраўды вартае належыць у першую чаргу ёй.

# Права на ганарар

Алена НЯПАЛЬСКАЯ

**PLR (Public Lending Right) — кароткая абрэвіятура, вядомая кожнаму пісьменніку ў краінах Еўрапейскага Саюза. Яе можна перакласці так: права на ганарар аўтарам за бясплатнае выкарыстанне іх матэрыялаў/твораў у публічных установах.**




Дзейнічае права наступным чынам: чытач прыходзіць у бібліятэку, замаўляе кнігу, а дзяржава выплачвае пісьменніку-аўтару за гэта грошы. Выплаты залежаць ад таго, як часта бралі кнігу. Для аўтара ў любой краіне свету рэалізацыя гэтага права вельмі важнае, паколькі дазваляе атрымліваць фінансавую дапамогу для далейшай творчасці.

Права на ганарар за кнігі, што знаходзяцца ў публічным бясплатным карыстанні, не ўзнікла само па сабе — гэта вынік доўгага працэсу, і канешне ж, барацьбы аўтараў за свае правы. Так, Марын Дафі, пісьменніца, якая цягам 20 гадоў змагалася за гэтае права ў Брытаніі (яно было прынятае ў 1979 годзе), характарызуе PLR наступным чынам: «У першую чаргу PLR падтрымлівае прынцып «няма карыстання без аплаты», што ляжыць у аснове канцэпцыі «справядлівай ці заслужанай узнагароды», якая ў сваю чаргу распаўсюджваецца на ксеракапіраванне і лічбавы распаўсюд. Гэтая канцэпцыя абапіраецца на Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, згодна з ёю мы маем права атрымліваць прыбытак ад любой эксплуатацыі нашай працы. Калі сцвярджаецца, што гэта перашкаджае іншаму агульначалавечаму праву — доступу да ведаў да культуры — наш адказ просты: дзеянне гэтага прынцыпу дазваляе нам ствараць новыя кнігі. Мы ж не патрабуем ад настаўнікаў працаваць дарма».

У цяперашні час PLR-сістэма дзейнічае ў 33 краінах свету. Права на ганарар за творы, што знаходзяцца ў публічным выкарыстанні, прызнанае заканадаўствам Еўрапейскага Саюза з 1992 года, і ўсе, акрамя чатырох краін, якія маюць сістэмы PLR, знаходзяцца ў Еўропе.

Данія была першай краінай, якая ўсталявала сістэму PLR у 1946 годзе, затым былі Нарвегія (1947 год) і Швецыя (1954 год). А сама ідэя «Права на ганарар за творы ў публічным бясплатным карыстанні» ўзнікла ў 1919-ым, калі Асацыяцыя паўночных аўтараў прыняла пастанову, у якой заклікала ўрады кампенсаваць аўтарам, кнігі якіх знаходзяцца ў бібліятэках, карыстанне імі.

Новая Зеландыя была першай краінай за межамі Еўропы, якая ўстанавіла сістэму PLR у 1973 годзе, за ёй — Аўстралія (1974 год), Канада ды Ізраіль (1986 год).

Каля 26 іншых краін прызнаюць законнае права аўтараў ліцэнзаваць карыстанне сваімі творамі, але ў гэтых краінах яшчэ не створаны сістэмы кампенсацыі. Апошняя краіна, дзе пачала працаваць гэтая сістэма — наша суседка Польшча. У ёй у 2016 годзе былі зроблены першыя выплаты аўтарам за карыстанне іх кнігамі ў публічных бібліятэках.

### Прававая аснова PLR

Такім чынам, большасць сістэм PLR існуе ў Еўропе, дзе краіны-чальцы Еўрапейскага Саюза абавязаны надаваць аўтарам эксклюзіўнае права дазваляць альбо забараняць выдачу іх твораў бібліятэкамі. Аднак урады гэтых краін могуць адступіць ад гэтага права пры ўмове, што яны ўзнагароджваюць аўтараў за «пазыку» іх твораў.

Права на ўзнагароду-ганарар не з'яўляецца абавязковым патрабаваннем закона аб Аўтарскім праве, і ўрады па-за Еўрапейскім Саюзам не абавязаны ствараць падобныя сістэмы. Напрыклад, у Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы і Азіі няма сістэм PLR. Адзіныя краіны па-за Еўропай, якія цяпер працуюць з гэтым правам — Аўстралія, Канада, Ізраіль і Новая Зеландыя.

Але ўсё мяняецца… Рэспубліка Малаві і Грэцыя нядаўна ўвялі заканадаўства аб PLR і рыхтуюцца стварыць адпаведныя сістэмы; урад Ганконга таксама пагадзіўся ўвесці PLR; праект закона аб аўтарскіх правах, які прадугледжвае PLR, неўзабаве будзе разглядаць парламент Турцыі.

І — яшчэ пра карысць PLR. Гэтая сістэма таксама можа функцыянаваць як частка структуры падтрымкі дзяржававай яе ўласнай культуры і мовы. У шэрагу еўрапейскіх краін, такіх, як Данія, Нарвегія і Швецыя, PLR выплачваецца толькі аўтарам, якія пішуць на нацыянальнай мове краіны. Сістэмы PLR у Аўстраліі і Канадзе падтрымліваюць аўтараў, якія з'яўляюцца грамадзянамі гэтых краін.

### Як функцыянуе PLR

Фінансава за рэалізацыю Права на ганарар аўтару адказваюць не бібліятэкі (са сваіх фондаў), а рэгіянальныя альбо цэнтральныя ўрады. Ёсць нешматлікія выпадкі, калі грошы паступаюць ад бібліятэк — да прыкладу, у Нідэрландах, бо там публічныя бібліятэкі працуюць як незалежныя інстытуцыі, і PLR разглядаецца бібліятэчнай супольнасцю як законная плата, якая справядліва кампенсуе аўтарам бясплатнае выкарыстанне чытачамі іх твораў.

### Розныя падыходы да выплат PLR

Часцей за ўсё ўзнагароджанне, звязанае з PLR, размяркоўваецца паміж аўтарамі ў выглядзе выплат, звязаных з тым, як часта іх творы знаходзіліся ў карыстанні чытачымі. Такі падыход ажыццяўляецца ў Фінляндыі, Германіі, Мальце, Нідэрландах і Вялікабрытаніі.

Альтэрнатыўны падыход — аплата залежыць ад колькасці кніг/твораў аўтара, якія захоўваюцца ў бібліятэках. Такая сістэма існуе ў Аўстраліі, Канадзе і Даніі.

Іншыя варыянты ўключаюць у сябе плацяжы пры набыцці кніг. Як, да прыкладу, у Францыі, дзе частка агульнага фонду выплат ідзе ад выдаўцоў, калі яны прадаюць кнігу ў бібліятэку. Астатняя частка фонду PLR складаецца з невялікіх выплат, якія ажыццяўляе ўрад за кожнага зарэгістраванага карыстальніка бібліятэкі.

Шмат краін спалучае элементы названых розных падыходаў.

### Хто атрымлівае выплаты PLR

У стварэнні кнігі ўдзельнічаюць не толькі пісьменнікі, але і іншыя асобы: ілюстратары, перакладчыкі, рэдактары і фатографы (якія ў розных юрыдычных сістэмах могуць таксама лічыцца аўтарамі). Паколькі яны ўносяць свой уклад у апублікаванне твора, то могуць прэтэндаваць і на выплату PLR.

Цяпер Права на атрыманне ганарару за публічнае карыстанне творамі распаўсюджваецца як на друкаваныя кнігі, так і на розныя аўдыявізуальныя матэрыялы, у тым ліку аўдыякнігі, якія знаходзяцца ў бібліятэках. Тады права на аплату маюць і кампазітары, і прадзюсары, і акторы, якія начытвалі тэксты.

Што да электронных кніг, то іх выкарыстанне таксама рэгулюецца законам, бо з кожным годам расце рынак іх спажывання. Пасля рашэння Еўрапейскага Суда ў 2016 годзе (справа C-174/15), Дырэктыва аб праве на публічнае карыстанне вызначае, што аб'ектам выплаты лічыцца пазыка адной электроннай кнігі ў бібліятэцы адным карыстальнікам. Копія можа быць зноў перададзена ў арэнду, але толькі калі электронная кніга ўжо не будзе даступная папярэдняму пазычальніку.

### Чаму PLR важна для аўтараў

Таму, што гэтыя выплаты рэальна змяняюць жыццё аўтараў. У эпоху, калі даходы творцаў ад публікацый паўсюдна па́даюць, дзеянне PLR дапамагае аказваць аўтарам жыццёва важную фінансавую падтрымку. Напрыклад, у Вялікабрытаніі 24 тысячы пісьменнікаў, ілюстратараў і перакладчыкаў атрымліваюць плацяжы ў памеры да 6600 фунтаў стэрлінгаў (амаль 10000 долараў) штогод. Для многіх пісьменнікаў, асабліва тых, хто не ўваходзіць у лік «бэстсэлернікаў», гэта істотная крыніца даходу.

Морын Дафі, аўтарка навукова-папулярнай літаратуры іназвэл, адзначае, што сістэма PLR (прынцып «няма карыстання без плацяжу») можа быць выратавальніцай і для паспяховых пісьменнікаў, і для тых, хто ўжо не піша, але мае шмат апублікаваных твораў, якія застаюцца даступнымі для чытачоў публічных бібліятэк, хаця творы ўжо не друкуюцца наноў.

У дадатак да выплат аўтарам за карыстанне іх творамі ў публічных бібліятэках, фінансаванне PLR можа выплачвацца таксама ў выглядзе грантаў, якія вылучаюцца на даследаванні і падарожжы, альбо ў форме пенсій пісьменнікам. У некаторых краінах яго таксама можна завяшчаць пасля смерці аўтара яго сям'і да 70 гадоў.

Выплаты ганарараў аўтарам за права карыстацца бясплатна іх кнігамі можа датычыць не толькі публічных бібліятэк, але, як у Аўстраліі, яшчэ і школьных, што вельмі падтрымліваецца дзіцячымі пісьменнікамі. А ў Германіі такая сістэма дзейнічае і ў бібліятэках вышэйшых навучальных устаноў.

Сістэма PLR стварае і іншыя перавагі для аўтараў. Напрыклад, аўтары Вялікабрытаніі лічаць, што дадзеныя, атрыманыя ў офісе PLR пра тое, як часта іх кнігі былі запазычаныя ў публічных бібліятэках, натхняюць іх і паляпшаюць маральны стан — асабліва калі гаворка ідзе пра кнігі, якіх ужо болей няма ў крамах. «PLR — гэта больш, чым грошы, хаця, вядома, апошняя таксама някепска. Атрыманне грашовага чэка штогод — гэта напамін пра тое, што людзі хочуць чытаць мае кнігі, а не проста мець іх», — адзначыла амерыканская пісьменніца Трэйсі Шэвалье, аўтарка вядомага рамана «Дзяўчына з жамчужнай завушніцай».

## КНІГАРНЯ

### Апошні першы снег




**Вера Лойка. Апошні першы снег: апавяданні, эсэ. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 112 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 119).**

«Апошні першы снег» — дэбютная кніга, тэксты якой пісаліся цягам дваццаці гадоў. Апавяданні вытрыманыя ў традыцыйна-класічным стылі і строга адпаведныя яму па сваёй літаратурнай форме. Узаемаадносіны паміж людзьмі ў постсавецкім грамадстве, іх думкі, пачуцці і ўчынкі, якія фармуюць філасофію жыцця беларускага этнасу — галоўная ідэйная скіраванасць твораў пісьменніцы. Артыкулы і эсэ, што складаюць другую частку выдання, распавядаюць пра жыццё вядомых людзей нацыянальнай і сусветнай літаратур (А. Васілевіч, А. Асташонак, С. Унсет), а таксама пра мастацкім творчасць, цесна звязаную з навакольным светам і жывой прыродай.

### Беларуская «звышлітаратура»

**Л. Д. Сінькова. Беларуская «звышлітаратура»: літаратуразнаўчыя і літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск. Кнігазбор, 2019. — 224 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 120).**




Кніга доктара філалагічных навук, прафесара Людмілы Дзмітрыеўны Сіньковай прысвечана літаратурнаму працэсу познесавецкіх і паслясавецкіх часоў у Беларусі. Разглядаюцца праблемы суаднесін масавай і элітарнай літаратуры, фактаў з мастацкім вымыслам у прозе, метадалогіі сучасных літаратуразнаўчых даследаванняў, сучаснай літаратуры на беларуска-польскім памежжы. Аналізуюцца творы В. Быкава, А. Адамовіча, С. Алексіевіч, а таксама іншых пісьменнікаў і даследчыкаў прыгожага пісьменства.

# «У слове нараджаецца паэт...»

## Да 80-годдзя з дня нараджэння Анатоля Канапелькі

Ірына САМАТОЙ

**У 60-х гадах XX стагоддзя ў беларускую літаратуру прыйшло так званае філалагічнае пакаленне, дзеці вайны, магутная кагорта пісьменнікаў, творчасць якіх характарызавалася маральна-этычнай змястоўнасцю, патрыятычным пафасам, аптымізмам духоўнага і сацыяльнага абнаўлення жыцця. Сярод творчых індывідуальнасцей гэтага часу сваёй адметнасцю і непаўторнасцю вылучаецца постаць віцебскага паэта, перакладчыка, літаратуразнаўцы, лаўрэата абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча, педагога, які, на жаль, рана і нечакана пайшоў з жыцця, Анатоля Канапелькі. Паэзія Анатоля Канапелькі — лірычная споведзь чалавека, які па-філасофску імкнецца асэнсаваць гістарычныя падзеі і з'явы з пазіцыі сучаснасці, праз гранічнае эмацыянальнае напружанне выявіць і сумясціць грамадзянскае і асабістае, высокае і будзённае.**

Характар творчасці пісьменніка, як вядома, абумоўліваецца яго біяграфіяй. Нарадзіўся Анатоль Канапелька 16 лістапада 1939 года ў мястэчку Расоны Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. З першых дзён вайны бацькі знаходзіліся ў партызанскім атрадзе, які дзейнічаў на тэрыторыі Мінскай вобласці. Ён нарадзіўся ўжо дарослым. Такой незвычайнай сталасці паспрыяла вайна. Маленькі Толік дапамагаў партызанам, сам таго не ведаючы. Маці, Галіна Сямёнаўна, калі ішла на заданне даведацца пра апошнія падзеі ў горадзе, брала з сабой трохгадовага сына; мазала яго зялёнкай, перад нямецкім пастом пляскала яго па мяккім месцы — і Толік пачынаў плакаць. У немцаў не было сумнення, што ён хворы на воспу. Маці з сынам без перашкодаў траплялі ў горад...

Тэма Вялікай Айчыннай вайны з ранняга маленства трывала ўвайшла ў псіхалагічны, эмацыянальны стан паэта, знайшла адлюстраванне ў вершах «Памяць», «Мы нарадзіліся такімі», «Франтавыя дарогі», «Колькі блізкіх і родных імён», «У Брэсцкай крэпасці», дзе сказанае пра сябе стала прыналежным да пакалення дзяцей вайны, як іх асабістае і запаветнае.

Пасля вайны вучыўся ў СШ №7 Полацка, а ў 1956 годзе стаў студэнтам філалагічнага факультэта Полацкага педагагічнага інстытута, пазней факультэт перавялі ў Магілёўскі педагагічны інстытут. Пасля заканчэння вучобы ў 1961 годзе працаваў дырэктарам Бароўскай вячэрняй школы Магілёўскага раёна, з 1968 года выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў ВДУ імя П. М. Машэрава. Памёр 18 снежня 2002 года.

Кандыдат філалагічных навук, аднакурснік паэта Анатоль Емяльянаў успамінаў:

– Памяць вядзе ў 1957 год, калі ўпершыню сустрэўся ў студэнцкай аўдыторыі Полацкага педагагічнага інстытута з Анатолем Канапелькам. Перада мной стаяў па-сапраўднаму светлы чалавек з незвычайна цёплымі вачыма, акуратны, падцягнуты. Усе пяць гадоў вучобы ў інстытуце ён быў выдатнікам. Мне пашчасціла жыць з Толем у адным пакоі ў студэнцкім інтэрнаце. Прыгадваюцца літаратурныя вечарыны, на якіх пачынаючы паэт напеўна, як Рыгор Барадулін, чытаў свае вершы. Неаднаразова ездзіў на нарады і семінары маладых пісьменнікаў...

У сваёй творчасці Анатоль Канапелька захоўваў і працягваў класічныя традыцыі нашай нацыянальнай паэзіі, свядома арыентуючыся на лепшыя ўзоры паэзіі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, пераклікаючыся з паэтамі-равеснікамі Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Міхасём Стральцовым, Давідам Сімановічам. Ранняя паэзія Анатоля Канапелькі ў асноўным мажорная па сваім настроі: адчуваецца бадзёрасць, захапленне навакольным светам, радасцю жыцця, усведамленнем сваёй значнасці ў свеце:

*Мой свет адкрыты шчасцю*
*І дабрыні людской.*
*Нялёгка песню скласці*
*І стаць самім сабой [1, с.45].*

У літаратурным наробку паэта свае пачэснае месца займае грамадзянская лірыка і вершаваная публіцыстыка, прадыктаваная логікай светаадчування лірычнага героя. Бязмежная любоў да Бацькаўшчыны, нацыянальнай спадчыны, паважлівыя адносіны да роднай мовы і культуры, бескампрамісныя адносіны да бездухоўнага і нізкага вызначылі творча-грамадзянскую пазіцыю Анатоля Канапелькі.

Урачыста-песенная інтанацыя, узрушанасць і прачуласць ядналюць верш «Роднае слова» віцебскага паэта з вершам «Родная мова» Пімена Панчанкі:

*Адкрываю, як свет, нанова*
*беларускае роднае слова,*
*пералівістае — як каменьчык,*
*весёлкавае — як ручэй,*
*цёплае — як агеньчык*
*добрых тваіх вачэй,*
*светлае — як маланка,*
*гнеўнае — як пярун,*
*ціхае — як калыханка,*
*вечнае — як Беларусь! [1, с. 9]*

Усё жыццё побач з Анатолем Мікалаевічам былі шчырыя, таленавітыя людзі — яго сябры, падтрымка не толькі ў асабістым жыцці, але і ў творчай дзейнасці. Вершы паэта мелі сваіх канкрэтных адрасатаў, многія з іх прысвечаны землякам-літаратарам Петрусю Броўку, Уладзіміру Караткевічу, Васілю Быкаву, Еўдакіі Лось, Рыгору Барадуліну, Марыі Баравік, сябрам, калегам Зінаідзе Канапельцы, Давіду Сімановічу, Мікалаю Цішачкіну, Уладзіміру Папковічу.



Анатоль Канапелька са студэнтамі

У лірыцы позняга часу, прасякнутай магістральнымі радкамі «Я кожны дзень сябе знаходжу...», шмат філасофскіх рэфлексій, медытатыўнай танальнасці. Элегічныя вершы-роздумы («Яшчэ адна восень паляцела ў вырай», «Не трэба чалавеку адзіноты», «Не хавайце сваіх усмешак», «Лістапад», «Адыходзяць сябры, адыходзяць») звернуты да вечных ісцін і каштоўнасцей, вялікай стваральнай сілы прыгажосці і дабра. Несумненна, значныя набыткі паэта і ў асэнсаванні тэмы кахання. Інтымная лірыка А. Канапелькі акрэслівае характэрную асаблівасць яго героя: вернасць пачуццю, павагу да жанчыны. Унікальная з'ява ў беларускай паэзіі: любоўныя вершы прысвечаны адзінаму каханню — жонцы Святлане. Вобразы прыроды гарманічна спалучаюцца з пачуццямі заканых у вершах «Зорка Святлана», «Завея круціць, як прадонны вір», «Маёй любові снежны зарапад», «Любімая, не трэба сумаваць». Вобраз вечна летняга эдэмскага сада персаніфікуецца ў вобраз беларускага зімовага сада, над якім «...любові ціхі зарапад // плыве ў прасторы хараства зямнога» [1, с. 57].

Адметнасцю семантыка-эстэтычнага поля паэзіі Анатоля Канапелькі з'яўляецца выверанае, устойлівае захаванне і працяг класічных традыцый беларускай нацыянальнай паэзіі. Творца таленавіта, па-мастацку аб'яднаў у сваёй лірыцы грамадзянска-публіцыстычныя і філасофска-медытатыўныя матывы, прадэманстраваў высокае майстэрства стварэння паэтычнага вобраза, сімвала, мастацкай дэталі, разнастайных прыёмаў і сродкаў.

Высокай ацэнкі заслугоўвае перакладчыцкая дзейнасць віцебскага творцы. З польскай мовы пераклаў балады і вершы свайго земляка з Расоншчыны Яна Баршчэўскага. Самай значнай працай стаў пераклад цыкла вершаў «Лісты да Юліі» — гімн сапраўднаму каханню і тым узнёслым, а часам і трагічным перажываннем, што яму спадарожнічаюць. Кніга выйшла ў 2003 годзе ўжо пасля смерці Анатоля Канапелькі. Перакладчык, паважліва адносячыся да аўтара, стаў пранікілівым чытачом-суразмоўнікам, дасягнуў сэнсава-мастацкай адпаведнасці перакладу і арыгіналу, данёс да чытача акрыленыя словы любові і павагі да Маці-Радзімы:

*Лятуць мае думкі ў край,*
*Дзе, кожны куточак помнячы,*
*З'явіўся б чароўнай поўначчу*
*Ў прысадах знаёмых ліп*
*І ўбачыў майго Анёла, –*
*Забілася б сэрца вясёла.*

*Імгненне жаданай сустрэчы*
*Ў росах сузор'яў тае.*
*Няхай бы хвілінка тая*
*Мне стала працягам у вечнасць*
*[2, с. 6 ].*

На беларускую мову Анатоль Канапелька пераклаў вершы Тадэвуша Лады-Заблоцкага, расійскіх паэтаў Аляксея Мішына, Юрыя Палякова, Уладзіміра Прастакова; з цыганскай — Вальдэмара Калініна. У рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ёсць спектаклі «Руслан і Людміла», «Праўда — добра, а шчасце — лепш», пераклады якіх на беларускую мову належаць пяру і таленту віцебскага творцы.

Анатоль Канапелька займаўся навукава-даследчай працай па праблеме літаратурна-мастацкіх традыцый Віцебшчыны ў кантэксце славянскіх культур, меў шэраг навуковых прац, прысвечаных Петрусю Броўку, Васілю Быкаву, Уладзіміру Караткевічу, Максіму Гарэцкаму, Аркадзю Куляшову. У газеце «Народнае слова» вёў рубрыку «Анталогія беларускай паэзіі». У 2003 годзе ў выдавецтве ВДУ ім П. М. Машэрава была выдадзена кніга Анатоля Канапелькі, якая падводзіла вынік яго шматгадовай навукова-даследчай дзейнасці — «Старонкі творчых біяграфій». Гэта зборнік творчых біяграфій пісьменнікаў, жыццё якіх было звязана з Віцебшчынай ад сярэднявечча да нашых дзён — каштоўная праца па гісторыі літаратуры паўночнага рэгіёну. У кнізе змешчаны імёны ад Францыска Скарыны да сучаснай віцебскай паэтэсы Людмілы Сіманёнак, для якой Анатоль Мікалаевіч быў настаўнікам і бацькам у свеце паэзіі. Але гэта не проста пералік фактаў жыцця, а ўласнае бачанне аўтара. Кніга дапрацоўвалася паэтам Уладзімірам Папковічам, бо пры жыцці Анатоль Мікалаевіч не паспеў гэтага зрабіць.

Педагагічная дзейнасць Анатоля Канапелькі пачалася ў 1961 годзе — сем гадоў працаваў дырэктарам школы. А з 1968 года — выкладчык гісторыі беларускай літаратуры ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Анатоль Мікалаевіч добра разумеў студэнтаў, заўсёды ішоў ім насустрач. Як ён сам казаў: «Я іх паважаю і ніколі не дазваляю сабе зняважыць іх годнасць. Лічу, што кожны выкладчык павінен быць, па-першае — чалавекам, па-другое — выкладчыкам. І шчасце, калі гэтыя абедзве якасці спалучаюцца». Здаецца, усё жыццё выступаў перад аўдыторыяй, прычым самай рознай, але ж перад тым, як зайсці ў студэнцкую аўдыторыю, заўсёды адчуваў хваляванне. Але потым, зведваючы эстэтычную асалоду, вёў студэнтаў у свет айчыннай літаратуры. А на яго лекцыі пацыху, бывала, прыбягалі студэнты біялагічнага, матэматычнага, фізічнага факультэтаў. Ішлі «на Канапельку». Дарэчы, на працягу многіх гадоў кіраваў студэнцкім літаратурным аб'яднаннем «Заранічка». Усіх сваіх знакамітых сяброў: Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Арлова, Генадзя Бураўкіна і іншых, калі яны бывалі ў Віцебску, заўсёды прыводзіў ва ўніверсітэт да студэнтаў.

Чалавек — сусвет, у якім кожны знаходзіў сабе месца, кожны мог атрымаць часцінку яго душы. Так было да 2002 года. Напярэдадні трагічнага дня ён, як заўсёды, развітаўся з калегамі на кафедры беларускай літаратуры, жартаўліва кінуўшы: «Канапелька пайшоў!..» І сапраўды пайшоў... на гэты раз назаўсёды. Анатоля Мікалаевіча, без перабольшання, ведала ўся гуманітарная, філалагічная Віцебшчына: нездарма ж адпрацаваў на педагагічнай ніве больш як сорак гадоў, уваходзіў у кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы ад самага пачатку заснавання. Яго паважалі за дасведчанасць у справе, якой служыў, любілі за інтэлігентнасць і абыходлівасць, добразычлівасць. У колах літаратурнай грамадскасці цанілі і шанавалі як адданага прыхільніка справы нацыянальнага адраджэння, паслядоўнага і настойлівага рупліўца на ніве беларушчыны.

### Спіс літаратуры

1. Канапелька, А. Жыццё прадоўжыцца ў песні / А. Канапелька. — Віцебск: УА «ВДУ імя П. М. Машэрава». — 2010. — 73 с.

2. Баршчэўскі, Я. Лісты да Юліі: Вершы, балады / У перакл. А. Канапелькі / Я. Баршчэўскі. — Віцебск: УА «ВДУ імя П. М. Машэрава». — 2003. — 35 с.

Фота з архіва аўтара

# Спадкапрыемца



Алесь БЫЧКОЎСКІ

**Кажуць, кожныя сем гадоў чалавек мяняецца: абнаўляюцца кроў, клеткі, тканкі цела. Працэс адбываецца неўпрыкмет, зусім незаўважна. Міне сем гадоў хуценька, і чалавек ужо іншы, толькі знешнія абрысы передаюцца разам з прыкметамі старасці. Я тое ўласнай скурай адчуваю. Бывае, зірну ў люстэрка, а адтуль быццам другі чалавек пысу выставіў. Здаецца, мо я і добры, аднак ужо трошкі не той. А старыя фотаздымкі з тадышнім сабою наогул выкідваю або спальваю ў качагарцы, каб не расчароўвацца, бо на іх ужо дакладна не я, а хтосьці іншы. За сем гадоў змяняюцца не толькі клеткі, але і ўнутранае начынне.**

Мая работа лепшая ў свеце: вартаўнік і качагар у адным флаконе. «Ты, малы, як вырасцеш, паступай у інстытут на качагара вучыцца, — павучальна зазначаў у маім дзяцінстве адзін вусаты дзядзька. — Качагар з чалавекам заўсёды: ад радзільнага дома і да крэматорыя». Да слова, я ледзь не паступіў у інстытут на аператара ядзернага рэактара. Стрымала нешта, і ядзерным «качагарам» я так і не стаў, зрабіўся вартаўніком, аматарам кніжак.

Здаецца, збірае чалавек кніжкі ўсё жыццё, а каб папытаўся ў яго, навошта, дык і не пачуў бы нічога ўцямнага. Падабаецца, дый усё. Пасля чалавек памірае, і следам за гаспадаром паміраюць і кніжкі. Радні яны не патрэбныя, калі толькі не антыкварыят, які можна спіхнуць праз «Букініст». Радня вызваляе шафы і паліцы, валачэ аб'ёмістыя тамы дзясяткамі-сотнямі на сметнік, у макулатуру, у качагарку альбо здае ў раённую бібліятэку.

Але ж навошта старыя кніжкі бібліятэцы? Уласных процьма. Бібліятэцы падавай новае, свежавыдадзенае, прыдатнае для камерцыйнага фонду: баевікі пра спецназ, турму і так званы жаночы раман, дый які тузін модных аўтараў каб быў прадстаўлены. Таму старым кніжкам наканавана напрасткі выпраўляцца ў макулатуру. Аднак тут у бібліятэку завітваю я. У мяне палова кватэры застаўлена стэлажамі, запоўненымі ўратаванымі ад смерці тамамі. Тут і Майн Рыд, і Эдгар По, і Якуб Колас, і Алесь Гарун, і іншыя. «Добра, што вы забіраеце, — ухваляе мае памкненні супрацоўніца бібліятэчнай сістэмы, немаладая жанчына, якая пачынала працаваць яшчэ ў тую эпоху, калі за права купіць том таго Майн Рыда ці По патрабавалася здаць цэнтнер макулатуры. — А так здадзім гэтыя кніжкі ў райзаг, а атрыманых грошай якраз хопіць купіць пару венікаў для бібліятэкі».



Фота www.ipiustitia.com

Я шкадую, што кватэрная плошча не дазваляе ўратаваць усе кніжкі. І люблю застыць каля паліц ды з ціхай радасцю перабіраць здабыткі. Мноства кніг у адным месцы ўтрымліваюць амаль містычны флёр непадуладнасці часу, каля паліц я пачуваюся нібыта побач з цэнтрам сусвету. Асаблівую павагу і трымценне выклікаюць надпісы на тытульніках, на ўнутраных баках вокладкі, зробленыя задоўга да майго нараджэння, яшчэ ў тую эпоху, калі кніга лічылася лепшым падарункам.

...Рэдка каму шанцуе з работай. Я ў шыхце шчасліўчыкаў. Работа дазваляе займацца любімай справай: чытаць і пісаць. Так, нельга знайсці кніжніка, які б сам не паспрабаваў аднойчы нешта сачыняць, хоць употай, для сябе, «у стол». Я пісаў апавяданні, і калі створанага сабралася дастатковая колькасць, я ўклаў іх у кнігу, раздрукаваў і выслаў рукапіс у малавядомае выдавецтва, кіруючыся логікай, што ў адрозненне ад выдавецтва я зусім невядомы. І хоць мінуў ужо месяц, як я выслаў поштай рукапіс, я раз-пораз усё ж перагортваў старонкі копіі, выпраўляючы дробязныя памылкі-абдрукоўкі, у думках чырванеючы ад сораму і пасылаючы сабе кпіны. Сёння, даўшы сабе слова, што перачытваю рукапіс апошні раз, я нарэшце дабраўся да апошняй старонкі і адчуў пэўную спустошанасць. Патрабаваўся адпачынак, тайм-аўт. Я адклаў тэчку з паперамі і выбраўся на вуліцу, на агляд тэрыторыі, на свежае восеньскае паветра.

Арганізацыя, дзе я вартую, буйна квітнела ў эпоху, калі кніга лічылася лепшым падарункам, самыя высокія заробкі ў раёне былі тут. А цяпер памяшканне цэха вытворчасці электракабеля арэндавалі дзве фірмы калярытуальных паслуг. Адна вырабляе драўляныя крыжы, другая — могілкавыя помнікі. Бізнес у росквіце.

Раніцай я завітваю заадно і на тэрыторыю «помнікаў і крыжоў». Часам прадукцыя фірм складуецца пад адкрытым небам, і мне выпадае выхопліваць позіркам знаёмыя ў мінулым імёны на помніках, смяшлівыя і сур'ёзныя твары на фотаздымках. Цікавы час: людзям свярбіць паставіць помнік і абавязкова каб з фота, пажадана каляровым. І памерлыя пазіраюць з таго свету з хітрынкай, таямнічай загадкавасцю. Зразумела: яны ўжо зазірнулі, заглянулі цераз край, спасцiглі галоўныя таямніцы Сусвету, зведалі, нарэшце, навошта жылі, навошта збіралі, назапашвалі ўсё тое, пранесенае скрозь уласны век: пакуты, шчасце, багацце, нішчымнасць, ну ці кнігі... Жывыя ж тым часам спаборнічаюць, хто багацейшы помнік выправіць сваякам-нябожчыкам. З мармуру, граніту ці проста з армаванага бетону. Быццам грошы няма куды дзець, а багаты помнік забяспечыць на тым свеце Царства Нябеснае.

Косця з братам і адным наймітам габлююць крыжы, затым чысцяць наждачкай, пакрываюць лакам. У дзень атрымліваецца зрабіць крыжоў дзесяць-пятнаццаць. Я і не ведаў дагэтуль, што можна зарабіць на драўляных крыжах. Хлопцы здаюць іх оптам па дзвесце-трыста ў рытуальны магазін у Менску. Звычайны крыж оптам каштуе каля дваццаці рублёў, а вунь той з завіткамі па краях — дык і ўсе сорак...

Косця частуе мяне гарачай кавай, мы доўга размаўляем пра марнасць і дарэмнасць і робім нечаканую выснову, што ўсё ж кожная рэч і з'ява наўкола існуюць не проста так, усяму знойдзецца сэнс і тлумачэнне.

— Кідай ты свае кніжкі, бабло трэба рубіць, таўчы капейку, — раіць Косця.

Мне адразу прыгадваецца іншы выпадак. У будынку раённай бібліятэкі месціцца філія вядомага банка, сустрэўся там знаёмы Толік, чалавек нявызначаных заняткаў, але пры грашах. Толік моцна здзівіўся, убачыўшы, што накіроўваюся ў бібліятэку.

— Хіба ты не ў курсе, што кніжкам хутка хана настане? Папяровыя ўжо знікаюць, іх месца займаюць электронныя. Ды і тое ненадоўга. Навошта чытаць, псаваць вочы, калі інтэрнэт існуе?..

Ёсць выпадкі, калі тлумачыць няма рады.

**Люблю застыць каля паліц ды з ціхай радасцю перабіраць здабыткі. Мноства кніг у адным месцы ўтрымліваюць амаль містычны флёр непадуладнасці часу, каля паліц я пачуваюся нібыта побач з цэнтрам сусвету**

...Весела і па-хатняму танчыць полымя ў зеўры катла. Пры жаданні тут можна напяць на металёвы пожаг скрылёк сала, як гэта рабіў у дзяцінстве каля бабінай печы, карыстаючыся відэльцам, а затым макаючы гарачым тлушчам на хлеб, у смак з'есці. Дзіцячая забава, але мне, мужыку сталага веку, ад яе палёгка і разнявольванне. Падсілкаваўшыся, бяруся зноў знішчаць старыя фота, сямігадовай і большай даўніны. Цяпер здымкі і ўвогуле асабістая інфармацыя захоўваюцца ў так званых «аблоках» паштовых сервісаў ды ў памяці кампутара, але я старамодны «рэтраград». Асобныя здымкі раздрукоўваю ў сябра на каляровым фотапрынтэры, а электронныя выдаляю. Фотаздымкі больш прыемна трымаць у руках.

Я прыхільнік спрошчанага жыцця і перыядычна вызваляюся ад залішніх рэчаў, у тым ліку і старых рукапісаў. Паверце, рукапісы гараць — ды яшчэ як, выдзімаючца праз комін літары і словы, сказы і абзацы, якія не апраўдалі надзей. Навошта захоўваць тое, што лічыш памылковым і няўдалым? Дарэчы, я спаліў шмат рукапісаў, пакуль напісаў першае апавяданне, годнае для друку ў часопісе. І цяпер з лёгкай душой шпурляў у полымя таксама фотаздымкі. На іх я быў разам з жонкай. Праўда, гэта ўжо не я, а хтосьці іншы сямігадовай даўніны шчасліва пасміхаўся на каляровых выявах. Іншы чалавек са сваімі памкненнямі і матывацыяй.

Мы развяліся, бо я шмат піў. Ну, напраўдзе, піў я рэдка, раз у чатыры месяцы, але па два-тры тыдні. І яна аднойчы не вытрымала і паказала на дзверы. І тым мяне ўратавала. Бо каб цацкалася са мной далей, я б ужо пэўна заліўся гарэлкай і згарэў. Аднак разлад быў непахісным, лепшая палова стамілася даравáць мне, і я, згубіўшы надзею вярнуць былое, раптам зразумеў, што нельга сабраць да кучы і зляпіць з аскепкаў разбіты гладыш, варта зляпіць новы. Хтосьці ў падобнай сітуацыі страляецца, хтосьці топіцца, хтосьці п'е-жлукціць яшчэ больш. А я вырашыў пісаць, няма лепшай тэрапіі. Тым больш, што лепшая палова ўжо даўно з другім. А я штодня малюся Богу, каб забраў мяне, як толькі я ўздумаю вярнуцца ў твань містычных запояў, у якіх я падарожнічаў па прасторах пекла.

Час чакання ліста з выдавецтва пераваліў ужо на другі месяц, і восень надзейна ўвайшла ў сілу, раніцай сустракаючы дажджом, а ў вечары — холадам. Нарэшце далі цяпло ў кватэры, і ўжо не даводзілася ляскаць зубамі і грэцца ад газавай пліты. Нечакана пазваніла знаёмая бібліятэкарка з навінай пра паступленне чарговай партыі кніг, прызначаных у макулатуру, і прапанавала завітаць, выбраць тое-сёе сабе.

На гэты раз я вырашыў уратаваць шыкоўнае выданне Шэкспіра. Дзіва, да гэтай пары ў плыні адпрэчаных гаспадарамі кніг Шэкспір мне яшчэ не трапляў. Разгарнуў кнігу і заўважыў надпіс, зроблены акуратным каліграфічным почыркам: «Дарагой Волечцы Казловай у гонар паўналецця. 15 сакавіка 1981 года».

Добра помню 1981 год. У той час, калі Вольга Казлова святкавала паўналецце, мяне адправілі ў абласную бальніцу выдаляць адэнойды. На наступны ж год я рыхтаваўся пайсці ў першы клас. А пасля ў 82-м памёр Брэжнеў, краіна паглыбілася ў смутак, а мая бабуля гаравала-бедавала, маўляў, будзе цяпер вайна з амерыканцамі і не будзе больш коржыкаў па восем капеек. І ў пацвярджэнне ўласных высноў бабуля насушыла два мяхі сухароў з чорнага хлеба, якія пасля размочвалі і з варанымі косткамі скармілі сабаку, а з камбікормам — свінням. Але ж перад тым я навучыўся чытаць і адкрыў для сябе невядомае вымярэнне прасторы-часу: вымярэнне літаратурнае, не прадугледжанае ні Эйнштэйнам, ні Лабачэўскім. Чытаць навучыла маці, пасвяціла мяне ў чароўную таямніцу, навучыла карыстацца здольнасцю кантактаваць з насельнікамі прыгаданага вымярэння.

...Калі я ўжо стаміўся чакаць і ўсур'ёз збіраўся адправіць у печ рукапіс зборніка апавяданняў, з выдавецтва прыйшоў адказ.

«З задавальненнем пазнаёміліся з вашымі творамі. Памеркаваўшы, вырашылі рэкамендаваць да друку і паставіць у выдавецкі план на наступны год», — значылася ў афіцыйным лісце. І далей прапанова падпісаць дамову.

Я сноўдаў пад самотнымі хмарамі, дождж ліў з пераменнай моцай, і я разважаў на тэму, што ўсё на свеце сапраўды мае сэнс, асабліва калі ўважліва прыглядзецца. На дзяжурстве я ішоў па тэрыторыі арганізацыі, дзе вартую, па завядзёнцы зазірнуў у куток «помнікі-крыжы». Быў вечар нядзелі, выхадны, хлопцы пэўна грэліся-адпачывалі па хатах. На адным з гатовых помнікаў раптам заўважыў надпіс «В.М.Казлова. 15.03.1963–24.10.2018. Памяць мужа, дзяцей». Хуценька палічыў даты і скаўтнуў камяк. З фота на помніку глядзела звычайная жанчына, якая не страціла прыгажосці за гады, толькі самоцінка легла на твар дый цень скрухі і ціхай надзеі перад непазбежнай старасцю наплыў на ейныя вочы.

Доўга стаю перад помнікам, не зважаючы на вецер і імжу. Быццам трэба нешта падумаць-сказаць, а слоў няма, захраслі, зніклі.

Дома я ўзяў том Шэкспіра і запіхнуў далёка на паліцу. Ашчадліва і ўрачыста, быццам зрабіўся знарок нявольным сведкам і носьбітам памяці, у пэўнай меры спадкапрыемцам чужой долі любіць літаратуру. Спадкапрыемцам, якога гаспадыня кніжак ніколі не сустрэла ў жыцці, не бачыла і не чула, нават не ўяўляла пра існаванне, але нібыта дабраславіла з помніка.

У кішэні ляжала раздрукаваная дамова з выдавецтвам. Да наступнай змены клетак у арганізме, відавочна, было далёка, як да небасхілу, і адначасова блізка, як да неба...

# Вечар Айчыны



Васіль БАРЫСЮК



Фота Дар'і Герашчанка

***

*Яшчэ трошкі — і вочкі расплюшчацца:*
*пачынаецца ранак.*
*Прачынайся, мая беларусачка,*
*мілы тварык заспаны.*

*Мы з табой — і дзяржава, і нацыя.*
*На завулку адны мы:*
*несвядомасці дэфармацыя*
*на задворках Радзімы.*

*Апранаемся і — непрыкметныя –*
*на вучобу й на працу.*
*Не пісьменнікі ды й не паэты мы:*
*трэба добра хавацца.*

*Шапка нізка і цёплая хустачка –*
*нас пазнаць немагчыма.*
*Прывітанне, мая беларусачка!*
*Гэта вечар Айчыны.*

### Аднапавярховае Берасце

*Мякка ляціць праз ноч*
*іападае ў грады*
*першы вясновы дождж,*
*чорнай зямлі рады.*

*Там карані раслін*
*мерзлі ў чаканні выйсця:*
*сотні галін, сцяблін,*
*квецень, трава і лісце.*

*Там чарвякі ды гной*
*між артэфактаў, скарбаў...*
*"Соткі" імкнуцца ў бой*
*важкай зямною праўдай.*

***

*Зранку раптам рыкне рокер,*
*разруліўшы ноч і дзень.*
*Потым дробненькія крокі –*
*во на працу як ідзе!*
*З добрым матам ды пляўкамі*
*па завулку мужычкі:*
*на чыгунцы іх рукамі*
*ў ноч медальныя рыўкі.*
*На машынах асцярожна*
*едзе офісны планктон.*
*Певень з крыкам пераможным*
*проста просіцца ў булён.*
*Разбрахаліся сабакі,*
*вераб'і крычаць сваё...*
*Хай жыццё даецца ў знакі –*
*падымайся, ё-маё!*

### Памежныя трохрадкоўі

*Сонца падае на Цярэспаль,*
*дзе беларусаў больш, чым палякаў,*
*пакуль працуе "Бядронка".*

*Дызельная плынь.*
*Тытунёвы вецер.*
*Пустыя вочы.*

*Хутка растуць дамы,*
*пакуль гаспадароў*
*не выгналі з мытні.*

*Польская вяндліна*
*на закусь гарэлкі з "дзьюціка"*
*з лёгім водарам газу.*

*Жаночы твар на мяжы:*
*кожны заезд у "бокс" —*
*новая зморшчынка.*

*Няшчасныя людзі,*
*што ведаюць кошты з абодвух бакоў,*
*болей не любяць шопінг.*

*Шчырыя людзі*
*лёгка адводзяць вочы*
*ад суседзяў-залётчыкаў.*

*Неверагодная радасць*
*двойчы на дзень*
*пасля апошняга шлагбаўма.*

*Пяюць салаўі*
*на двух берагах Буга*
*на адной мове.*

*Галоўнае — перайсці мяжу,*
*што ведаў з дзяцінства,*
*што будуеш сам.*

***

*Усе суседзі мае —*
*нармалёвыя:*
*злева — трымае тры крамы,*
*ззаду — цырульніца й двор дагледжаны,*
*справа — бухгалтарка — любіць расліны,*
*побач з ёй — пенсіянерка-дворнічыха –*
*з мятлой на паўстаўкі,*
*ну а насупраць — ужо й невядома,*
*што там у іх за любошчы.*
*Адзін толькі я*
*не часта складаю вершы.*

***

*Апошнія зялёнкі*
*збіраем у пяску:*
*верх — ад марозу звонкі,*
*ніз — просіцца ў руку.*

*І грукаецца ў кошык*
*зялёнае святло.*
*Яго не ўзяць за грошы,*
*не з'есці за сталом.*

*Я проста буду помніць*
*рабрысты халадок,*
*усюды шэрань, промні...*
*А на зубах — пясок.*

# Копіі паэтаў

## Літаратурныя вобразы



Валянціна ОСІПАВА

### Ганна Ахматава

*Спявачка кахання.*
*Самоты царыца.*
*Салодкая песня,*
*якой не забыцца.*

*Хай век у калючых трымаў*
*рукавіцах,*
*але на спакусы*
*Парыжа і Ніцы*
*не стала мяняць*
*змрок паўночнай сталіцы.*

*Царыцу самоты,*
*песнярку адчаю,*
*не лаўрам душыстым,*
*а цернам вянчалі,*
*пакутай,*
*павенчанаю з маўчаннем...*

*Ад слёз і бяссонняў пустымі вачамі*
*у горкую бездань глядзела начамі.*

*Як ні галасілі надрыўна званіцы, —*
*ад страху збялелай старонкі агніцы, —*
*даверыла рэквіем роднай зямліцы.*

*І мусіў разгублена вораг дзівіцца:*
*Сараматніца ці,*
*можа, чарніца?*

*Са Слова старанна ствараўшы капліцу,*
*чароўнаю рыфмай змагла прычасціцца.*

### Канстанцін Бальмонт

*З асцяро-ожнасцю здымайце*
*з даўніх ідалаў адзенне,*
*з тых, хто змучаны спакусай,*
*пакланяўся незямному;*
*заклікаў быць роўным Сонцу,*
*каб развеяць чары змроку,*
*і сакральнаю надзеяй*
*асвятляў шляхі людзей.*

*Ціха,*
*ўважліва шукайце*
*зерне мудрасці нябеснай,*
*што рассыпаў між радкамі*
*у размеранай стыхіі*
*той,*
*хто мог лунаць да зорак*
*у прарочым захапленні,*
*і грымотны водгук рэха*
*ў палкіх сэрцах абуджаў.*

*З даліка-атнасцю судзіце*
*тых,*
*хто жыць не мог без буры,*
*без дурманлівых пачуццяў,*
*і насупераК нягодам,*
*апяваў гульню імгненняў,*
*хай і выпусціў заўчасна*
*гуслі з аслабелых рук.*

### Барыс Пастэрнак

*Куды там роўным,*
*важным крокам —*
*пад пахай з лютым — напралом!*
*Па купінах,*
*ярах,*
*аблоках*
*бягом,*
*бягом,*
*бягом!*
*Змяшаць дажджы,*
*снягі,*
*бураны*
*ў адзіны калаўрот...*
*Імгненна,*
*лёгка,*
*без старання*
*пашырыць гарызонт.*

*І рытмы прыпусціць галопам —*
*да неба пыл узняць слупом!*
*Ад рэвалюцый і паклёпаў*
*бягом,*
*бягом,*
*бягом...*

*Пакінуць бег,*
*як дрэва — лісце,*
*і абмакнуць пяро з развагай,*
*каб думкі,*
*што схаваў калісьці,*
*даверыць доктару Жывага.*

### Максім Багдановіч

*Зразумець гэта цяжка...*
*Балюча і горка.*
*Рок — суворы і жорсткі.*
*Бязлітасны — рок.*
*Толькі з песняю птушка*
*памкнецца да зорак,*
*як бярэ на прыцэл яе зоркі Стралок.*

*Хто раней,*
*хто пазней...*
*Не парушыш традыцый...*
*Трэба многа паспець за кароткі палёт,*
*і адбітак душы асвяціць у крыніцах*
*краю замкаў былых,*
*краю пушч і балот.*

*Прэч тугу*
*і дакучлівы клопат надзённы!*
*Песня ўскрэсне,*
*як Фенікс,*
*адрыне надрыў!*
*Пранікнёныя сэрцы акрыліць натхнёна*
*векавечна-нятленны*
*сардэчны матыў.*

*Напаказ,*
*напаказ!*
*Цёмных сувязяў шлейф,*
*з пагалоскай двубой*
*і эрота дурман –*
*чарадой,*
*чарадой...*
*Ўсё прыняць так, як ёсць:*
*і заганы, і дар...*
*Нелюбым быць — вось*
*гэта караю з кар!*
*...Старадаўніх гісторый пакутлівы груз,*
*і сімпатыі боскіх усмешлівых муз,*
*і бяздумнасць быцця,*
*і дум цяжкіх свінец*
*пераплавіць жыццё*
*ў вершаваны вянец.*

### Уладзімір Маякоўскі

*З рыфмованых глыбаў чырвоны муляр*
*узняў манумент Слову.*
*Бліскучы свой дар*
*усклаў на алтар*
*пякучага дзеяслова.*

*Заўзяты трыбун,*
*скандаліст,*
*гарлапан —*
*загадку фрэйдыстам спрытным:*
*"Душа — арган*
*альбо барабан,*
*ці, можа, знямоглая скрыпка?"*

*Дазволіў любоўнай жарсці гуляць,*
*як мячыкам,*
*сэрцам трохкамерным,*
*на горла параненай песні — ўстаць*
*загадам і маршам бравурным.*

*Багам — богава!*
*Вольна! — ханжам.*
*Заўчасна памкнуўся ў неба...*
*Адчай — маўзеру,*
*вершу — душа.*
*Паэту шмат і не трэба.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (159) | 29 лістапада 2019 | № 44 (655) Новы час

# Геній Адама Міцкевіча

Уладзімір АРЛОЎ

**Паэт Адам Міцкевіч — у сузор'і самых славутых нашых суайчыннікаў. Ягоная радзіма — Наваградчына, адзін з найпрыгажэйшых куткоў Беларусі. Гэты край мае багатае мінулае.Тут стваралася Вялікае Княства Літоўскае, адбываліся іншыя значныя гістарычныя падзеі. Даўніна і непаўторная прырода наваградскай зямлі ўсё жыццё заставаліся ў памяці Адама, натхняючы яго на геніяльныя творы.Міцкевіч пісаў па-польску, але з дзяцінства выдатна ведаў і высока цаніў беларускую мову. Уся ягоная творчасць дыхае легендамі і паданнямі, звычаямі і абрадамі беларусаў-ліцьвінаў. «Радзіма Літва! Як здароўе, так ты, дарагая», — так пачаў Адам Міцкевіч сваю паэму «Пан Тадэвуш».**

### «Наваградчына, край мой дарагі»

Адам з'явіўся на свет у беларускай шляхецкай сям'і роду Рымвідаў-Міцкевічаў Каляднай ноччу 1798 года. Гэта здарылася ў фальварку Завоссе Наваградскага павета. Захавалася паданне, што павітуха, якая прымала роды, моцна верыла ў прыкметы і адрэзала немаўляці пупавіну на кнізе. Гэта «абяцала» хлопчыку вялікі розум і вучонасць.

І сапраўды, у чатыры гады Адась умеў чытаць, а затым стаў адным з найлепшых вучняў Наваградскай школы манахаў-дамініканцаў. Там вучыўся і вядомы паэт Ян Чачот. Хлопцы пасябравалі ды імкнуліся як мага болей часу бавіць разам. Яны часта блукалі па замчышчы з рэшткамі магутных вежаў, што некалі вытрымалі шмат варожых штурмаў. Адась і Янка ведалі, што ў Наваградку каранавалі князя Міндоўга, а ў Фарным касцёле вялікі князь і кароль Ягайла вянчаўся з Соф'яй Гальшанскай. Дарэчы, у гэтым самым касцёле маленькага Адама хрысцілі. Дзеі мінуўшчыны хвалявалі сэрцы падлеткаў, нараджалі ў іхніх рамантычных душах першыя сюжэты і вобразы.

Адася захаплялі і маляўнічыя наваградскія ваколіцы з узвышшамі, адкуль у ясны дзень відаць Налібоцкая пушча з хуткімі рачулкамі і таямнічымі азёрамі. Яго на ўсё жыццё зачаравала казачна чыстае круглае люстэрка возера Свіцязь.

*Гушчар лесу пахне чаборам*
*і мёдам,*
*Жывіцы настоем смалістым.*
*Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду,*
*Ляжыць паміж дрэваў цяністых...*

**(Пераклад Антона Бялевіча)**



**Адам Міцкевіч**

Талент Міцкевіча хутка ўвабраўся ў сілу. Ягоныя вершы перапісвалі студэнты і гімназісты, іх чыталі ў дамах віленскіх месцічаў і на сходах таемных суполак.

Некалі на дно возера, каб не здацца ворагам, нібыта апусціўся цэлы горад. Гэтае паданне легла ў аснову Міцкевічавай балады «Свіцязь».

### «Мэты святыя — шчасце для ўсіх»

Закончыўшы дамініканскую школу, Адам, як і Ян Чачот, паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Юнакі былі ў шэрагах стваральнікаў і кіраўнікоў патрыятычных таварыстваў філаматаў і філарэтаў. У адным з вершаў той пары Міцкевіч заклікаў:

*Разам, сябры маладыя!..*
*У шчасці для ўсіх —*
*нашы мэты святыя.*
*Розумам дужыя, ў цвеце і сіле,*
*Разам, сябры маладыя!..*

**(Пераклад Анатоля Вялюгіна і Сяргея Дзяргая)**

Талент Міцкевіча хутка ўвабраўся ў сілу. Ягоныя вершы перапісвалі студэнты і гімназісты, іх чыталі ў дамах віленскіх месцічаў і на сходах таемных суполак.

Закончыўшы ўніверсітэт, Адам працаваў настаўнікам у Коўні. У 1822 і 1823-м пабачылі свет дзве яго кнігі. Туды ўвайшлі балады, рамансы, паэма «Гражына» і дзве часткі паэмы «Дзяды». На гэты твор маладога песняра натхніў беларускі абрад памінання продкаў.

У гады настаўніцтва Адам часта гасцяваў недалёка ад Наваградка ў маёнтку Туганавічы. Там ён закахаўся ў зямлячку-прыгажуню Марылю Верашчаку. Дзяўчына не хацела хаваць, што і яна кахае Адама. Аднак Марыля была заручоная і не пайшла супроць волі маці. Лёс назаўжды разлучыў закаханых, ды яны ніколі не забывалі адно аднаго. Марылі Верашчака паэт прысвячаў самыя пяшчотныя вершы, а потым падараваў на імяніны цудоўную баладу «Свіцязянка»:

*Што там за хлопец*
*з аблічам прыветным*
*Поруч са стройнай дзяўчынай*
*Крочыць павольна*
*пад месяцам светлым*
*Берагам Свіцязі сіняй*

**(Пераклад Аляксея Зарыцкага)**

Першыя ж кнігі Адама Міцкевіча прынеслі яму славу найлепшага паэта на землях былой Рэчы Паспалітай.

### Турма і высылка

Многія сябры Міцкевіча — філаматы і філарэты — у 1823 годзе апынуліся ў мурах Віленскага базылянскага манастыра Святой Тройцы, перабудаванага каланізатарамі ў турму. Адам сваімі вершамі мацаваў дух таварышаў па няшчасці.

Увосень 1824-га паэт, паводле прысуду, мусіў развітацца з Бацькаўшчынай. Міцкевіч жыў у Пецярбурзе, Адэсе, Маскве. Ён пазнаёміўся з дзекабрыстамі, з расейскімі літаратарамі Аляксандрам Пушкіным, Яўгенам Баратынскім, Пятром Вяземскім. Пясняр з Літвы-Беларусі меў апекуноў і абаронцаў, што высока цанілі ягоны талент. Вершы Адама перакладалі і друкавалі, у яго было шмат прыхільнікаў і прыхільніц.

У высылцы Міцкевіч стварыў напоўненую тугой па роднай зямлі лірычную нізку «Санеты». Яны лічацца шэдэўрам сусветнай літаратуры. Тады ж нарадзілася прысвечаная змаганню старадаўніх ліцьвінаў з крыжацкай навалаю паэма «Конрад Валенрод». У ёй хлопчыка-ліцьвіна Альфа крыжакі бяруць у палон і выхоўваюць, як немца. Але, вонкава скарыўшыся, юны палонік ненавідзіць Тэўтонскі ордэн. Ягоным настаўнікам робіцца палонны пясняр-ліцьвін, што захоўвае вернасць роднаму краю. У бітве тэўтонцаў з ліцьвінамі Альф пераходзіць на бок суайчыннікаў і дапамагае ім перамагчы. Князь Кейстут за мужнасць і адвагу дабраслаўляе Альфа на шлюб са сваёй дачкой Альдонай. Каб канчаткова знішчыць Тэўтонскі ордэн, Альф пад імем Конрада Валенрода ўступае туды і пе-

# Вайна з Вуніяй

**Мы памятаем пра Берасцейскую царкоўную вунію 1596 года. Паводле яе нашы праваслаўныя продкі захавалі ўсе даўнейшыя малітвы, звычаі і абрады, але пагадзіліся з вяршэнствам рымскага папы. Гэта спрыяла міру і згодзе ў Рэчы Паспалітай, дзе жылі людзі розных веравызнанняў. Новую веру назвалі вуніяцкай, а вернікаў — вуніятамі. Пры канцы XVIII стагоддзя тры з кожных чатырох жыхароў беларускіх земляў маліліся ў вуніяцкіх храмах. Беларуская мова гучала там у прамовах-казаннях і ў царкоўных спевах. Па-беларуску ішло выкладанне ў школах пры вуніяцкіх цэрквах і манастырах. На нашай мове выходзілі вуніяцкія кнігі. Гэта значыць, што Вуніяцкая царква стала ў Беларусі сапраўды народнай рэлігіяй.**

### Царква ратуе народ

Вуніяты ведалі, што яны не палякі і не расейцы, бо маюць уласную веру. Якраз таму Вунію ненавідзелі свецкія і царкоўныя вярхі Расеі. Пётр І і ягоныя прыдворныя некалі забілі ў Полацку пецярых вуніяцкіх святароў і манахаў. Крывавае злачынства адбылося ў галоўнай вуніяцкай бажніцы — Сафійскім саборы. Сам храм пятроўскія салдаты (хоць яны былі хаўруснікамі Рэчы Паспалітай у вайне з Швецыяй) напярэдадні адыходу з горада падарвалі.

Пакуль ліцьвіны-беларусы мелі сваю дзяржаву і пазней, калі землі Вялікага Княства Літоўскага захапіла Расея,



Яўстах Тышкевіч. 1873 г.

Вуніяцкая царква працягвала служыць свайму народу. Пачынальнікі беларускага нацыянальнага адраджэння прафесары Віленскага ўніверсітэта Міхал Баброўскі ды Ігнат Даніловіч паходзілі з сем'яў вуніяцкіх святароў. Такім самым паходжаннем ганарыліся адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі, мастак Іван Хруцкі, гісторык Міхал Каяловіч, заснавальнік таемнага «Дэмакратычнага таварыства» Францішак Савіч.

Імператрыца Кацярына ІІ абвясціла, што хоча выкараніць Вунію, і беларускіх вернікаў-вуніятаў пачалі пераводзіць у праваслаўе. У адказ на гвалт і здзекі шмат хто з прыхільнікаў народнай веры перайшоў у каталіцтва. Але як толькі Кацярына памерла, амаль усе былыя вуніяты вярнуліся да роднай царквы.

### «Веры сваёй ламаць не будзем!»

Наступ на Вунію зноў узмацніўся пасля вызвольнага паўстання 1831 года. Вуніяцкія святары і манахі-базыляне багаслаўлялі змагароў, былі вязнікамі, а часам самі ішлі ў лясы. Каланізатары павесілі замкі на сорак базылянскіх манастыроў.



Цар Мікалай I назваў іх «неприятельскими крепостями».

Асаблівая зацята і старанна змагаўся з нашай верай вуніяцкі біскуп Іосіф Сямашка, які перакінуўся на службу каланізатарам. Ён прымусова ўводзіў у духоўных семінарыях і царкоўных справаздачах расейскую мову. Святароў змушалі адпраўляць набажэнствы па царкоўных кнігах, прысланых з Масквы і Пецярбурга. На вачах у вернікаў ламалі і выкідалі з храмаў арганы, палілі на вогнішчах «шкодныя» вуніяцкія кнігі.

Па ўсёй Беларусі ў вёскі і мястэчкі пад ахоўвай салдатаў прыязджалі царскія камісіі з папамі. Угаворамі і пагрозамі яны схілялі вуніятаў адмовіцца ад ранейшай веры і перайсці ў праваслаўе. Беларусы-вернікі праціўіліся паўсюль — ад Бельска на захадзе да Мсціслава на ўсходзе.

У мястэчку Дзісна азвярэлая паліцыя за адмову стаць праваслаўнымі ўзялася «перахрышчваць» жыхароў павыдзіранымі з платоў жардзінамі. Самых упартых — сведчаць дакументы — пазбівалі так, што ў іх аказаліся ўспоратыя жываты і павыпадалі вантробы.

Полацкага праваслаўнага епіскапа і віцебскага генерал-губернатара, што наведаліся ў маёнтак Азярышча Гарадоцкага павета, каб перавярнуць жыхароў у праваслаўе, сяляне пастанавілі ўтапіць. Няпрошаныя госці, якія былі ўпэўненыя, што іхнія высокія пасады прымусяць вуніятаў падпарадкавацца, ледзьве ўратаваліся ўцёкамі.

Па Беларусі пайшла пагалоска пра тое, як бараніла сваю веру вёска Самулкі ў Чавускім павеце на Магілёўшчыне. Прыбылая туды камісія запатрабавала ключы ад вуніяцкай царквы. Святар і вернікі адказалі, што паганіць храм не дазволяць. Тады імперскія служкі апячаталі царкву. Сялянаў спрабавалі падпаіць гарэлкай, потым паабяцалі, што за згоду прызнаць праваслаўе вызваляць іх ад усіх павіннасцяў. Вернікі заставаліся нязломнымі і пачуўшы пагрозу выслаць усю вёску ў Сібір. Некалькіх вяскоўцаў паліцыя закавала ў калодкі, астатніх збілі, загадваючы прысягаць на крыжы маскоўскаму праваслаўю. Усё было марна. «Веры сваёй ламаць не будзем!», — сціскаючы кулакі, гучна сказаў за ўсіх вясковец Лявон Маркаў. «Не будзем! Не будзем!» — падхапілі жыхары вёскі, і камісія паехала назад ні з чым.

Словамі простага абаронца Вуніі селяніна Маркава назвала кнігу пра тыя падзеі іх сучасны

рамагае ў выбарах на пасаду вялікага магістра...

Такія творы не маглі падабацца ўладам. Адаму перадалі: рыхтуецца загад, што забароніць яму выехаць за мяжу. Не чакаючы гэтага, Міцкевіч назаўсёды пакінуў імперыю.

## Рым, Лазана, Парыж

Еўрапейскія шляхі Адама Міцкевіча прайшлі праз Італію, Швейцарыю, Нямеччыну, Францыю... Паўсюль яго ўжо ведалі як выдатнага паэта і дзеяча вызвольнага руху. Ён быў прафесарам універсітэта ў швейцарскім горадзе Лазане. У славутай парыжскай навучальні Калеж дэ Франс для Адама Міцкевіча адмыслова стварылі катэдру славянскіх літаратур і прызначылі яго загадчыкам. На лекцыі Міцкевіча разам з студэнтамі прыходзілі французскія навукоўцы і літаратары.

З сваёй прафесарскай катэдры сын навагрудскай зямлі не раз распавядаў слухачам пра культуру роднай Літвы-Беларусі. Не абмінуў ён увагаю і беларускую мову. У адной з лекцый 1842 года Міцкевіч казаў: «На беларускай мове размаўляе блізу 10 мільёнаў чалавек. Гэтая гаворка найбагацейшая і найчысцейшая. Яна вельмі гарманічная і найменш з усіх славянскіх моваў зменена». Паэт нагадаў і пра тое, што «ў пару незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся беларускай мовай у дыпламатычным ліставанні», па-беларуску быў напісаны і выдадзены Статут Вялікага Княства Літоўскага.

У Парыжы Міцкевіч ажаніўся з Цалінай Шыманоўскай. У іх нарадзілася шасцёра дзяцей: дочкі Марыя ды Хелена і сыны Уладзіслаў, Юзаф, Аляксандр і Ян. Калі Цаліна цяжка захварэла, Адам сямнаццаць гадоў даглядаў яе.

Былы філамат захоўваў вернасць вальналюбным перакананням маладосці. Калі ў 1848 годзе Еўропу ахапілі рэвалюцыйныя падзеі, Міцкевіч накіраваўся ў Італію і стварыў з суайчыннікаў легіён, які змагаўся за вызваленне гэтай краіны. Вярнуўшыся ў Парыж, Міцкевіч быў рэдактарам перадавой газеты «Трыбуна народаў» . У сваіх артыкулах ён заклікаў еўрапейцаў яднацца ў руху да свабоды.



Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку.
Фота С. Плыткевіча

## «Пан Тадэвуш»

Самы знакаміты твор генія — напісаная ў Парыжы паэма «Пан Тадэвуш». Яе называюць энцыклапедыяй жыцця беларускай шляхты пачатку XIX стагоддзя. У паэме, што налічвае каля дзесяці тысяч радкоў, яскрава, з гумарам і нязбытным сумам па радзіме паказаныя побыт, звычаі і норавы герояў з усімі іх станоўчымі якасцямі і заганамі. Міцкевіч бліскуча малюе сцэны паляванняў і святочных бяседаў, гарачых спрэчак і боек. Перад чытачом разгортваецца сапраўдная панарама тагачаснага жыцця, маляўнічыя краявіды Наваградчыны і запаведных налібоцкіх лясоў.

Дзеянне ў паэме адбываецца цягам пяці дзён у 1811 годзе і аднаго дня ў 1812-м. Гэта час, калі нашыя прадзеды чакалі ад французскага імператара Напалеона і яго Вялікай арміі вызвалення ад расейскага прыгнёту.

Галоўныя героі шэдэўра Адама Міцкевіча — закаханыя адно ў аднаго юнак Тадэвуш і дзяўчына Зося. Яны паходзяць з шляхецкіх родаў Сапліцаў і Гарэшкаў, што супернічаюць перад сабой. Пан Тадэвуш невыпадкова мае тое самае імя, што і Касцюшка. Ён разумее: дзеля свабоды Айчыны шляхце трэба забыцца на сваркі ды звадкі і разам змагацца з агульным ворагам.

Тадэвуш марыць пра аднаўленне Рэчы Паспалітай і разам з тысячамі патрыётаў-ліцьвінаў далучаецца да напалеонаўскіх войскаў. Ён, як і сам паэт, верыць, што адроджаная краіна будзе мець дэмакратычны дзяржаўны лад. Набліжаючы той час, пан Тадэвуш вызваляе ад прыгону сваіх сялянаў.

Пры канцы паэмы Міцкевіч прадказвае будучыню роднага краю:

*Тады з дубовымі вянкамі славы,*
*Пакінуўшы мячы, абсядуць лавы*
*Героі нашы слухаць спеў цікавы!*
*Калі зайздросціць будзе свет іх долі,*
*Час будуць мець пачуць пра дні нявολі*
*Бацькоў сваіх і лёсы іх уцяміць,*
*І твару іх тады сляза не спляміць.*

**(Пераклад Пятро Бітэля)**

## Халера ў Канстанцінопалі

У 1855 годзе Адам Міцкевіч выправіўся ў Турцыю. У сталіцу Асманскай імперыі яго прывялі зусім не літаратурныя клопаты. Ішла расейска-турэцкая (Крымская) вайна. Хаўруснікамі туркаў былі Францыя і Вялікабрытанія. Міцкевіч пачаў фармаваць з землякоў легіён для дапамогі французам і брытанцам. Ён з натхненнем пісаў пра высокі баявы дух суайчыннікаў і спадзяваўся, што яны будуць ваяваць і за адраджэнне Рэчы Паспалітай.

Тады ў Канстанцінопаль (Стамбул) прыйшла эпідэмія халеры. Лічыцца, што Адам захварэў і не здолеў перамагчы хваробу. Аднак ніхто з трох дактароў, якія агледзалі Міцкевіча, не выявілі ў яго прыкметаў халеры. Таму шмат хто з біёграфаў паэта мяркуе, што ён быў атручаны. Першым чынам зацікаўленыя ў гэтым былі ўлады Расеі.

У апошнія хвіліны Адам Міцкевіч папрасіў перадаць сваім дзецям, каб любілі і падтрымлівалі адно аднаго.

Цела Міцкевіча перавезлі ў Францыю і пахавалі на парыжскіх могілках. Праз некалькі дзесяцігоддзяў прах знайшоў вечны спачын у саборы святых Станіслава і Вацлава на ўзгорку Вавель у Кракаве.

## На паклон да творцы

Помнікі Адаму Міцкевічу ўсталяваныя ў Менску, Вільні, Варшаве, у Кракаве і Пазнані, у Парыжы, Львове і Адэсе, у балгарскім Бургасе... У дзясятках гарадоў Еўропы — ад Рыму да беларускіх Ашмянаў — ёсць вуліцы імя песняра. Віленскі ўніверсітэт мае двор імя Адама Міцкевіча. Памятнымі дошкамі адзначаныя ў Вільні дамы, дзе жыў і ствараў выдатны сын беларускай зямлі. У адным з іх — на Бернардзінскай вуліцы — створаны музей Міцкевіча. Тут у трох невялікіх пакоях ён жыў у 1822 годзе: завяршаў паэму «Гражына» і часта сустракаўся з сябрам-філаматамі. У экспазіцыі музея — рукапісы вершаў і першыя кнігі геніяльнага Адама, ягоныя стол і крэсла.

Але, каб найглыбей зразумець творцу, трэба ўбачыць яго радзіму. Калі вы выправіцеся ў родныя мясціны Міцкевіча, абавязкова наведайце сядзібу ў Завоссі, дзе Адам нарадзіўся, а затым — дом-музей у Навагрудку, дзе прамінула ягонае дзяцінства. У музеі захоўваюцца дакументы, фамільныя партрэты і кнігі пра род Міцкевічаў, асабістыя рэчы Адама. Асабліва кранае настольны гадзіннік, што паказваў час творцу ў ягоным віленскім студэнцкім пакоі. Недалёка ад дома-музея — помнік песняру і дванццацімятровы курган Міцкевіча, насыпаны землякамі ў 1920-я гады.

У вандроўку на малую радзіму Міцкевіча не забудзьцеся ўзяць кнігу яго вершаў. Яны будуць па-новаму гучаць і на Замкавай гары, і ў Туганавіцкім парку, дзе Адам сустракаўся з каханай Марыляй Верашчака, і на беразе возера Свіцязь...

---

гісторык Святлана Марозава. Дзякуючы ёй вы зможаце даведацца, як вуніяты супраціўляліся каланізатарам. Магчыма, у кнізе «Веры сваёй ламаць не будзем» вы знойдзеце звесткі пра вашыя мясціны і сваіх прадзедаў, што мужна баранілі народную веру.

## Людвік Беліковіч і графы Тышкевічы

Разам з простымі вернікамі ды святарамі Вунію адстойвала беларуская шляхта. Голас у абарону Вуніі смела падалі лагойскія графы Канстанцін і ЯўстахТышкевічы, што пазней сталі знанымі беларускімі гісторыкамі. Шмат ездзіў па Беларусі, заклікаючы шляхту не аддаваць на здзек народную веру, полацкі павятовы маршалак Людвік Беліковіч. У 1834 годзе ён склаў да цара зварот з патрабаваннем спыніць перaслед вуніятаў. На сходзе ў Віцебску гэты ліст падпісалі 172 шляхціцы. Імперскія ўлады прыгразілі, што ўсе яны пойдуць пад суд і пазбавяцца маёнткаў.

Неўзабаве імператару Мікалаю І прыйшоў новы зварот у абарону народнай веры ад 111 беларускіх вуніяцкіх святароў. Іх узначалілі інспектар Полацкай духоўнай семінарыі Адам Тамкавід і святар Іван Ігнатовіч. За імі ўсталявалі паліцэйскі нагляд, а затым выслалі ўглыб Расеі. Цар загадаў гэтаксама караць кожнага нязгоднага святара. Біскуп-здраднік Іосіф Сямашка выслаў з родных мясцін 29 аднадумцаў Тамкавіда і Ігнатовіча. Між лідараў пратэсту, асуджаных на высылку ў манастыр, быў і вуніяцкі святар Тамаш Хруцкі, бацька будучага слыннага мастака Івана Хруцкага.

Улады спадзяваліся, што запалохалі вуніяцкіх святароў, і пачалі збіраць подпісы за далучэнне да праваслаўя, якое называлі «воссоединением с истинной верой». У Беларускай царкоўнай акрузе з 680 святароў за «воссоединение» падпісаліся ўсяго 186, аднак гэта не перашкодзіла Сямашку і ягоным памагатым крывадушна паведаміць у Пецярбург, што пераважная бальшыня вуніятаў імкнецца як мага хутчэй уз'яднацца з праваслаўнай царквой.

## Царкоўны «сабор» 1839-га

У 1839 годзе імперскія ўлады правялі ў Полацку так званы аб'яднаўчы царкоўны сабор. На яго ўдалося сабраць усяго трох біскупаў і дванццаць аднаго святара, што прынялі пастанову пра вяртанне вуніятаў у праваслаўе. Гэтую пастанову некалькі месяцаў хавалі ад народа. Царскія служкі з страхам узгадвалі нядаўняе вызвольнае паўстанне і баяліся, што край зноў уздымецца супроць іхняе ўлады.

Перад так званым «саборам» у Беларусь увялі дадатковыя войскі. У Пецярбурзе вырашылі, што гэтага недастаткова. З Фінляндыі перакінулі сюды казацкі полк. Казакі вызначаліся адданасцю цару і лютасцю ў расправах з іншадумцамі. Казакоў па сотні размясцілі ва ўсіх гарадах і мястэчках Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губерняў, дзе чакалі вуніяцкіх бунтаў. Адно тады ўлады наважыліся абнародаваць прынятую ў Полацку пастанову. Менскія вуніяты даведаліся пра яе ажно праз паўгода...

Правёўшы незаконны царкоўны сабор, каланізатары заўзята ўзяліся перараблячь былыя вуніяцкія храмы на праваслаўныя. У Беларусі яны знішчылі болей за тысячу старадаўніх арганаў. Праваслаўе не дазваляла ў цэрквах скульптурных выяваў Ісуса Хрыста і святых. Тысячы створаных нашымі мастакамі скульптур былі спаленыя. Велізарныя вогнішчы праваслаўныя папы пад аховаю паліцыі і салдат складалі з «неугодных Богу» вуніяцкіх абразоў і кніг.

## Прычасце бізунамі

Вайна царызму з Вуніяй працягвалася з яшчэ страшнейшымі здзекамі. Непакорлівых сялянаў і мяшчан секлі бізунамі, саджалі ў астрогі, аддавалі ў салдаты або высылалі ў далёкія губерні імперыі. Цяжкая доля чакала і нязгодных святароў. Іх разлучалі з сем'ямі, пераводзілі ў дзякі (ніжэйшы чын у праваслаўнай царкве, які не мае ступені святасці), адпраўлялі ў манастырскія турмы ці ў расейскія гарады і вёскі. З ранейшых прыходаў знялі 1300 духоўных асобаў. 105 з іх за адданасць сваёй веры апынуліся за кратамі.

Пра тое, як царкоўныя і свецкія ўлады «ўз'ядноўвалі» беларускіх вуніятаў, з абурэннем пісаў расейскі пісьменнік і мысляр Аляксандр Герцэн. А вось папа рымскі Грыгорый XVI супроць знішчэння Вуніі ды пераследу вернікаў-беларусаў не пратэставаў. Папа баяўся еўрапейскіх рэвалюцый, а імператар Мікалай І быў яму тут верным хаўруснікам. Царскую імперыю нездарма называлі «жандарам Еўропы». Яе войскі заўсёды былі гатовыя рушыць на барацьбітоў за свабоду.

Выдаваная Герцэнам у Лондане газета «Колокол» надрукавала артыкул, дзе змагар з Вуніяй біскуп Іосіф Сямашка быў названы «Юдам, што высек сабе помнік на спінах безабаронных ахвяраў». «Колокол» паведамляў, як у адным з беларускіх мястэчкаў паліцыянт Навіцкі сек вернікаў-вуніятаў бізунамі датуль, пакуль тыя не пагаджаліся прыняць прычасце ад праваслаўнага папа. Чатырнаццацігадовы хлопчык не адрокся ад веры бацькоў і вытрываўшы дзвесце ўдараў бізуном. Падлетка секлі далей, і ён пагадзіўся на прычасце — ужо амаль канаючы ад болю.

Калі вы недзе пачуеце ці прачытаеце, нібыта беларусы з радасцю вярталіся ў праваслаўе, успомніце слёзы і енкі таго хлопчыка-вуніята.

## «Мы не маскалі, каб так співаць»

Былыя вуніяты адмаўляліся ад увядзення ў царкву расейскай мовы. Беларускія фалькларысты зрабілі запісы пра тое, што і ў другой палове XIX стагоддзя вернікі на загад папа заводзіць «Господи помилуй!» адказвалі: «Мы не маскалі, каб так співаць».

Пасля Полацкага царкоўнага «сабора» каланізатары падзялілі жыхароў былога Вялікага Княства на праваслаўных і каталікоў. Царкоўныя і свецкія ўлады пачалі даводзіць, быццам каталікі — гэта палякі, а праваслаўныя — абавязкова «русские». Беларусам месца тут не заставалася.

Падрыхтаваўшы глебу забаронай народнай веры, царызм нанёс новы ўдар. У 1840 годзе Мікалай І выдаў указ, які забараняў у дакументах ужываць найменні «Літва», «літоўскі» і «Беларусь», «беларускі». Замест іх землі былога Вялікага Княства Літоўскага трэба было ва ўсіх афіцыйных дакументах называць «Северо-Западным краем». Жыхары гэтага краю мусілі забыць сваю мову і гісторыю.

Аднак насуперак намаганням чужынцаў продкі не хацелі рабіцца расейцамі. Сотні тысяч вуніятаў патаемна захоўвалі вернасць народнай рэлігіі. Беларусы-ліцьвіны не забывалі, што калісьці мелі незалежную дзяржаву, дзе панавала павага да людзей рознага веравызнання і паходжання.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (159) | 29 лістапада 2019 | № 44 (655) Новы Час

# Вызначэнне сябе



Адам ГЛОБУС

## Вясновае плаванне

*Парыж у траўні — свежасць, маладосць.*
*Караблікі вязуць па Сене дурняў.*
*Я разам з дурнямі, ні гаспадар, ні госць, —*
*плыву анталагічна і культурна.*

*Плывуць насустрач Луўр і Нотэр Дам,*
*палацы, паркі, фабрыкі, заводы.*
*Плывуць па рэчцы раб, кароль і хам.*
*Плывуць братэрства, роўнасць і свабода.*

## Эпітафія

*Чалавечая справа чакала цябе,*
*ты прыходзіў і справу рабіў.*
*Ціхі ў радасці і нешматслоўны ў журбе –*
*працаваў, як працуюць рабы.*

*Ні выходных, ні святаў ніколі не браў,*
*дзеля справы і дыхаў, і жыў,*
*а калі прыпыніцца прыйшла пара,*
*ты стаў прозвішчам на крыжы.*

## Лад

*Паціху ладую,*
*стаўляю, пакую.*
*Няспешна збіраю*
*і шчыльна шыхтую...*

*Скарбоны ў скарбонку.*
*Нататы ў нататнік.*
*Цытаты ў гарбатнік.*
*Гарбату ў цытатнік.*

*Бляшаны ў бляшанку.*
*Касілы ў касільнік.*
*Мабілы ў гадзіннік.*
*Гадзіны ў мабільнік.*

*Звяроў на гасцінец.*
*Гасцей у звярынец.*
*Пакуты ў закутак.*
*Пакутніка ў кут.*

## Ліст былому сябруку

*Ты выбачай, мяне не будзе ў Менску,*
*не будзе на касьбе і на сяўбе,*
*не будзе ў Дзвінску і ў Нарафамінску,*
*мяне не будзе... Больш ніколі... Для цябе...*

## Настаўнік

*Настаўнік піў — такая вось бяда.*
*Піў і дапіўся да канца, да смерці.*
*Сыйшоў адразу пасля першай чвэрці,*
*пакінуў вучняў, не дагадаваў.*

*Так несумленна, так несамавіта*
*настаўнік выбыў з нашае гульні.*
*Яго апошнім словам праклялі.*
*Ён уваскрос, і ён жыве... Нібыта...*

## Развітальнае

*Бывай, Ахром. Плыві ў краіну сноў.*
*Цябе чакае вечны адпачынак.*
*Перажыванні, бойкі і злачынствы*
*ў мінулым. Пачынай усё наноў.*

*Цябе сустрэне там цвярозы Сыс,*
*прывеціць, праўдзе і ўсё пакажа.*
*Ты слухайся яго, бо гэта важна,*
*і помні, што найперш ты — піяніст.*

*Твой любы Скрабін, пэўна ж, будзе там.*
*Не будзе злыдняў, і не будзе здрадаў.*
*Царуюць там ураўнаважанасць і радасць.*
*Што тут казаць... Ты ўсё пабачыш сам...*




Малюнак аўтара

## Вызначэнне сябе

*Злы, няўмольны, саркастычны,*
*сентыментальны, эратычны,*
*жорсткі, сквапны, разумовы,*
*кожны дзень нібыта новы...*

## Гаспадарка

*Лёд у лядоўні,*
*лёзы ў лязоўні,*
*хлеб у хлябніцы,*
*соль у сальніцы.*

*Госці ў гасцёўні,*
*грошы ў грашоўні,*
*кроў у крывянцы,*
*Янка на Янцы.*

*Слёзы ў слязоўні,*
*мёд у мядоўні,*
*Бог у бажніцы,*
*звон у званіцы.*

## Эпітафія Міхалу

*Давай паплачам... Міхала няма.*
*Быў і прапаў вясёлы светлы Міхал.*
*Ён маляваў, пісаў, спяваў, як дыхаў...*
*Давай паплачам... Міхала няма.*

*Ёсць нашы слёзы... Міхала няма.*
*Ёсць песні Міхала, і ёсць яго малюнкі,*
*яго карціны і паштоўкі-падарункі...*
*Ёсць нашы слёзы... Міхала няма.*

*Жывым — жывое, мёртвае — кладам,*
*куды паехаў назаўсёды Міхал,*
*і мы паедзем — добра, што паціху...*
*Жывым — жывое,*
*мёртвае — кладам.*

# Афарызмы



Эдуард ДУБЯНЕЦКІ

*Заўсёды самыя цікавыя гутаркі атрымліваліся ў яго з самім сабой.*

*Светлыя мары аднаго могуць здавацца другому цёмнымі задумамі.*

*Яго ілюзіі разбіліся, бы шкло. Затое пасля гэтага нарэшце «склеілася» ягонае асабістае жыццё.*

*Будучыня іх цягнула ў адзін бок, а мінулае — у супрацьлеглы. У выніку яны так і засталіся стаяць на адным месцы.*

*Доўга шукаў сябе і нарэшце знайшоў — у бюро знаходак.*

*Дабро пераможа зло? Хіба толькі тады, калі яно само стане больш злым, а зло — больш лагодным.*

*Маўчанне — золата. Але ж як часта гэтым золатам карыстаемся не мы, а чужыя людзі!*

*Найгоршы ўплыў на грамадства аказваюць абмежаваныя людзі з неабмежаванымі ўладнымі паўнамоцтвамі і фінансавымі магчымасцямі.*

*Ён ніколі не кідаўся словамі, бо быў вельмі сквапным чалавекам.*

*Да тых, хто толькі марыць пра светлую будучыню і нічога дзеля яе набліжэння не робіць, наяве можа вярнуцца цёмнае мінулае.*

*Яму заўжды падабалася змагацца з млынамі. Але ў запале барацьбы з паветранымі млынамі ён часам забываў пра існаванне водных.*

*Марыў змяніць свет. Але не разлічыў сваіх сілаў, і неўзабаве свет змяніў яго да непазнавальнасці.*

*Ён не ўмеў кіраваць сабой. Але гэта яго зусім не бянтэжыла, паколькі ён кіраваў цэлай краінай.*

*Жыццё — тэатр. На жаль, найчасцей тэатр марыянетак.*

*Лёгка выходзіў з сябе, а вось вярнуцца назад без дапамогі іншых людзей ён не мог.*

*Дык гэта чалавек страчвае розум, ці, наадварот, розум страчвае чалавека?!*

*Брудныя намеры часам бываюць лепшымі, чым нібыта чыстыя дзеянні.*

*Ён злаваўся на свайго двайніка за тое, што той перашкаджае яму жыць. Цікава было б даведацца, а як ставіўся да яго двайнік?!*

*Знайшоў сваё месца ў жыцці. Але ж яно аказалася настолькі мулкім, што ён быў не рады такой «знаходцы».*

*Вар'яцтва ўзяло ў палон увесь свет. І, відаць, свет не мае ні жадання, ні сілаў уцячы з гэтага палону.*

*Моцна радаваўся таму, што змяняецца да лепшага. Але чамусьці яго сябры і сваякі станавіліся пры гэтым усё больш і больш сумнымі.*

*Ён быў гатовы здрадзіць Радзіме, але не паспеў, бо яна здрадзіла яму першай.*

*Дасягнуў пэўнага поспеху і пачаў лічыць сябе сапраўднай «зоркай». Аднак многія былі з ім не згодныя — у тым ліку і...зоркі на небе.*

*Бяздарная ўлада абавязкова прывядзе краіну не да ладу, а да поўнага бязладдзя.*

*Калі б бедныя раптам сталі багатымі, яны б не ведалі, што рабіць з тым багаццем. А калі б багатыя сталі беднымі, яны б не ведалі, як ім выжыць.*

*З безвыходнага становішча ёсць толькі адно простае выйсце: у яго не трапляць.*

*Змагаўся за народную волю, але ў выглядзе «ўзнагароды» ад улады атрымаў, на жаль, асабістую няволю.*

*Кожны чалавек мае процьму недахопаў. Але звычайна мы добра бачым гэтую процьму ў іншых людзях, хоць зрок найчасцей «слабее» тады, калі пачынаецца размова пра нашыя ўласныя недахопы.*

*Ставіў перад сабой высокія мэты. Але яму не хапала маштабу асобы, каб дацягнуцца да іх.*

*На любога майстра маніпуляцый калі-небудзь абавязкова знойдзецца сапраўдны грасмайстар маніпуляцый.*

*Нацыянальныя героі павінны аб'ядноўваць грамадства. А калі яны яго раз'ядноўваюць, то гэта сведчыць пра кепскі маральна-духоўны стан самога грамадства.*

*Пісьменнікі, калі да вас завітае Муза, адразу выганяйце яе! Бо калі яна пачне лашчыцца да вас, піць з вамі каву, распавядаць пра свае мары і г.д., то гэта надоўга адцягне вас ад галоўнай справы — (на)пісання шэдэўраў.*

*Кожны творца хоча напісаць хаця б адзін геніяльны твор. Але ж апошні сам выбірае таго творцу, кім бы яму хацелася быць напісаным.*

*Лічыў сябе геніем, а ўсе астатнія лічылі яго бяздарам. Так ён і застаўся ў памяці людской «бяздарным геніем».*

*Дэманы мінулага не давалі яму спакойна жыць. Урэшце ён іх выгнаў, але жыццё без іх стала вельмі сумным.*

*Ён спрытна пераскокваў перашкоды. А таму яны ніяк не маглі ўплываць на яго.*

*Адчайна змагаўся з рэальнымі і ўяўнымі ворагамі. Праўда, з цягам часу гэтае змаганне давяло яго да... адчаю.*

*Лічыў сябе лепшым з лепшых. А людзі лічылі яго горшым з горшых. У выніку ён быў змушаны прызнаць сябе лепшым з горшых (а мо горшым з лепшых ?!).*

*Сон спараджае пачвараў? Не, хутчэй пачвары спараджаюць жахлівыя сны.*

*Начныя кашмары — гэта было самае цікавае ў ягоным сумным (што)дзённым жыцці.*

*Хачу на мора, на пясок! Ды надта ж тонкі кашалёк...*

*Кожны чыноўнік хоча «ганяць» сваіх падначаленых. Але часцяком ён забываецца, што і яго хтосьці калісьці можа пагнаць паганай мятлой з утульнай пасады.*

*Выратавальная сіла мастацтва! Заўсёды ты ратавала і ратуеш людзей ад роспачы, здзіўчэння і вар'яцтва.*

*Надзея — зыркі маяк у моры самоты, які паказвае шлях да берага шчасця.*

*Залежнасць ад культуры — як наркотык. Паспрабаваў — наўрад ці потым кінеш. Паболей бы залежных нам такіх — глядзіш, культура б, можа, расквітнела.*

*Улада, якая затыкае рот іншадумцам і заганяе іх у сацыяльнае гета, у рэшце рэшт абавязкова загоніць сябе на задворкі Цывілізацыі і Гісторыі.*

*Каханне — дзіда, з дапамогаю якой мяркую выйграць я з самотай цяжкі бой.*

*Каб у яго не «паехаў дах», ён вырашыў увогуле адмовіцца ад даху над галавой і жыў пад адкрытым небам.*

*Бадай, кожны з нас піша сваю кнігу памылак. Ах, як жа нам, бывае, хочацца потым вырваць з гэтай кнігі некаторыя старонкі!*

# Развітанне з мяжой



Уладзімір МАРОЗ

**Час развітацца з мяжою. Той, якая ўжо восемдзесят гадоў не існуе ў рэальнасці, але якая да гэтага часу існуе ментальна, псіхалагічна і метафізічна ў беларускай свядомасці і падсвядомасці...**

Мы — апошняе пакаленне, для якога гэтая тэза справядлівая, для нашых дзяцей і ўнукаў мяжа тая ўжо не існуе, яна засталася проста фактам гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Але яго трэба ведаць, каб правільна зразумець найважнейшыя зрухі, якія ўрэшце склаліся ў сваёй метафізічна-энергетычнай моцы і прывялі да існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Да падзей 1939-га года падштурхнула праца над кнігай успамінаў майго бацькі Вікенція Мароза «Перажытае-незабытае». У часе рыхтавання тэкста, напісанага дробным і не вельмі разборлівым почыркам з абодвух бакоў шэрага аркуша паперы, мінулае наноў узяло ў палон. У тым перажытым маім бацькам было і пятнаццаць гадоў жыцця пад Польшчай. А 2019 год, юбілейны ад 1939-га, паклікаў яшчэ стварэнне дакументальнага фільма па маім сцэнарыі, які грунтаваўся якраз на гісторыі сям'і і асабістых згадках. Рэч у тым, што вёска маёй маці — Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне (хто не ведае радзіму Якуба Коласа?), а бацькава Цякалаўшчына на Нясвіжчыне месціліся літаральна за адзін-два кіламетры ад былой беларускай савецка-польскай мяжы, але на заходнім яе боку.

Калі дзед Іван вёз нас на возе з Цякалаўшчыны ў недалёкія госці да бацькавай сястры Шуры ў вёску Вялікая Раёўка (ужо Капыльскага раёна), адразу пасля невялікага лесу кідаліся ў вочы дзіўныя нязрушныя масіўныя бетонныя збудаванні — доўгатэрміновыя агнявыя кропкі. Стаялі яны каля лесу і пасярод поля, засеянага то збажынай, то бульбай, то буракамі, што кожнага разу дадавала свайго адцення для ўспрымання спарудаў. Бацька тлумачыў, што гэта былыя ўмацаванні на былой савецка-польскай мяжы, якая да 1939 года рэзала тэрыторыю Беларусі. На сёння ведаю, што гэта знакі-парэшткі так званай «лініі Сталіна» (назва пайшла ў свой час ад нямецкай прапаганды і заходняй прэсы), бункеры для кулямётаў ці процітанкавых гарматаў. Яны ніколі так і не былі выкарыстаны па сваім абаронным прызначэнні. Як цікаўныя дзеці, мы лазілі па тых бункерах. Яны ўласна так і ўспрымаліся — як нечаканыя збудаванні для забавы.

А калі з Мікалаеўшчыны, перабрыўшы Нёман, хадзілі з дзедам Костусем (бацька маёй маці) у Паласенскі лес па ягады ці грыбы, ён часта вёў нас у нізіну сярод лесу, дзе была маляўнічая азярына, і казаў, што тут была польская стражніца на мяжы.

«Стражніца» — якое дзіўнае і таямнічае слова! Так з дзяцінства ўвайшла ў маю свядомасць мяжа. Праз памяць бацькоў і дзядоў метафізічнае адчуванне памежжа стала неад'емна маім.

Сапраўдная мяжа аб'ектыўна мае велізарную энергетыку і сілу, якая здольная змяняць лёсы людзей і народаў. Колькі разоў на працягу нашай гісторыі мяняліся межы Беларусі! І нават ішлі па жывому яе целу, што было з гістарычнага беларускага гледзішча вельмі балюча. Як пры трох падзелах Рэчы Паспалітай, якія адбыліся ў канцы XVIII стагоддзя. Тады праз 23 гады мы зноў сталі адзінай тэрыторыяй, няхай і ў складзе Расійскай імперыі. І ўсё ж найбольш няпростай для беларускага ўсведамлення стала мяжа 1921 года, якая рэзала Беларусь па-жывому ды існавала 18 гадоў — да 1939-га.

Бацька мой (1924 года нараджэння) пайшоў у школу недзе ў 1931 годзе. Усе прадметы выкладаліся на польскай мове. Вершык малога паляка назаўсёды ўрэзаўся ў памяць: «Хто ты естэсь? // Поляк малы. // Які знак твуй? // Ожэл бялы». Але якім жа палякам быў мой бацька, калі ён быў беларусам! Толькі закон Божы выкладалі на рускай мове, праўда, потым надрукавалі падручнік па рускай мове лацінкай, што выклікала слёзы ў святара.

Яшчэ за «польскім часам» пайшла ў школу і мая маці Дзіна, 1929 года нараджэння. У яе нават польскі падручнік для дзяцей захаваўся з таго часу. Памятае, што на ўваходзе ў школу дзяцей сустракала цётка і прымушала выпіць рыбінага тлушчу (аб здароўі дзяцей клапаціліся!). Памятае, як на пахаванне Пілсудскага падвезлі на возе да школы ўяўную дамавіну, і кожны павінен быў кінуць туды жменьку пяску на памяць аб начальніку польскай дзяржавы. Так выхоўвалі з дзяцінства польскі патрыятызм.

Калі за прыватным глянуць на агульную карціну, то варта нагадаць энцыклапедычныя звесткі. Да 1921 года ў Заходняй Беларусі існавала 514 беларускіх школаў. У 1928 годзе іх заставалася толькі 69, тры працэнты ад усіх навучальных устаноў на гэтых землях. Але і яны ўсе былі зачыненыя да 1939 года. Даходзіла да таго, што любыя патрабаванні навучання на беларускай мове ўлады разглядалі як вынік камуністычнай змовы. У тым ліку і дзейнасць Таварыства беларускай школы (1921–1937гг.) на чале з Браніславам Тарашкевічам.

Не так і даўно з аповедаў бацькоў я акрэслена ўсвядоміў для сябе, што у нашых сем'ях былі выпадкі, калі мае крэўныя цярпелі за сваю беларускасць пры Польшчы. Брат дзеда Івана дзядзька Лукаш скончыў настаўніцкую семінарыю, працаваў настаўнікам. У пэўны момант яму сказалі, каб перахрысціўся ў каталіцтва, інакш працаваць настаўнікам не зможа. Лукаш адмовіўся, і яго звольнілі з працы. А дзед Костусь служыў леснікам у Радзівіла. Жылі ў лесе, ад хутара да мяжы з Саветамі было зусім блізка. Польская выведка доўгі час (мо з паўгода) схіляла дзеда, каб ён супрацоўнічаў з імі, даносіў аб тым, што адбываецца на мяжы. Дзед так і не пагадзіўся. Без усялякіх тлумачэнняў яго вывезлі назад у вёску, службу ён страціў. Праўда, цяпер відавочна, што беларускасць выратавала яго, бо як лесніка маглі б ужо за «дугімі саветамі» выслаць, дэпартаваць у Сібір. У 39-м перад вайной яго прызвалі з рэзерву ў польскае войска, але пасля вызвалення Заходняй Беларусі ён вярнуўся дадому, як і многія мабілізаваныя беларусы.

Перыяд жыцця беларусаў пры Польшчы ацэнваюць па-рознаму. Але відавочна, што да беларусаў ставіліся ўсё ж як да людзей ніжэйшага гатунку. Я нарадзіўся ў горадзе Косава, куды пасля Нясвіжскай педвучэльні прыехалі настаўнічаць мае бацькі. Места адметнае — чаго варта толькі імя народжанага ў недалёкім фальварку Марачоўшчына Тадэвуша Касцюшкі! Вольналюбівы горад вызначыўся і тым, што тут у лютым 1927 года адбылася паўтаратысячная мірная дэманстрацыя рабочых і сялян супраць закрыцця Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Дайшло да сутыкнення з паліцыяй, тая адкрыла агонь, шэсць чалавек было забіта, засталося шмат параненых...

Палітыка польскіх уладаў на паскораную асіміляцыю беларусаў (закрыццё беларускіх школ і гімназій) і палітычная бяспраўнасць насельніцтва заходнебеларускіх земляў была адкрытай, не прыхаванай. Польскімі ўладамі ў 1934 годзе былі створаны Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, куды трапляла і шмат простых беларусаў, а не толькі дзеячоў беларускага нацыянальнага руху. Усяго ў польскіх турмах сядзела блізу 1300 беларусаў-палітзняволеных. А пасля вызвалення ў 1939 годзе маштабныя рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі праводзіў ужо сталінскі рэжым...

«Механізм» 39-га года добра распрацаваны ў гістарыяграфіі. Ён пачаў канкрэтна ўвасабляцца ў сваёй сутнасці пасля падпісання сакрэтных пратаколаў да пакта Молатава–Рыбентропа 23 жніўня 1939 года, па якім Савецкі Саюз і Германія падзялілі сферы ўплыву. Заходняя Беларусь і Украіна павінны былі адысці да савецкай дзяржавы «пад маркай» уз'яднання беларускага і ўкраінскага народаў. І ўжо праз тыдзень, 1 верасня, нападам Германіі на Польшчу пачалася Другая сусветная вайна. Варта ўсвядоміць, што і для Беларусі яна пачалася якраз у гэты дзень, бо ў польскай арміі, якая абараняла Варшаву (і не толькі) было шмат салдат-беларусаў. Даследчыкі ацэньваюць іх колькасць з улікам мабілізацыі 1939 года звыш сарака тысяч чалавек.

Нацысты сваю дамоўленасць выканалі. Пачалася аперацыя «Гляйвіц», 14 верасня яны былі ўжо ў Брэсце. Толькі ў Брэсцкай крэпасці яшчэ было супраціўленне. А Сталін марудзіў, не хацеў выглядаць агрэсарам. І толькі 17 верасня пачаўся вызваленчы паход Чырвонай арміі, як ён называўся ў савецкай гістарыяграфіі. Праходзіў ён амаль без супраціўлення, хоць сутычкі ўсё ж былі. Па-рознаму сустракалі людзі ў Заходняй Беларусі савецкія войскі, большасць усё ж з з надзеяй на разняволенне ды лепшае жыццё. А якое было жыццё ў Савецкай Беларусі — ніхто толкам і не ведаў.

Уз'яднанне ў верасні 1939 года было больш мілітарысцкім і прапагандысцкім актам, чым рэальным знішчэннем мяжы. Яна заставалася, «заходнікаў» не прапускалі ва Усходнюю Беларусь. Трэба было мець спецыяльны дазвол. Адно што была савецка-польская мяжа, а цяпер мяжа стала беларуска-беларускай. Рэальна яна знікла толькі пасля вайны, а вось ментальна-псіхалагічны падзел існаваў доўгія дзесяцігоддзі.

Цікава зазначыць, што 1939 год адыграў адметную ролю ў лёсе народных песняроў Беларусі Якуба Коласа і Янкі Купалы. Калі першым сакратаром ЦК КПБ у 1938 годзе прызначылі Панцеляймона Панамарэнку, той пачаў разбірацца з беларускай сітуацыяй. І напісаў ліст Сталіну, па якім песняроў неадкладна трэба было калі не расстраляць, то тэрмінова выслаць у Сібір. Але замест гэтага Сталін узнагародзіў іх ордэнамі Леніна. Бо ў правадыра краіны Саветаў ужо быў план агрэсіі супраць Польшчы (у тым ліку і вяртання Заходняй Беларусі), таму яму не патрэбны былі нейкія гучныя справы ў Беларусі Савецкай. Наадварот, трэба было падкрэсліць, што тут усё цудоўна. Так вось і засталіся жывымі пісьменнікі, і ордэны займелі. І Панамарэнка ў гэтай справе (ордэры на ордэны) абсалютна не пры чым.

У мяне няма сумневу, што Якуб Колас і Янка Купала, нягледзячы на тое, што яны цудоўна ведалі, у якой сістэме жывуць, шчыра віталі ўз'яднанне беларускага народа. Не толькі як патрыёты сваёй зямлі, але і ў звязку з малой радзімай, якая была адсечана мяжою. Колас у газеце «Звязда» пісаў сваім аднавяскоўцам-мікалаеўцам на запрашэнне наведаць вёску: «Даўно мяне цягне свой родны куток, дзе я гадаваўся, вучыўся, дзе правёў свае маладыя леты, куток, якога я не бачыў ужо з 1915 года. З гэтага часу я бываў у Мікалаеўшчыне толькі ў мыслях ды сне. Сніліся мне і Канцывалокі, і Міхалаў крыж, і Дуброўкі, і Лядзіны, і Бервянец, і Раймусавая шырокая, і Высокі бераг, і сотні іншых урочышч, якія цяжка пералічыць... Граніца, разлучаўшая нас дзясяткі гадоў, сцёрта...».

1939 год для нас асабліва сумна-адметны тым, што беларусы назаўсёды страцілі маці-Вільню. У горад савецкія войскі ўвайшлі 19 верасня. Вільня для Заходняй Беларусі была галоўным горадам краю, яго культурным і навуковым цэнтрам. Адразу была створана беларуская адміністрацыя. Але беларускай Вільня пабыла ўсяго некалькі тыдняў. У Сталіна ўжо быў план перадачы горада Літве, каб улашчыць літоўцаў перад будучай акупацыяй іх краіны. На беларусаў ён не зважаў.




Працяг на стар. 16 (10) »

« Працяг.
Пачатак на стар. 15 (9)

Але жыццё ішло сваім шляхам, беларусы сталі жыць разам. Тым, хто называе далучэнне земляў Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай у 1939 годзе акупацыяй Польшчы, мне хочацца задаць пытанне: а як назваць тое, што адбылося ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя? Акупацыяй палякамі беларускіх земляў. А як адносіцца да падзеі 1921 года пад назваю Рыжскага міру? Першапачаткова мірныя перамовы савецкай Расіі з Польшчай пасля вайны меркавалася правесці ў Баранавічах ці Мінску. Але як тады абысціся без беларусаў? Прыдумалі, як без беларусаў: падпісалі дамову ў Рызе. Вось і падзялілі нас без нас. Да падпісання Дагавора не дапусцілі ні прадстаўнікоў савецкай Беларусі, ні дэлегацыю БНР. Як адзначаў вядомы беларускі навуковец і нацыянальны дзеяч Аркадзь Смоліч, «такі палітычны падзел Беларусі не абапіраецца ні на якія геаграфічныя асновы. Межы праведзены па жывому целу Беларусі…». Паэт Алесь Дудар у сваім вершы канстатаваў: «Пасеклі наш край папалам».

У 1921 годзе значная частка этнічнай беларускай тэрыторыі адышла да Польшчы — больш за сто тысяч квадратных кіламетраў з насельніцтвам звыш чатырох з паловай мільёнаў чалавек. Усходняя частка Беларусі належала РСФСР. Уласна Беларуская рэспубліка на той момант уяўляла сабою маленькую пляму на мапе, існавала ў межах шасці паветаў Мінскай губерні з насельніцтвам паўтара мільёна чалавек. І толькі ў 1924-м і 1926-м гадах Беларусі былі вернуты яе спрадвечныя ўсходнія землі — паветы колішніх Гомельскай, Магілёўскай, Смаленскай і Віцебскай губерній. Пасля узбуйнення насельніцтва Усходняй Беларусі склала каля пяці мільёнаў чалавек, што было ўжо суадносна з Беларуссю Заходняй.

Уз'яднанне 1939 года належала аформіць адпаведным юрыдычным чынам. Вільні для беларусаў — не было, і ў прапагандысцкай хронікі тых гадоў цэнтрам Заходняй Беларусі абвесцілі Беласток. Якраз тут 28–30 кастрычніка 1939 года ў будынку гарадскога тэатра адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, які прыняў адпаведныя дакументы. Гэта дэкларацыі «Аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», «Аб дзяржаўнай уладзе», «Аб канфіскацыі панскіх земляў», «Аб нацыяналізацыі банкаў і буйной прамысловасці» (з яго ўведаў, што ў Гароднi пры Польшчы існаваў веласіпедна-матацыклетны завод). Потым былі прынятыя законы Вярхоўнага Савета СССР і БССР аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў БССР. Дарэчы, у беларускім законе ад 14 лістапада 1939 года зафіксавана азначэнне «вялікі беларускі народ».

**Нягледзячы на гістарычныя ператрусы, нашыя гоні-палі, лясы-бары, нашыя рэкі-азёры, вёскі і гарады заўсёды заставаліся з намі. І гэтая нязрушанасць — надзейны падмурак існавання Рэспублікі Беларусь**

Як беларус, я таксама падпісаўся б пад словамі «ўз'яднаць беларускі народ у адзінай дзяржаве і пакласці канец тым самым раз'яднанню беларускага народа», негледзячы на акалічнасці геапалітычнай і мілітарнай сітуацыі і выразны пафас фармулёвак.

Недасведчаны чалавек у сённяшнім польскім Беластоку аніяк не пазнае былы беларускі горад. А свядомы беларус будзе памятаць, што з гэтым горадам звязана адна з важнейшых падзей нашай найноўшай гісторыі: уз'яднанне беларускага народа ў адзінае цэлае. Дарэчы, у Смаленску на будынку былога дваранскага збору (цяперашні будынак філармоніі), дзе 1 студзеня 1919 года было абвешчана аб стварэнні Беларускай савецкай рэспублікі, вісіць адпаведная памятная дошка. Бачыў на сваe вочы. А вось у Беластоку на будынку гарадскога тэатра, дзе адбыўся Народны сход, аніякай дошкі няма. На жаль, яна ніколі і не з'явіцца, нават калі зварот (дапусцім нерэальнае) да польскага боку будзе прыняты на самым вышэйшым узроўні. Наадварот, калі мы рабілі здымкі па фільму «39-ы год» (канчатковая назва «Мяжа»), у цэнтры горада ладзілася фотавыстава, прысвечаная «100-годдзю вяртання Беластока ў склад Рэчы Паспалітай». Хітрая фармулёўка, не аспрэчыш… На сённяшні дзень Рэч Паспалітая выклікае найперш асацыяцыі з Польшчай, а тое, што Беласток — старадаўняе места Вялікага Княства Літоўскага, мала хто і згадае…

Аб'яднанне ў 1939-м годзе — адназначна пазітыўная падзея ў беларускай гісторыі. Я, да ўсяго, гэта ведаю і генетычна адчуваю ад сваіх бацькоў, дзядуль і бабуль, якія жылі ў тым часе каля самай рысы беларускага раз'яднання — былой савецка-польскай мяжы. Бо незалежна ад мяжы мы ўсё роўна заставаліся, як і спрадвеку, беларусамі.

Нягледзячы на гістарычныя ператрусы, нашыя гоні-палі, лясы-бары, нашыя рэкі-азёры, вёскі і гарады заўсёды заставаліся з намі. І гэтая нязрушанасць — надзейны падмурак існавання Рэспублікі Беларусь як суб'екта гісторыі, што і стала ўрэшце аб'ектыўнай рэальнасцю. І гэта, на мой погляд, ужо незваротна, як незваротна кожнаць воды мая беларуская рака Нёман да свайго акіяна без аніякіх межаў.



Фота www.pixabay.com

# Усё таемнае…

## З цыкла «Яны і яна»



Альжбета КЕДА

**Яна вельмі любіць гэтую Паэтку. Захапляецца яе вершамі, якія адгукаюцца ў душы мелодыяй.**

Паэтка была незвычайна прыгожай. Мо нават не знешне, не рысамі твару, нязвыклага між паэтак беларускіх. Быццам асоба з далёкага Каўказа: цёмныя валасы, чорныя вочы, прадаўгаваты нос, арліны профіль. Высокая, статная, крыху манжная, нат і ў маладым веку.

Па нацыянальнасці руская. Асеннева. Недарэмна ж паэтка восені, як яе назвалі яшчэ ў дваццатыя гады. Пра творчасць, ды і пра жыццёвы шлях напісана багата. Асабліва ў часы вяртання, у першай палове дзевяностых. А ў другой палове дзясятых ужо новага стагоддзя пісала хіба што толькі яна. Здзіўляла яе тое, як дасведчаныя, старэйшыя калегі-літаратуразнаўцы тлумачылі прычыну вяртання Паэткі з сынамі з казахстанскае ссылкі, куды тыя трапілі як сям'я ворага народа, польскага афіцэра. Вось жа, быццам вызвалілі, бо клапаціліся пра яе нашы пісьменнікі: Янка Купала, Максім Танк… А яшчэ больш здзівіла, калі малады, а вельмі начытаны, як мала хто з яго пакалення, даследчык айчыннай літаратуры ў сваіх кольках там фактах пра Асенневу паўтарыў той жа міт. Сапраўды, калегі-пісьменнікі клапаціліся. Але, думалася ёй яшчэ тады, у мінулым стагоддзі: няўжо абарона творцаў свае каляжанкі ў тыя страшныя часы была ажно такой дзейснай? Калі б так было, то (яна ў гэта верыць) шаноўныя класікі нашыя зрабілі б усё, каб вярнуць з няволі ўсіх сваіх калегаў. Не надта ў тых жахліва-знішчальных справах да іхняга голасу прыслухоўваліся. Так разважала. Не давала ёй спакою падарожжа Паэткі ў Маскву з Казахстану. Асеннева напісала ўспаміны «У казахстанскай ссылцы», дзе і пра тую паездку распавяла: «На шосты дзень я шчаслівa заехала ў Маскву, знайшла па адрасе на канверце ліста маскоўскае НКВД (на Лубянцы), ізноў запаўняла там бясконцыя анкеты, адказвала на бясконцыя пытанні. Энкавэдысты стараліся намовіць мяне, каб я падпісала развод із маім мужам, але я адмовілася. І падумаць толькі, што мой муж якраз у гэтым часе быў там, на Лубянцы, можа, праз якую сцяну ад мяне, а я і не падазравала гэтага! Наагул, і па сённяшні дзень я не ведаю, нашто мяне маскоўскае НКВД выклікала аж з Казахстана? Ці яны хацелі паглядзець на мяне, ці намовіць на развод, ці яшчэ што. Урэшце рэшт яны сказалі мне, што за мяне «ходатайствуют» важныя асобы і што я, магчыма, буду звольнена з высылкі, а пакуль што маю ехаць назад у Казастан і аб усёй справе маўчаць. Я так і зрабіла. НКВД завезла мяне на станцыю, купіла білет і пасадзіла ў цягнік. Праз тыдзень я была ўжо ў нашым раённым мястэчку».

Гэты аповед ані не праясніў таго, што здарылася. Ён яшчэ болей заблытваў, пацвярджаў міт пра хадайніцтва пісьменнікаў, дзейснасць тых захадаў. Пытанні заставаліся. Галоўнае, якое ставіць і Асеннева: «Навошта выклікалі ажно ў Маскву?» Адказы пачала шукаць між радкоў. Шукала разам з Паэткай. «Ці яны хацелі паглядзець на мяне», — крыху смешна. Выклікаць з Казахстану (а такі ж няблізкі свет!), каб паглядзець на яе. Меркавала яна, што Паэтка і сама разумела абсурднасць такога дапушчэння. «Намовіць на развод», — гэта ўжо больш сур'ёзна. Але хіба ў Паўладары намовіць не маглі? Мо і не маглі. Сваіх «ніжэйшых» чыноў у курс справы ўводзіць не жадалі? Хто іх логіку зразумее. А далей чытаем: «…ці яшчэ што». Было прычынай. Яшчэ штосьці. Самае важнае, пра што Паэтка ва ўспамінах напісаць не магла. Пасля гэтага сказа мусіла б стаяць шматкроп'е: наступны пачынаецца са словаў «урэшце рэшт», якія падказваюць, што было яшчэ нешта, шмат нечага, што ўрэшце закончылася. Прымус да супрацы. Гэтага не магло не быць. Дзеля гэтага і выклікалі…

Шмат разоў вярталася яна ў думках у той страшны для Паэткі дзень, у тое страшнае месца. Перажывала, бы сваю ўласную бяду, пакуты жанчыны. І ўжо ведала: Асеннева пагадзілася. За́кідаў у «супрацоўніцтве» ў нашых выданнях было багата. Злыя закіды тых, хто ўмее адно каменем кінуць. Яна ведала, які «псеўданім», ці як гэта там у іх называецца, Паэтка сабе абрала. Спадчынны — можна і так сказаць. Была з роду, які даў свету вялікага рускага паэта. А ў творы класіка ёсць такі герой — Казбіч. Фільм «Бэла» паводле аповесці быў у яе дзяцінстве адным з самых улюбёных. Заўсёды плакала, калі гінула маладая, прыгожая, такая слаўная, мілая гераіня, забітая рукою Казбіча, які кахаў яе. І забойцу яна шкадавала не меней, чым ахвяру… Ці ведалі ка́ты, хто такі Казбіч?

Ніколі не асудзіла Паэтку за той страшны крок. Бо ўяўляла, як «угаворвалі», якія метады скарыстоўвалі. На шалі з аднаго боку пакладзены былі лёсы сыноў, жыццё любых хлопчыкаў. Сваё жыццё яна аддала б. Але катаванні ці вытрымала б? А з другога — папера, якую трэба падпісаць. Што выбера маці? Хто мае права асудзіць яе?

Так, яна сама далёка не заўсёды паслядоўная. Прызнае гэта. Бо тую, што за Паэткай ужо ў гады вайны віжавала, даносы ў тую ж кантору пісала, асуджае. І ведаць не хоча, як тая сэксоткаю стала. Мо і яе прымусілі, мо і ў яе дзеці? Была блізкай да Паэткі асобай, працавала ў беларускіх арганізацыях. Пісала пра Асенневу вельмі непрыязна. З непрыхаванай злосцю, а нат з пагардай малявала партрэт: пажоўклая скура твару, абвіслыя мяшкі пад вачыма. Адчувалася, як з кожнага слова веяла нянавісцю. А гэта ж было ў той час, калі Паэтка пахавала свайго сыночка, свайго першынца. І ад гэтага не адышла праз усё жыццё. То не дзіва, што тады так марна выглядала.

У гэтай сваёй непаслядоўнасці апраўдваецца прызнаннем Паэткі: «Я адкрыла ў сабе яшчэ адну рысу характару, да гэтага мне не знаную: я не ўмею зусім, без рэшты, дароўваць людзям учыненыя імі крыўды ці подласці. Чалавек, які зрабіў мне гэта, пераставаў існаваць для мяне як чалавек». Скарэктавала для сябе так: «Дарую крыўды, зробленыя мне, але не магу даравець крыўды, зробленыя ім, духоўным лідэрам Беларусі, дзякуючы якім Беларусь існуе». Тая інфарматарка нічога асаблівага для сваіх куратараў пра Паэтку напісаць не магла. Адно толькі вылівала бруд на Асобу, якая поўнілася горам.

Думае яна часам: ці была хоць адна папера, хоць адзін данос, напісаны Асенневай-Казбіч? Хоча верыць, што не было.

Архівы, якія маглі б пра тое расказаць, недаступныя. А мо іх зусім няма?

Ды ўсё таемнае калісьці…

# «І хай ніхто не пойдзе пакрыўджаным»

**Ну вось, і пачала паціху атачаць нас імгла меланхалічнай восені.**

Такому флегматычнаму часу якраз, асабліва ў выходныя дні, спрыяе няспешнае роздумнае чытанне. Найперш мастацкай літаратуры. Нашага разліву, як кажуць, беларускай, сучаснай. То — чарговы «Дзеяслоў» вам у рукі. У 102 яго нумары вас чакае сустрэча з адмысловай прозай Андрэя Федарэнкі і Валерыя Гапеева. Думаю, падасца займальным і цікавым і эсэ ў стылі нон-фікшн філосафа Валянціна Акудовіча. Гэта — найбольш вартае, як на маё меркаванне, з *салідных* публікацый часопіса. На іх адмеце шырэй і грунтоўней прыпынімся.




Пачатак рамана **Андрэя Федарэнкі** «Жэтон на метро», што публікуе часопіс, у пэўнай меры новая старонка ў творчасці вядомага пісьменніка. Ён спрабуе асэнсаваць сферу бізнесу і выкласці займальную гісторыю з дэтэктыўнай падсветкай. Вядома, расповед не столькі пра сам бізнес, як пра людзей, што ў яго ўкручаны. Ды і не толькі бізнес. Гаворка вядзецца пра двух зводных братоў з Расіі, Літавых, адзін з якіх робіць прыўладную палітычную кар'еру і ўжо стаіць адной нагой на прыступцы да самага высокага месца ва ўрадзе імперскай дзяржавы, а другі, трохі старэйшы, працуе ў вялікай лесаапрацоўчай кампаніі, маючы там свае немалыя акцыі. Малодшы кіруе старэйшым, бо нешта ў маладосці такое здарылася, што ад таго ўчынку (магчыма, крымінальнага) залежыць службовы і жыццёвы лёс іх абодвух. Таму Леаніда Літава пераводзяць (вядома, з падачы брата) з аднаго месца на другое (Латвія, Украіна, Эстонія, Польшча). Не больш двух гадоў працы, і — змена месца дыслакацыі. Цяпер ён ужо два гады ў Беларусі, якая яму вельмі палюбілася, прыжыўся тут з сям'ёй і нават сабраўся вывучыць беларускую мову (мы ж ведаем, рускія — *ветлівыя людзі*). Да таго ж пачаў пісаць гістарычную прозу. Жыве і паводзіць ён сябе вельмі дзіўна, а часам і падазрона. (Sic! — пабудаваў у падворку бункер, называючы яго працоўным кабінетам.) Упарта шукаў знаёмства з беларускамоўнымі, каб хтосьці з іх дапамог з літаратурнай апрацоўкай тэкстаў. І знайшоў пенсіянера, былога выкладчыка ўніверсітэта, а той звёў Літава з паэтам Ракам, які некалі вучыўся ў таго самага выкладчыка, прафесара Самусенкава. Абодва беларусы знаходзяцца ў творчым і псіхалагічным крызісе. Адзінота і замкнёнасць змушаюць іх да знаёмства і стасункаў з Літавым... Чым далей, тым болей гісторыя заблытваецца, заводзіць герояў у непралазную палескую пушчу... А між тым, таемнасць аўтарскай задумы аніяк не выдаецца, і гэта яшчэ больш напружвае... Тут і жанчыны, і грамадска-палітычная падаплёка, і літаратура, і маральныя зрушэнні... Стыль пісьма, мова, вобразы і характары герояў Федарэнкі так дасціпна і нязмушана кладуцца на душу чытача, што ён, забыўшыся, рухаецца за сюжэтам, міжвольна ўжываючыся ў яго і суперажываючы ўсяму, што там адбываецца...

*Чытвом* пазначыў жанр свайго прыгодніцкага тэксту «І хай ніхто не пойдзе пакрыўджаны, або Грак і Монця Хрысцік» адметны і сталы празаік з Івацэвічаў **Валеры Гапееў**. Сюжэт раскручваецца па волі аўтара вельмі заманліва для чытача. Але, у адрозненне ад Федарэнкі, тут рука вопытнага складальніка *пазлаў* праглядаецца амаль візуальна. Ход гісторыі, якую распавядае нам аўтар, хоць асаблівай навізной і не вылучаецца, у функцыянальных дэталях і мастацкім афармленні мае свае падтэкставыя ізюмінкі. Чытанне даецца лёгка, ды і змест і яго высновы даволі ясна праглядваюцца. Зрэшты, насамрэч не ўсё так проста. Калі коратка, то фрагмент чытва, які падаецца ў часопісе як інтрыга для ўсяго будучага тэксту, можна выкласці ў пяці сказах. Хлопцы з правінцыі заканчваюць вучобу ў магістратуры ўніверсітэта. Адзін — таленавіты тэарэтык, другі прагматычны і амбітны практык. Працуюць над адным перспектыўным вынаходніцтвам і хочуць давесці яго да канца. Але месца ў аспірантуры ёсць толькі для аднаго, і яно выпадае Монцю (Мацвею). Даніла затойвае глыбокую крыўду на свайго калегу. Інтэрнацкія сябры, адчуўшы крыўду і роспач Данілы, наважваюць яго на подласць: падкласці ў рэчавы тайнік Монці бэнээфаўскія ўлёткі і распавесці пра тое людзям з органаў... Монця «разаблачаюць» і выстаўляюць з універсітэта як апазіцыянера (хоць той ні сном, ні духам...). Ён едзе ў свой райцэнтр да хваравітай і адзінокай маці, а не знайшоўшы там працы, патрапляе ў гурт гастарбайтэраў, што адпраўляюцца на заробкі ў Расію. Аднак працадаўцы аказваюцца крымінальнікамі і завозяць хлопцаў у Чэчню, прадаючы іх горцам у рабства... Монця апынаецца ў безвыходнай сітуацыі, але ў яго ачахлы дух усяляе надзею такі ж, палонены перад ім, рускі афіцэр па прозвішчы Грак, якога Монця заспявае пры смерці і выходжвае... Словам, каб выйсці за межы ўласнага гора, абодвум даводзіцца натуральна прабіваць самыя што ні ёсць горы...

*« — Я тут усё аблазіў. У левы бок нам дарогі няма, наверх — няма, управа — вось апошні крок. Такім чынам, скалу скінем у прорву — зможам перайсці.<...> Гэта табе не твае беларускія лясы, дзе можна і грыба з'есці, і жабку. Тут камяні грызці не станеш. Заблукаць у гарах — лягчэй лёгкага, бо тут усё падманнае. І адлегласці, і велічыні. <...> У нас няма іншага паратунку, як самім шукаць выйсця. Іначай апынемся ў нейкі дзень на дне прорвы. <...>*

*Сек Грак, затым — Мацвей, потым зносілі і выкідалі аскалёпкі ў прорву, і зноў секлі. Скала паддавалася — з адным узмахам аддавала кавалачак на два-тры сантыметры са свайго нутра».*

Тэкст займальны — яго сюжэтная ніць, як провад з пераменным токам, штораз напружвае і падвышае цікавасць да чытання. Сіла волі, гонар і маральнасць падчас вялікіх выпрабаванняў чалавечага цела і духу. Што праўда, чытача чакае незадача: калі раман Федарэнкі будзе ў часопісе дадрукаваны цалкам, то больш чым на публікацыю фрагмента з чытва Гапеева часопіс не разлічвае. Прыхільнікам давядзецца чакаць кніжкі.

З малой прозы публікуюцца апавяданні **Алены Брава** («Карыятыда ў маціцовых кліпсах»), **Сяргея Рублеўскага** («Хлюст наезны») і дэбютанткі **Дар'і Значонак** («У ноч на сямнаццатага ліпеня»).

Спадзяюся, што шмат каго зацікавіць і гісторыя элітарнага часопіса «Крыніца», выкладзеная ў асабістай інтэрпрэтацыі і з уласнага пункту гледжання вядомым і папулярным філосафам **Валянцінам Акудовічам**, але як па мне, дык даволі аб'ектыўна, хоць і занадта сцісла праз спрошчанасць і не дарэшты асветленную запавуціненую частку некаторых вострых і цямнейшых вуглоў у існаванні гэтага знакавага мастацка-літаратурнага і культаралагічнага выдання 1990-х гадоў.

*«Не было нічога дзіўнага, што як мы згуртаваліся ў «Крыніцы», дык загалоўнай творчай фігурай тут мне бачыўся не галоўны рэдактар Някляеў, а Разанаў. Якім жа было маё здзіўленне, калі неўзабаве высветлілася, што суладна са мной маркуе не шмат хто. Ды, відаць, і сам Разанаў не быў пэўны ў сваім вяршынстве. <...> А значна пазней нечакана ўзважылася: «Цалкам верагодна, што Разанаў і Някляеў аднолькава таленавітыя. Проста ў іх розныя мэтавыя аўдыторыі. Разанаў — паэт для багоў, Някляеў — дзеля жывых людзей». Можа яно і насамрэч так, толькі чаму аднойчы раптам падумалася ні з чаго: **прачнуцца праз тысячу гадоў і пачытаць Разанава...**»*

Напомню, што гэта працяг тэкстаў, якія Акудовіч друкуе ў часопісе са сваёй будучай кніжкі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым (Хроніка беларускага інтэлектуала)».

Што да краснага пісьменства гэтага нумара, то паэзія ў пераважнай большасці прадстаўлена вершамі. Выглядае, што **Уладзімір Арлоў** не задаволіцца адным зборнікам баладаў («Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань»). І трэба зазначыць, што яго новы твор «Цвіў скрыпень» ад упомненых розніцца больш каларытнай і душэўнай лірыкай, не зважаючы на метафарычную аўтабіяграфічнасць зместу. Аўтар піша пра ўласныя дзяцінства і маладосць, адшукваючы ў тым матыльковым часе абрысы, характар і мужчынскія праявы свайго бацькі — генна-гістарычную радаслоўную.

*ты не дачакаўся*
*маёй першай кнігі*
*магчыма ты прачытаў яе*
*як і ўсе наступныя*
*досыць было б кнігі баладаў*
*Паручнік Пятровіч*
*і прапаршчык Здань*
*цябе магла прывабіць назва*
*ты быў лейтэнантам*
*памятаеш?*
*у тое лета*
*я прасіў цябе*
*калі пасля*
*будзе працяг*
*дай мне ведаць*
*напрыклад*
*затэлефануй*
*на дзень нараджэння*

Аб'ёмная нізка вершаў **Васіля Жуковіча** (да яго пашанотнага юбілею — віншуем!) — гэта факталагічныя будні праміналага часу, зарыфмаваныя з сённяшняй айчыннай рэчаіснасцю і зрытмізаваныя з ходам нашай гісторыі і лёсам самога паэта ў прыватнасці.

*Малая радзіма?..*
*Правал паміж слоў,*
*Хоць нехта у сэнс іх паверыў,*
*Назваў недарэчна святыняю*
*малой,*
*Аднёс яе ў шэраг памераў.*
*Радзіма... У ёй да сканчэння вякоў*
*Прастора душу набывае.*
*Магчыма, бывае малая любоў,*
*Святыні малой не бывае.*

Паэзія нешматслоўная ў сваёй духоўнай спрадвечнай моўкнасці. Гэткага вершатворнага канону стараецца прытрымлівацца паэт **Віктар Ярац**.

*Лужуць фасолю бабулі*
*ў вянках сівізны.*
*Згадкі — не дзікія пчолы, не восы,*
*а востра так джаляць...*

Хмельна-іранічныя, правакацыйна-жывыя, лёгкаслоўныя вершы **Андрэя Хадановіча** ўсё яшчэ бягуць прыпознена вясёлай кампаніяй, напамінаючы пра сябе, за сваім выдадзеным фарматам («зборнік «Школа травы», 2019). Вартае сучаснае мастацкае выяўленне свету праз прызму ўласных думак і адчуванняў.

*ці помніш філфак і першыя*
*перакуры*
*паэзію бруднай красы, дацэнтаў*
*нянавісць і жах*
*як помнікі несусветнай*
*літаратуры*
*у рытм не траплялі, але цыклі*
*па вушах*

Напевы, шэпты, замовы і літанні зболенай душы — у стоена-таямнічых паэтычных радках **Антаніны Хатэнкі.**

*Схамянуся ў паўсонным зіхценні,*
*чужаніца й шчымлівая свая:*
*сумны Нехта, заблуджаны*
*ў ценях, –*
*гэта я? Гэта — я? Гэта — я.*

Безумоўна, да гэтага шэрагу, як своеасаблівыя ўзоры высокага мастацкага слова, адносяцца санетны «Марафон» нямецкага паэта **Георга Гайма** (пераклад Ганны Янкута), дзе гістарычны міф праецыруецца на спрадвечную братазабойчую светабудову, і перастворанае са старабеларускай Алесем Разанавым *казанне на пахаванні Зоф'і, княгіні Чартарыйскай* багаслова **Лаўрэнція Зізанія** (?–1634) пад назвай «Як рыба хвастом надае свайму целу рух», дзе Разанаў сваім талентам пераніцоўвае рэлігійна-духоўныя пастулаты ў экзістэнцыйныя сэнсы і надае багаслоўнасці Зізанія сучасную філасофскую ўзвышанасць.

У публіцыстычна-крытычнай частцы часопіса чытач можа пазнаёміцца з шэрагам гістарычных і актуальных тэкстаў. Мабыць, найбольш прыцягальным і вартым увагі можна назваць артыкул **Юрася Пацюпы** «Яшчэ адна ананімная паэма» з адсылам да архіўных крыніц, што тычацца беларускамоўнага краснага пісьменства XIX стагоддзя. Чытачу прапануецца расшыфраваны В. Мартысюком вершаваны тэкст пакуль пэўна невядомага аўтара «Чортава сіла».

Да юбілею знанага паэта Анатоля Сыса рэдакцыя выдрукоўвае адшуканае ў спадчыне **Алеся Ліпая** (таксама заўчасна адышоўшага творцы) яго даўняе інтэрв'ю з тады яшчэ маладым «братам Максіма Багдановіча»...

Арыгінальны, досведны, сцісла-афарыстычны і па-майстэрску выстыляваны расповед **Адама Глобуса** пра сусветна вядомага мастака Пабла Пікаса варты шырокай чытацкай увагі.

Літаратуразнаўца **Алесь Пяткевіч** разважае над кнігай «Як укладалі "Спадчыну"», што летась пабачыла свет у «Бібліятэцы Бацькаўшчыны» (укладанне Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіча). Выданне прыўрочана да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы.

**Зіна Гімпелевіч** рэцэнзуе зборнік вершаў Ю. Шамецькі «Непрадказальнае», а **Леанід Галубовіч** — трохтомнік выбраных твораў У. Мароза.

Напрыканцы вас чакае кніжны навігатар «Дзеяпіс».

Чытайма. Пакуль хмурэе да першага снегу...

**ЛеГал**



# Дом Стывена Кінга — архіў і рэзідэнцыя

**Сям'я Стывена Кінга вырашыла ператварыць свой дом у Бангоры амерыканскага штата Мэн у архіў і рэзідэнцыю для пісьменнікаў, аб чым першым паведаміў часопіс «Rolling Stone».**

Цяпер пастаянныя чытачы атрымаюць магчымасць «патусавацца» ў асабняку Стывена Кінга, хоць, хутчэй за ўсё, там не будзе самога «караля жахаў».

Наведванне будзе ажыццяўляцца па папярэднім запісе, а пражываць у доме змогуць да пяці аўтараў, якія хацелі б папрацаваць у адзіноце. Па словах адваката Кінга, у апошнія гады сям'я пісьменніка праводзіць большую частку свайго часу ў дарозе, у Фларыдзе ці ў акрузе Оксфард, (штат Мэн).

Сям'я Кінга выдатна ставілася да горада Бангор і на працягу доўгага часу ахвяроўвала мільёны даляраў на розныя гуманітарныя мэты. Рэзідэнцыя Кінгаў на 47 West Broadway даўно стала турыстычнай славутасцю. Прыхільнікі часта фатаграфуюцца перад крывава-чырвоным асабняком пісьменніка з дэкаратыўнымі варотамі, на якіх выкаваныя разнастайныя крылатыя істоты...

# Галоўныя англамоўныя раманы

**Журы Букераўскай прэміі (як нядаўна і Нобелеўскі камітэт) сёлета абвесціла адразу двух лаўрэатаў. Такім чынам журы выступіла супраць правіла «толькі адзін пераможца».**




Прызы атрымалі Маргарэт Этвуд за кнігу «Запаветы» («The Testaments») і Бернардын Эварыста за кнігу «Дзяўчына, жанчына, астатнія» («Girl, Woman, Other»).

Бернардын Эварыста — англа-нігерыйская аўтарка сямі кніг прозы і паэзіі, якія вывучаюць аспекты афрыканскай дыяспары: мінулае, сучаснае, рэальнае, уяўнае. Раман «Дзяўчына, жанчына, астатнія» расказвае «пра сучасную Брытанію і жаночае жыццё. Гэта жорсткі раман пра жыццё чорных брытанскіх сем'яў, іх барацьбу, боль, смех, тугу і любоў. З «асляпляльным» рытмам Эварыста вядзе нас у падарожжа міжгенерацыйных гісторый, рухаючыся па розных прасторах і спадчыне: афрыканскай, карыбскай, еўрапейскай. Яе дванаццаць галоўных герояў «выконваюць максімумы і мінімумы» нашага грамадскага жыцця. Яны мастакі, банкіры, настаўнікі, прыбіральшчыцы, хатнія гаспадыні і знаходзяцца на розных этапах жаночага веку: ад падлеткавага ўзросту да старасці. Яе стыль гарачы, востры, напоўнены энергіяй і гумарам. Мова «ахінае» чытача непаўторнай сілай, вуснымі традыцыямі і паэзіяй.

Бернардын Эварыста першая цемнаскурая жанчына, якая выйграла Букер.

Маргарэт Этвуд — пісьменніца, крытык, даследчыца літаратуры. У 2000 годзе яна ўжо атрымлівала Букераўскую прэмію за раман «Сляпы забойца». Твор «Запаветы», на думку журы, «дзікі і прыгожы раман, які сёння з намі размаўляе перакананаўча і моцна. Планка, усталяваная Этвуд, незвычайна высокая».

Букераўская прэмія (The Booker Prize) — прэстыжная ўзнагарода ў галіне літаратуры, якая выдаецца з 1969 года. З 2014-га прэмія прысуджаецца за лепшы англамоўны раман незалежна ад грамадзянства аўтара. У 2005 годзе быў заснаваны Інтэрнацыянальны букер (The International Booker), які атрымлівае аўтар, твор якога перакладзены на ангельскую мову.

Раней лаўрэатамі прэміі сталіся Джэром Дэвід Сэлінджэр, Кадзуа Ісігура, Майкл Андатжэ ды інш.

## Нямецкая кніжная прэмія



У Франкфурце-на-Майне ўручылі Deutscher Buchpreis 2019, Нямецкую літаратурную прэмію за 2019 год, нямецка-баснійскаму пісьменніку Сашу Станішычу за яго эксперыментальны раман «Herkunft» («Паходжанне»).

Чаму кніга эксперыментальная? Таму што раман інтэрактыўны і ў другой яго частцы чытач сумесна з аўтарам сам можа вырашыць, да якога фіналу твора прыйсці, выбіраючы ў канцы раздзела свае варыянты адказу з пераходам да наступнага сюжэта.

Прэмію ўручылі ў троннай зале Рэмера — старадаўняй ратушы Франкфурта-на-Майне. На думку журы, у сваім творы аўтар «з вялікім гумарам супрацьпастаўляе байкам фальсіфікатараў свае ўласныя гісторыі», у выніку чаго «аўтапартрэт з продкамі» ператвараецца ў раман пра «Еўропу розных жыццёвых шляхоў».

Памер грашовага ўзнагароджання Deutscher Buchpreis — 25 тысяч еўра, астатнія 5 фіналістаў прэміі атрымаюць па 2,5 тысячы еўра, а гэта: Рафаэла Эдэльбаўэр (Raphaela Edelbauer), Норберт Шойер (Norbert Scheuer), Джэкі Томэ (Jackie Thomae), Міку Сафі Кюмель (Miku Sophie Kühmel), Тоніо Шахінгер (Tonio Schachinger).

## Літаратурная прэмія «Angelus»



Чатырнаццаты раз прайшла цырымонія ўзнагароджання літаратурнай прэміяй Цэнтральнай Еўропы «Angelus». Сёлета яе лаўрэатам стаў празаік і паэт з Балгарыі Георгі Гаспадзінаў. Урачыстае мерапрыемства было арганізавана ў Музычным тэатры Капітолія, а ўзнагароды ўручыў мэр Уроцлава Яцэк Сутрык.

Самае важнае адрозненне «Angelus» ад іншых літаратурных узнагарод — у тым, што яе прысуджаюць пісьменнікам з Цэнтральнай Еўропы, чыя проза была выдадзена на польскай мове. Лаўрэат атрымаў грашовы прыз у памеры 150 тысяч злотых (каля 35 тысяч еўра) і статуэтку ў выглядзе анёла.

Уршуля Гленск, адна з членаў журы «Angelus», сказала пра кнігу-пераможцу — раман «Фізіка смутку»: «Аўтар заклікае нас пераасэнсаваць міф пра Мінатаўра і дазваляе зразумець, што монстар на самай справе з'яўляецца ахвярай. У гэтай прозе рэаліі балгарскага жыцця былі настолькі наўмысна ўніверсалізаваныя, што яны могуць стаць досыць блізкімі і польскаму чытачу... Гэта раман пра спагаду. Гэта балгарскія «Сто гадоў адзіноты». Гэта выдатная літаратура».

Георгі Гаспадзінаў нарадзіўся ў 1968 годзе. Ён адзін з балгарскіх празаікаў і паэтаў, творы якога найбольш часта перакладаюцца на замежныя мовы, чые тэксты абмяркоўваюць у такіх прэстыжных выданнях, як «The New York Times» або «The New Yorker». На сваёй радзіме ён апублікаваў сем паэтычных зборнікаў і восем кніг прозы, уключаючы раман «Фізіка смутку», які на балгарскай мове быў выдадзены ў 2011 годзе.

Журы «Angelus» таксама ўзнагародзіла і аўтарку лепшага перакладу на польскую мову. Ёй стала Магдалена Пытлак, выкладчыца Інстытута славянскай філалогіі Ягелонскага ўніверсітэта.

## Ордэн Кавалераў Гонару

Аўтарка «Пенелапіяды» Маргарэт Этвуд атрымала прэстыжную ўзнагароду — Ордэн Кавалераў Гонару — з рук каралевы Лізаветы II. Колішняя лаўрэатка Букераўскай прэміі была ўганараваная «за істотны ўнёсак у развіццё літаратуры».



Пасля цырымоніі ўручэння, якая адбылася ў мінулую пятніцу, Этвуд падзялілася ўражаннямі: «Калі ты бачыш, які шчыльны графік у каралевы, не зважаючы на ейны век, то гэта кожнага матывуе рухацца наперад».

Маргарэт Этвуд — пісьменніца, паэтка, крытык, даследчыца літаратуры. Двойчы лаўрэатка Букераўскай прэміі: у 2000 годзе за раман «Сляпы забойца» і сёлета за раман «Запаветы».

На беларускую мову перакладзены раман Маргарэт Этвуд «Пенелапіяда», які зрабілі Марыя Мартысевіч і Вольга Калацкая. Кніга выйшла ў выдавецтве «Логвінаў».

## Прэмія імя Вячаслава Чарнавіла



Лаўрэатам украінскай прэміі імя Чарнавіла за лепшую публіцыстычную працу ў галіне журналістыкі за 2019 год стаў Андрэй Тапачэўскі за кнігу «Одним життям». Такое рашэнне прыняў Камітэт па прысуджэнні прэміі, працу якога арганізуе Дзяржкамтэлерадыё Украіны.

«У кнізе прадстаўлены публіцыстычныя творы аўтара апошніх трыццаці гадоў, разважанні пра Тараса Шаўчэнку, Міхаіла Грушэўскага, Аляксандра Даўжэнка ды іншых славутых дзеячаў гісторыі, навукі, мастацтва Украіны XIX–XXI стагоддзяў. На думку членаў Камітэта па прысуджэнні прэміі, гэта і публіцыстыка, якая з гадамі не губляе сваёй актуальнасці, спрыяе адраджэнню гістарычнай памяці і ўмацаванню нацыянальнай свядомасці ўкраінцаў», — гаворыцца ў паведамленні Камітэта па прысуджэнні прыміі.

## Прэмія «Парабала»




Уручана незалежная прэмія «Парабала», заснаваная 6 гадоў таму да 80-годдзя расійскага паэта Андрэя Вазнясенскага.

Яе другі год запар уручаюць у Культурным цэнтры, што носіць імя Вазнясенскага (а сама назва прэміі была «запазычана» ў знакамітага зборніка вершаў паэта.

Узнагароду, якая заснавана Дабрачынным фондам імя Андрэя Вазнясенскага, прысуджаюць прадстаўнікам усіх творчых прафесій. Як патлумачыла старшыня Фонда і член журы прэміі Зоя Багуслаўская, прэмія не «выдаецца ні за якія іншыя заслугі, акрамя таленту».

Вылучэнне на тры асноўныя і дзве моладзевыя ўзнагароды прэміі адбываецца таемна, намінаваць на яе могуць толькі члены журы. Лаўрэатаў таксама вызначаюць у час тайнага галасавання.

У галіне літаратуры ўзнагарода ўручана піцерскаму паэту Сяргею Стратаноўскаму, а Ніна Краснова, галоўная рэдактарка літаратурнага альманаха «Эолова арфа», які выдаецца з 2009 года, атрымала асобны грант. Таксама літаратурным лаўрэатам гэтага года стаў паэт Леў Аборын — яму ўручылі «моладзевую» прэмію.

На сайце «Парабалы» адзначаецца: «Пераможцы атрымліваюць каштоўныя прызы, дыпломы і грашовыя ўзнагароды: асноўная прэмія –10 000 у.е., моладзевая — 5000 у.е., « Антыкрызісная» — 10 000 у.е.».

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы «Deutsche Welle», novostiliteratury.ru, CNN, «Афиша Daily», telegraf.com.ua, «Россия К», PA Pool via AP.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Новая версія гісторыі румынаў

Алег НОВІКАЎ

**У Малдове ўжо ў чацвёрты раз за часы незалежнасці збіраюцца перапісаць падручнікі гісторыі.**

Як вядома, у краіне 14 лістапада з'явіўся мінарытарны ўрад прамаскоўскай партыі сацыялістаў. Напэўна, самым яркім з новых міністраў з'яўляецца Карнэліу Паповіч, які павінен адказваць за адукацыю і культуру. Ён вядомы як радыкальны прыхільнік так званай «прамалдоўскай» канцэпцыі культуры і гісторыі краіны.

Сутнасць канцэпцыі ў тым, што малдоўцы і румыны — розныя народы, хаця і маюць амаль аднолькавую мову ды жылі разам да 1812 года, калі Малдова стала часткай Расійскай імперыі. Такая версія была афіцыйнай у савецкай Малдове. Антаганістамі такога падыходу з'яўляюцца юніяністы — тыя, хто выступае за вяртанне краіны ў склад Румыніі, паколькі малдоўцы, маўляў, гэта па-сутнасці, румыны. Юніянізм — папулярная фішка сярод праеўрапейскай і дэмакратычнай часткі грамадства.

Падыход, пры якім малдоўская нацыянальная ідэнтычнасць атаясамлівалася з румынскай, стаў афіцыйна прынятым у Кішынёве пасля распаду Савецкага Саюза. У адпаведным духу былі напісаны і першыя падручнікі незалежнай дзяржавы. Адзін з іх так і называўся: «Гісторыя румынаў».

Аднак затым у 2001 годзе да ўлады ў краіне вярнуліся камуністы, і ў школах зноў з'явілася савецкая трактоўка гісторыі. Напрыклад, 1812 год — у новай (або старой) інтэрпрэтацыі быў названы годам уз'яднання з Расіяй, а 1918 год — годам румынскай акупацыі, і гэтак далей. Дзеці былі вымушаныя зубрыць новыя фармулёўкі і здаваць па іх іспыты роўна восем гадоў. У 2009-м да ўлады прыйшла праеўрапейская кааліцыя, дзе культурны блок фарміравалі юніяністы. У выніку школьныя праграмы па гісторыі зноў рашуча перапісалі. І цяпер — не прайшло і 10 гадоў, як «улада змянілася», — «гісторыю румынаў» збіраюцца зноў выкінуць на сметнік.

Гэта вынікае з папярэдніх заяваў новага міністра культуры і адукацыі. Раней Паповіч казаў, што «праект юніянізму быў прыдуманы тымі палітычнымі сіламі, якія прадэманстравалі няздольнасць правіць апошнія дзевяць гадоў». Новы міністр таксама лічыць, што дзяржаўную мову кожны мае права называць не румынскай, а малдоўскай. На яго думку, «у апошнія трыццаць гадоў у малдоўскіх школах дзеці вывучаюць гісторыю не нашай краіны».

На падручніках гісторыі рэформы Паповіча могуць не скончыцца. Патэнцыйна закрыццё пагражае музею дэпартацыяў і ахвяр таталітарных рэжымаў — экспазіцыя ў цэнтры культуры і ваеннай гісторыі нацыянальнага войска. Пад пагрозай, напэўна, і мемарыяльны камень ахвярам савецкай акупацыі і таталітарнага камуністычнага рэжыму, які быў усталяваны (праўда, без дазволу мэрыі) у сталіцы на месцы помніка Леніну. У 2016 годзе Ігар Дадон — лідар сацыялістаў, паабяцаў, што мае намер «прыбраць з плошчы так званы "помнік", ператварыць яго ў камень, якім залатаюць некаторыя кішынёўскія вуліцы».

Перспектыва рэвалюцыі падручнікаў абурыла нацыянал-лібералаў, якія пасля 14 лістапада вымушаныя былі сысці ў апазіцыю. «Я была вельмі засмучаная, калі ўбачыла новага міністра (...) Я думаю, што калі ён паспрабуе змяніць навучальны план, грамадства абурыцца. Прызначэнне гэтага міністра — абраза, якая нанесеная і нам усім, і адукацыі», — сказала лідарка апазіцыі Майя Санду.

Пакуль маналогі Санду не выклікалі асаблівага рэзанансу. Па-першае, Санду раней сама ўзначальвала Мінадукацыі і нічым на гэтай пасадзе не адзначылася. Па-другое, малдоўскі юніянізм перажывае крызіс жанру. Трыумф ідэі інтэграцыі з Румыніяй на пачатку 1990-х гадоў змяніўся заняпадам — замест уплывовай палітычнай ідэалогіі гэта сёння, хутчэй, забабоны маргінальных групаў. На апошніх выбарах найбольш паслядоўныя юніяністы ў выглядзе Партыі лібералаў атрымалі 1,25 працэнта.

Таксама не факт, што ў Паповіча, насуперак прагнозам Санду, дойдуць рукі да той «Гісторыі румынаў». Сістэма адукацыі Малдовы ў крызісе. У многіх школах не хапае педагогаў. Дзеці бедных бацькоў маюць патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе. На фоне гэтага праблема падручнікаў гісторыі — толькі кропля ў моры. Невыпадкова пасля прызначэння новы міністр стаў менш амбіцыйным. «Ніякіх зменаў не будзе. Мы працягнем тую ж школьную рэформу, якая была ініцыяваная некалькі гадоў таму», — сказаў Паповіч.

Увогуле, вонкава ініцыятывы Паповіча ў чымсьці нагадваюць ідэі Дзмітрыя Табачніка — украінскага міністра адукацыі ў кабінеце Міхаіла Азарава ў часы прэзідэнта Януковіча. Табачнік таксама збіраўся правесці рэформу падручнікаў. У прыватнасці, планаваў адлюстраваць супрацоўніцтва Бандэры і Шухевіча з нацыстамі і іх ролю ў арганізацыі этнічных чыстак. Аднак у выніку рэформа захлынулася з-за таго, што стала закладніцай агульнай сацыяльна-эканамічнай палітыкі Партыі рэгіёнаў. Пасля таго, як з 2012-га ўкраінская эканоміка ўвайшла ў рэцэсію, любая прапанова ўлады выклікала ва ўкраінцаў алергію, у тым ліку і гуманітарныя праекты Табачніка.

Такая ж перспектыва пагражае праектам Паповіча. На працягу года, што застаўся да новых прэзідэнцкіх выбараў, на сацыялістах будзе ляжаць поўная адказнасць за кіраванне краінай. Відавочна, што для Малдовы ў агляднай будучыні суперпаспяховыя прарывы мала рэальныя. А значыць, вялікая маса насельніцтва будзе незадаволеная новым урадам, што негатыўна адаб'ецца на рэйтынгу ўлады і на шанцах рэвізіі школьнай праграмы. З іншага боку, праеўрапейскім сілам ва ўмовах крызісу юніянізму, напэўна, варта таксама падкарэктаваць погляды на малдоўскую ідэнтычнасць.



Калаж www.serjmin.com

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Невядомае злачынства расістаў

У адным з музеяў штата Мічыган знойдзены цікавыя і адначасова шакуючыя дакументы пра расісцкае мінулае ЗША. Напрыканцы XIX стагоддзя краіну ахапіла мода на вырабы са скуры кракадзілаў, на якіх палявалі, як правіла, у Фларыдзе. Мясцовыя жыхары заняліся сістэмным паляваннем. Але паўстала праблема — як прымусіць жывёлу выйсці з вады? Прыдумалі заваблівацьь кракадзілаў чарнаскурымі немаўлятамі. Хутка паўстаў цэлы камерцыйны сектар, калі ў маладых маці бралі ў арэнду дзяцей для палявання. Каштавала арэнда аднаго дзіцяці прыкладна 2 долара. Арганізатары абяцалі бацькам, што іх дзецям падчас палявання нічога не пагражае. Сапраўды, у тагачасных фларыдскіх газетах пакуль не знойдзена ніводнага паведамлення, што нехта з дзяцей стаў ахвярай жывёлаў. Праўда, гэтую версію яшчэ трэба праверыць. Таксама гісторыкі намагаюцца высветліць, калі спынілася гэтая жудасная практыка «жывых прынадаў». Спецыялісты кажуць, што прыкладна да сярэдзіны 1950-х гадоў былі папулярныя байкі пра чарнаскурых дзяцей, якія сябруюць з кракадзіламі, што, маўляў, неяк звязана з метадам палявання.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ІНДЫЯ. Дзённыя людзі і начныя

The Stateman — адно з вядучых выданняў Індыі — заклікала ўрад правесці незвычайную рэформу, у рамках якой індусаў прапануецца падзяліць на дзве катэгорыі: тых, хто працуе і вядзе актыўны лад жыцця днём, і тых, хто робіць гэта ноччу. Паводле выдання, праца ўначы забяспечыць краіне беспрэцэдэнтны рост, паколькі дазволіць выкарыстаць усю інфраструктуру напоўніцу. Не кажучы ўжо пра тое, што гэта радыкальна скароціць колькасць беспрацоўных. Акрамя таго, глабальнае пацяпленне так ці інакш зробіць немагчымай працу ў Індыі ў дзённы час, што прымусіць працаваць па начах. Праўда, аўтары ідэі не адказалі на важнае пытанне: хто будзе інвеставаць у праекты, якія будуць рэалізоўвацца ноччу? Зрэшты, самых індусаў, мяркуючы па каментарах, трывожыць іншы момант. Многія баяцца, што дамы тых, хто будзе працаваць па начах, стануць лёгкай здабычай злодзеяў. На іх думку, без стварэння належнай сістэмы бяспекі жадаючых весці начны лад жыцця будзе няшмат.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КНР. Перавыхаваць жонку экстрэміста

Радыё «Свабодная Азія» паведамляе пра новую практыку кітайскіх уладаў у Сіньцзян-Уйгурскай аўтаномнай акрузе. Як вядома, у КНР каля 3 мільёнаў уйгураў утрымліваюцца ў лагерах «перавыхавання». З нядаўняга часу кітайцы пачалі перавыхоўваць і іх жонак, якія засталіся дома. Кітайскія камуністы бяруць шэфства над сем'ямі уйгурскіх сепаратыстаў, жывуць у іх дамах, вучаць гатаваць кітайскія стравы, у тым ліку са свініны, прыносяць з сабою алкаголь і нават спяць разам з дамачадцамі. Тыя уйгуркі, якія адмаўляюцца спаць у адным ложку са «сваякамі» і слухаць іх лекцыі пра Маа ды веліч кітайскай культуры, як запэўнівае радыё, адпраўляюцца ў канцлагеры ўслед за сваімі мужамі. Але большасць усё ж такі трывае. Зрэшты, кітайскія ўлады абвяргаюць падобную інфармацыю. «Тое, што, нібыта, нашы актывісты могуць скарыстацца ўначы мусульманкамі — няпраўда. Адлегласць паміж кітайцамі і уйгуркамі, паводле інструкцыі, павінна быць не менш за 80 сантыметраў падчас сну. Набліжацца шчыльней забаронена», — заявіў адзін з кітайскіх чыноўнікаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Алег Сакалоў быў пярэваратнем?

Тэма злачынства Алега Сакалова — прафесара-гісторыка, які забіў 24-гадовую каханку, працягвае заставацца ў фокусе ўвагі прэсы. У тым ліку шмат у чым дзякуючы заявам прыхільнікаў Сакалова. Яны прапануюць самыя неверагодныя апраўданні для забойцы. Напрыклад, звяртаецца ўвага на тое, што гісторык прабыў 40 хвілін у ледзяной вадзе і застаўся жывы. Гэта, на іх думку, можна параўнаць з «судом Божым». І тое, што Сакалоў выжыў, фактычна азначае апраўдальны вердыкт. Сцвярджаецца, што ва ўсім, нібыта, вінаватыя зайздроснікі прафесара, якія забілі дзяўчыну, адсеклі ёй рукі, падкінулі цела ў кватэру прафесара. А той — невінаваты і забіты горам пасля выяўлення памерлай — пайшоў тапіцца. Але далей за ўсіх пайшоў адвакат Аляксандр Пачуеў, які прапануе разгледзець версію ўплыву Месяца на абвінавачанага гісторыка. «Версій падзей у абароны больш за дзясятак, пачынаючы ад забойства і аж да містычных. Нядаўна спецыялісты па псіхалогіі паставілі цікавае пытанне з нагоды поўні, якая была ў момант здарэння ў актыўнай фазе. А гэта вядомы медыцынскі факт: многія дзёбыты шызафрэніі здзяйсняюцца ў гэты час», — распавёў адвакат. Наўрад ці гэта апошняя спроба апраўдаць Сакалова. Зрэшты, з улікам таго, што мэйнстрым-медыя падтрымліваюць ідэю суровага пакарання гісторыка, наўрад ці версіі абароны паўплываюць на меркаванне суда.

**Паводле расійскай прэсы**

# «Калі б вярнуўся, адразу пайшоў на

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

**Амаль праз 30 гадоў пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі ўсё больш адчувальнай становіцца пагроза яе страты. Кажуць, таму, што незалежнасць дасталася нам задарма. Але ці так гэта? Пра падзеі 1991-га і пра маральныя каштоўнасці 2019-га ў размове з вядомым палітыкам і экс-дэпутатам Лявонам Баршчэўскім разважае самы вядомы палітэмігрант і экс-дэпутат Зянон Пазьняк.**

— Незалежнасць Беларусі, здабытая 25 жніўня 1991 года, — гэта, перш за ўсё, быў вынік дасканалай працы парламенцкай Апазіцыі БНФ у зменных палітычных абставінах і ў збегу гістарычных падзей. Тут абсалютна ўнікальная з'ява ў палітыцы, калі невялікая апазіцыйная меншасць (8–10 адсоткаў) навязала сваю палітычную парадыгму дзейнасці ўсяму савецкаму парламенту (Вярхоўнаму Савету), дзе бальшыню (86 адсоткаў) складалі прадстаўнікі камуністычнай партыі.

Унікальнасць была ў тым, што Фронт выйграў у парламенце ўсе галоўныя палітычныя бітвы з камуністычнай бальшынёй, выкарыстаўшы іхнія ж галасы: у тым ліку іх жа галасамі спынію дзейнасць самой КПСС (КПБ) і камсамола ў Беларусі.

У нацыянальнай адраджэнскай палітыцы гэта быў працэс, расцягнуты ў часе, — вынік цвёрдай стратэгіі і дасканалай тактыкі фракцыі Фронту.

Калі б не існавала той унікальнай дэпутацкай фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, то тут абсалютна дакладная выснова: Беларусь не мела б незалежнасці.

Без незалежнай Беларусі не было б Белавежскіх пагадненняў. Немагчыма было б дэнансаваць дамову аб СССР 1922 года без незалежнай Беларусі, бо Беларусь разам з Украінай і Расеяй была фармальнай заснавальніцай СССР. Савецкі Саюз застаўся б існаваць, а БССР сыграла б ролю камуністычнай Вандэі. (Тую ролю, якую ЦК КПБ меў у 1988–1989 гадах, і толькі Народны Фронт разбурыў тады гэтую «цэкоўскую» вандэйскую палітыку.)

Колькі яшчэ мастадонтаў на свеце, што не разумеюць гэтых відавочных рэчаў, пішуць рознае глупства пра незалежнасць, якая ім звалілася «з неба». (Маўляў: «Вернулся с дачи, а в Минске независимость»).

Гэта шчасце, што ў паваротны момант гісторыі ў Беларусі ўзнікла палітычная сіла нацыянальнага адраджэння (БНФ) і ў парламенце стварылася фракцыя гэтага руху, здольная выканаць гістарычныя задачы нацыі.

Не ўдалося, аднак, ажыццявіць важны чыннік нацыянальнага будаўніцтва — змяніць уладу каланіяльнай адміністрацыі. Такія дзеянні (дэмакратычнага кшталту) не пад сілу толькі палітычнаму авангарду і мусілі б абапірацца на ўсё грамадства. Грамадства было яшчэ не гатовае да салідарных дзеянняў у агульнанацыянальных інтарэсах, дрэнна ўсведамляла прычыны эканамічнага пагаршэння. За савецкай акупацыяй яно было, практычна, задушанае. Не хапіла часу, каб яго адрадзіць. У выніку адбыўся маскоўскі рэванш у форме апанавання ўлады ў Беларусі прамаскоўскімі сіламі.


Фота прадстаўленае Зянонам Пазьняком

Схема «авангард — нацыя» ёсць класічнай схемай нацыянальнага адраджэння для Усходняй Еўропы XVIII—XIX і пачатку XX стагоддзяў. Для поўнай перамогі яна патрабуе часу, каб стварылася падтрымка грамадства і авангард стаў уладай. Гэтага часу беларусам тады не хапіла.

Але гэта сыграла ролю. Яны зразумелі, што тут не хлопчыкі-дысідэнты, а сур'ёзныя мужы, якія разбіраюцца ў жыццёвых абставінах. Да некаторых, магчыма, на ўзроўні падсвядомасці, дайшло (ці мільганула), што ёсць каштоўнасці, якія яднаюць усіх людзей. Гэта сумленне. Нацыя не можа існаваць па законах нянавісці. Праўда, гэта ў іх былі толькі імпульсы. Беларуская партыйна-чыноўная наменклатура так і не дарасла да ўзроўню нацыі.

Асаблівым клопатам (і гэта важна) было захаванне адзінства, імпэту і дзеяздольнасці дэпутацкай Апазіцыі БНФ. Лічу, што гэта ўдалося. У нас не ўзнікала і не было сварак, падзелаў і закалотаў. Мы захавалі адзінства, павагу і салідарнае ідэйнае сяброўства да апошняга дня нашага дэпутацтва.

Пазбаўленне ад здраднікаў і агентуры адбывалася так ціха і інтэлігентна, што ніхто гэтага не заўважаў нават сярод журналістаў (аматараў сунуць нос, куды не трэба). Вымоўны прыклад — адключэнне ад Апазіцыі БНФ «Евгения Новикава». Цяпер, відаць, мала хто ведае, што гэты адыёзны тыпус, які пазней казаў па тэлебачанні, што амерыканцы з голаду пацукоў ядуць, у 1990–1991 гадах уваходзіў у дэпутацкую Апазіцыю БНФ і быў такі «дэмакрат», такі «рэвалюцыянер». На нейкім этапе гэты «рэвалюцыянер» раптам надрукаваў у газеце «За передавую навуку» ненавісны злосны артыкул супраць БНФ (а сам жа — у фракцыі БНФ). Як кажуць, правакацыя для наіўных. Разлік на скандальчык. Правакатар у цэнтры ўвагі. Дэманстратыўны выхад з апазіцыі. Інтэрв'ю «Сов. Белоруссии». Заявы аб тым, як ён «убедился», што БНФ гэта «фашызм» і г. д.

Мы абмяркавалі артыкул на пасяджэнні Апазіцыі БНФ (без правакатара) і вырашылі так, як некалі раіў Аляксандр Уласаў у польскім Сейме панам-сенатарам: «Усё будзе добра, панове, толькі нічога не трэба рабіць». Скарэктавалі дачыненні з агентам: не давалі яму даручэнняў, слухалі, што ён кажа, але не каментавалі, не пыталі, не пярэчылі. І ўсё так ветліва і «гжэчна», усміхаючыся, што правакатар павіс у бязважкасці і апаў, як асенні ліст. Праз месяц-паўтара, зразумеўшы, ён і на пасяджэнні Апазіцыі БНФ перастаў прыходзіць. Знік канчаткова.

**По сваім палітычна-праўным значэнні, дзень 25 жніўня 1991 года — гэта найважнейшая дата нацыянальнай дзяржаўнай гісторыі Беларусі. Была створаная рэальная нацыянальная дзяржава з усімі атрыбутамі суверэнітэту, прызнаная ўсім светам, інтэграваная ў міжнародную супольнасць**

Па сваім палітычна-праўным значэнні, дзень 25 жніўня 1991 года — гэта найважнейшая дата нацыянальнай дзяржаўнай гісторыі Беларусі. Была створаная рэальная нацыянальная дзяржава з усімі атрыбутамі суверэнітэту, прызнаная ўсім светам, інтэграваная ў міжнародную супольнасць.

Пытанне характару ўлады ў дзяржаве — гэта пытанне палітыкі. Існаванне самой дзяржавы — гэта пытанне нацыянальнага і міжнароднага права. Беларуская дзяржава Рэспубліка Беларусь ёсць — яна прызнаная, існуе.

Тым часам 25 сакавіка 1918 года — гэта найвялікшая дата гісторыі беларускай нацыі і беларускай нацыянальнай ідэі. Аб'яўленне аб незалежнасці БНР ёсць, перш за ўсё, гістарычным фактам, які палітычна засведчыў існаванне новай беларускай нацыі. Калі б у 1918 годзе гэтага не здарылася, то ў тых умовах Беларусі б ужо не існавала. Беларусы заскочылі, як кажуць, у апошні вагон.

Вырашальным было не тое, што БНР у тых умовах не адбылася як паўнавартасная дзяржава, што тэрыторыя яе была акупаваная і разарваная паміж іншымі дзяржавамі. Гістарычна істотнай тут была моцная маніфестацыя новай Беларускай нацыянальнай ідэі і ўвасабленне яе ў аб'яўленні беларускай незалежнай дзяржавы.

«Беларусь» — гэта новы нацыянальны тэрмін, які палітычна сфарміраваўся ў XIX стагоддзі. Згодна з духам і зместам нацыянальнай ідэалогіі «Адраджэнне», дзень 25 сакавіка 1918 года, фактычна, абазначаў аднаўленне дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага пад новым нацыянальным назовам «Беларусь». Беларусь нацыянальна нарадзілася ў гэты дзень, і засведчыла пра сябе ў свеце. Сцяг быў падняты. Ідэя сцверджаная, прынятая народам і праз войны, акупацыі, генацыд, ахвяры, пакуты і вынішчэнні прывяла да 25 жніўня 1991 года — дня, калі незалежная дзяржава Беларусь стала рэальнасцю.

Гэтыя даты трэба святкаваць як вялікія дзяржаўныя нацыянальныя святы. Так яно і будзе ў вольнай Беларусі.

***— Ці можна было нешта зрабіць інакш у першыя дні і тыдні пасля 25 жніўня — пакуль камуністычная наменклатура не ачомалася?***

— Практычна не. Наменклатура, дарэчы, хутка «ачомалася» і зразумела, што ўся ўлада засталася ў яе. 25 жніўня 1991 года ў пасляпутчавым трансе наменклатура на імгненне хіснулася да нас і аднагалосна прагаласавала за незалежнасць. Гэта аргумент. Пасля 25 жніўня яна пад ціскам грамадскасці пачала рэалізоўваць дзяржаўнасць беларускай мовы, стала адраджацца беларуская школа, узнікла пасляблене ў культуры, адукацыі, у палітычных свабодах, у выездзе за мяжу, у прадпрымальніцтве і інш. Усе гэта адчулі.

Адначасна, пазбавіўшыся ад маскоўскага і партыйнага кантролю, асноўным сваім занятакм наменклатура зрабіла рабаванне дзяржаўнай маёмасці, вынікаў працы і ашчаджэнняў людзей. Змяніць гэта ўсё ў тых умовах можна было толькі праз выбары новага парламенту. А гэта — зацятае змаганне за магчымасць выбараў, са зменаю Канстытуцыі і г. д. Выбараў наменклатура не хацела, прымаць новую канстытуцыю не спяшалася, а ў савецкім парламенце яе дэпутаты складалі абсалютную бальшыню.

Але вельмі істотная прычына, якая дапамагла закансервавацца наменклатуры, — гэта рэзкі спад грамадскай пратэстнай актыўнасці. Бальшыня людзей, што ішла за Народным Фронтам, вырашыла, нібыта справа ўжо зроблена, камуністаў спынілі, незалежнасць ёсць, а значыць, можна заняцца сваімі справамі ды чакаць, што дзяржава цяпер ім усё дасць. Але ўлада засталася ў руках наменклатуры. Тым больш, у выніку злачыннай палітыкі гэтай наменклатуры, эканамічны стан у Беларусі пагоршыўся.

Тады быў ліхаманкавы перыяд. Акрамя таго, што была абавязковая парламенцкая праца, мы, дэпутаты БНФ, не адпачывалі ад паездак па Беларусі, стараліся «прасвяціць» грамадства. За 1993 год я аб'ехаў разам з калегамі больш за сотню мясцінаў і выступаў перад людзьмі 149 разоў. Цяпер аж не верыцца, адкуль сілы браліся.

***— Чаго табе як палітычнаму эмігранту ўдалося дамагчыся, а чаго — не? У чым твая пазіцыя засталася незразумелай для заходніх палітыкаў розных пакаленняў і за што табе ў гэтай сувязі найбольш крыўдна?***

— Палітычная эміграцыя — гэта самы цяжкі від палітычнай дзейнасці. Цяжкі, найперш, таму, што для палітычнай працы неабходная свабода і вольны час. Але адначасна ў эміграцыі прыходзіцца выжываць. Тут каласальная праблема. Мусіць быць выбар. Альбо праца, бізнес, кар'ера, быт і дастатак. Альбо палітыка. Сумясціць тое ў эміграцыі, дзе эміграцыйная (чужая) палітычная справа не аплачваецца, практычна не магчыма. Я цікавіўся жыццём некаторых вядомых палітэмігрантаў. Не галадалі, мабыць, толькі Далай-Лама і Міхал Клеафас Агінскі. Мой выбар — палітыка і выжыванне.

Шмат чым прыходзіцца займацца і ў Нью-Ёрку, і ў Варшаве, але галоўная мая справа — Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя — БНФ. Ідэёва я там, у Беларусі, увесь час, ведаю і адсочваю кожную падзею, кожную з'яву. Дасягненні ёсць. Але пра гэта не я павінен казаць.

Некаторыя моманты мелі істотнае палітычнае значэнне. Сама наша эміграцыя разам з Сяргеем Навумчыкам у Амерыцы ў 1996 годзе адыграла вызначальную палітычную ролю. Найперш, і ў сродках масавай інфармацыі, і ў дзяржаўных структурах мы далі вычарпальную інфармацыю пра акупацыйную сутнасць антыбеларускага антыдэмакратычнага рэжыму ў Беларусі. (Я пісаў яшчэ ліст прэзідэнту Клінтану.)

Само рашэнне аб прадстаўленні нам палітычнага прытулку вырашалася на най-

# магілу маці. Потым у Курапаты»

вышэйшым узроўні і абазначала выбар Амерыкі на карысць беларускай нацыянальнай пазіцыі, але не на карысць Лукашэнкі (якога, дарэчы, ужо паспеў прыняць з візітам прэзідэнт Францыі як дэмакратычна выбранага «лідара», хоць той якраз Гітлера хваліў).

Цікава, што ніхто з рэжымных асобаў у Беларусі (не кажу ўжо пра так званых «дэмакратаў») не зразумеў палітычнай сутнасці нашай эміграцыі і эміграцыі ў ЗША, акрамя якраз Лукашэнкі. З ім прыключыўся псіхічны неўроз. Даведаўшыся пра наш ад'езд, ён ускочыў у аўтамабіль, націснуў на газ і папёр, куды вочы глядзяць. Ледзь злавілі. Пра гэта тады напісала, здаецца, газета «Имя».

Пазіцыя ЗША не змянілася па сённяшні дзень. Але да маёй эміграцыі яна была не вызначаная.

Другі момант, пра які варта ўспомніць. Удалося кардынальна паўплываць на афіцыйную пазіцыю ЗША адносна лістападаўскага антыканстытуцыйнага перавароту ў 1996 годзе ў Беларусі. (Гэта тады, калі прыляцеў з Масквы «дэсант» Чарнамырдзіна, Строева і Селязнёва ратаваць Лукашэнку ад імпічменту — уся расейская верхавіна ўлады, акрамя Ельцына.) У той дзень якраз я меў даклад на палітычным форуме ў Карнэгі-фондзе ў Вашынгтоне. Утры гадзіны ночы перад выездам з Нью-Ёрка ў Вашынгтон я пазваніў у Менск у сядзібу БНФ і даведаўся пра ўсе перыпетыі з маскоўскім «дэсантам».

На форуме былі палітыкі з Кангрэсу, з Дзяржаўнага дэпартаменту, з расейскага пасольства і іншыя. Перад кожным палітыкам — удзельнікам форуму — ляжаў праект рэзалюцыі з падтрымкай місіі расейскага кіраўніцтва ў Менску ў развязванні палітычнага крызісу з імпічментам прэзідэнта.

Убачыўшы праект рэзалюцыі, я адклаў свой даклад убок і сказаў, што буду гаварыць аб палітычных падзеях у Менску. А ўжо быў падрыхтаваны, але яшчэ не аддадзены ў друк «стэйтмант» Дзяржаўнага дэпартаменту з падтрымкай дзеянняў маскоўскага кіроўнага «дэсанту» ў Беларусі.

Гэта Божая ласка, што я там апынуўся. Пасля дыскусіі і абмеркавання майго выступу прадстаўніца інфармацыйнай службы Дзяржаўнага дэпартаменту сказала, што стэйтмант будзе адкліканы, не надрукаваны і перагледжаны.

А трэба разумець, што калі б ён быў надрукаваны, то сваю пазіцыю Дзяржаўны дэпартамент ужо не змяніў бы. Узурпатар у Менску атрымаў бы, фактычна, фармальную падтрымку ЗША.

У 2002 годзе, калі рэжымныя ўлады пракладвалі дарогу праз Курапаты, і было вялікае змаганне за зберажэнне гэтага Народнага Мемарыялу савецкага генацыду, я напісаў ліст Генеральнаму дырэктару UNESCO Каіціра Мацуура з просьбай аб дапамозе ў зберажэнні Курапатаў. Апісаў яму, што гэта такое і сутнасць праблемы. Я атрымаў добры і падрабязны ліст у адказ, дзе дырэктар Мацуура паведаміў мне, што неўзабаве прыедзе ў Менск і абавязкова зоймецца гэтым пытаннем.

8 ліпеня 2002 года чыноўнік сапраўды быў у Менску, сустракаўся з рэжымнымі ўладамі, міністрамі і намеснікамі, але нават не наведаў Курапаты. Рэжымныя ўлады яму ўсё патлумачылі, і японцу гэтага было дастаткова.

Чыноўнікі ва ўсім свеце аднолькавыя, розняцца толькі ўзроўнем ветлівасці (альбо яе адсутнасцю), узроўнем культуры і дзяжурнымі ўсмешкамі (альбо іх адсутнасцю).

Аднойчы я афіцыйна спаткаўся з чыноўнікам Дзярждэпартаменту Іанам Бжэзінскім (сынам Збігнева Бжэзінскага). Ветлівы чалавек насцярожыў мяне тым, што не разумеў па-польску і прадставіўся «Іан», а не «Ян». Мая інфармацыя пра Беларусь яго так зацікавіла, што ён вырашыў афіцыйна з'ездзіць у Менск, папрасіў у мяне тэлефоны і рэкамендацыі, з кім з апазіцыйных палітыкаў спаткацца.

Ён сапраўды паехаў у Менск, сустрэўся там з функцыянерамі адміністрацыі Лукашэнкі, Міністэрства замежных спраў і вярнуўся ў Вашынгтон, задаволены сабой і інфармацыяй, якую там атрымаў.

Іншая катэгорыя чына-палітыкаў — гэта скрытыя і адкрытыя непрыяцелі Беларусі, якія выкарыстоўваюць міжнародныя арганізацыі ў антыбеларускай палітыцы. Гэта назіраецца толькі ў Еўропе. Класіка — немец Ханс Георг Вік і ягоны палітычны супольнік румын Адрыян Севярын.

Асноўны змест іх дзейнасці ў Беларусі за перыяд місіі — далучыць Беларусь да Расеі. Інтэграцыя з Расеяй, сцвярджалі яны, зробіць Беларусь дэмакратычнай. Пазней Севярын (на той час спецдакладчык па Беларусі ў ААН) заявіў, што беларусы «не маюць ідэнтыфікацыі».

Потым высветлілася, што гэты «сябра Беларусі» прысвойваў бюджэтныя сродкі Еўрапарламенту, накраў там 436 тысяч еўра і яшчэ быў замяшаны ў карупцыі. У выніку — з Еўрапарламентам яму прыйшлося развітацца і сесці ў румынскую турму.


І. Сурвіла, З. Пазьняк, В. Быкаў, С. Навумчык, В. Станкевіч. Прага, 2000 год. Фота з сайта pazniak.info

Тут я зраблю дэгрэсію, каб растлумачыць такую пазіцыю тых еўрапейцаў.

Аднойчы, калі мы (наша партыя КХП-БНФ) ужо аб'явілі Ганса Віка персонай нон грата і раскрылі ягоную антыбеларускую ролю, ён прыслаў да мяне ў Варшаву свайго пасланца, з якім я меў доўгую гутарку. З падтэксту ўсёй інфармацыі вынікала, што, маўляў, пэўныя немцы зацікаўленыя, каб межы Расеі прысунуліся б пад Буг. Гэта напружыць Варшаву і дасць магчымасць «пэўным немцам» падціскаць Польшчу і прымусіць яе нервавацца наконт асвоеных нямецкіх тэрыторыяў. Беларусь тут — натуральны буфер, і немцам толькі замінае.

На першы погляд, усё гэта выглядае палітычнай шызафрэніяй. Але так ужо ўладкаваныя мазгі спецразведчыкаў — Віка, Пуціна, Бабіча і т.п. Аказваецца, аднак, што тое, як не дзіўна, даўно праяўляецца ў рэальнай палітыцы.

Разумныя палітыкі, выхаваныя на традыцыйных гуманітарных каштоўнасцях, на Захадзе таксама ёсць. Але яны ў меншыні, не салідарныя.

Радыкальную альтэрнатыву ў Еўропе ствараюць такія ж «адвязаныя» правыя, як і экзальтаваныя левакі, толькі з іншай арыентацыяй. Але прадажнасць такая самая — што ў левых, што ў ультраправых (і адны, і другія бяруць грошы ў Масквы). Гэта, дарэчы, вымоўна ілюструе нядаўні скандал у Аўстрыі з адстаўкай ураду Себасцьяна Курца.

**Рашэнне аб эміграцыі звязана з лёсам. Я ніколі раней пра эміграцыю не думаў і не абдумваў пры ўсіх пагрозах жыццю. Але рашэнне прыняў раптоўна, хутка, рашуча і адзіна правільнае. Альтэрнатывай эміграцыі была толькі смерць**

Дык вось, эміграцыя дала мне магчымасць убачыць бліжэй тое, што было далёка. Братам-беларусам я б параіў: уцякайце далей ад Расеі і не лезьце ў Еўрасаюз. Уступіць у будучыні Беларусь магла б толькі ў NATO.

І наконт сваёй эміграцыі — нечаканай для іншых (нечаканай, бо нічога не ведалі). Рашэнне аб эміграцыі звязана з лёсам. Я ніколі раней пра эміграцыю не думаў і не абдумваў пры ўсіх пагрозах жыццю. Але рашэнне прыняў раптоўна, хутка, рашуча і адзіна правільнае. Альтэрнатывай эміграцыі была толькі смерць. Я ведаў ад пачатку, што за істота залезла на трон, і цану натоўпу, што яе акружае. Абстрагуючыся ад свайго прыватнага існавання, мяркую, што для беларускай палітыкі ўсё ж лепш, калі я жывы, чым калі б не жыў.

Хаця былі і скрайнія развагі. Арыгінальная Валерыя Навадворская раскрытыкавала мяне і заявіла, што лепш, каб я не ехаў у эміграцыю, а даў бы сябе забіць і стаў бы такім чынам героем, сцягам нацы (значыцца, імя мае стала б, бо мяне не было б).

«Гераізм» тут даволі сумнеўны. За мяжой я застаўся ў беларускай палітыцы, таксама выдаў 35 кніжак (паэзія, проза, публіцыстыка, фотамастацтва), выпусціў 70 нумароў адраджэнскага часопіса «Беларускія Ведамасці», створана і выдадзена разам з групай энтузіястаў перспектыўная праграма «Вольная Беларусь».

***— Ці можна сучасны Захад яшчэ павярнуць да палітыкі, заснаванай на маральных каштоўнасцях?***

— Малаверагодна. Хіба што, калі развалiцца Еўрасаюз. Але тады ўзнікнуць новыя дэманы. Калі звярнуцца да еўрапейскай хрысціянскай гісторыі, якая перажывала ў маральным плане нешта падобнае, як цяпер, у часы Рэнесансу і Ігната Лаёлы, то адрадзіць маральны парадак і натуральнасць магла б вялікая духоўная ідэя, якая б захапіла народы. Ідэі, вышэйшай за хрысціянства, не будзе. А хрысціянства ў Еўропе ўжо амаль што разбуранае. І ніхто гэтага як бы не заўважае.

Другі варыянт, калі звярнуцца да гісторыі Рыма, — гэта дыктатура, якая, як і ў Рыме, зробіць пасля дэмакратыі без берагоў жорсткую санацыю грамадства. Гэтага варыянту ў Еўропе ў бліжэйшы час не будзе.

Дэмаграфічная акупацыя і цывілізацыйны канец цяперашняй Еўропы, пра які гавораць аматары прароцтваў, у прынцыпе, магчымы. Але прагнозаў рабіць не варта. Калі ідзе нейкі разбуральны працэс светабудовы, то (зыходзячы з сённяшняга дня) можна здагадацца, што будзе, скажам, праз тысячу, але не праз 10 тысячаў дзён. Бо ніхто не ведае, якія ўзнікнуць праявы супраціву, калі яны ўключацца супраць разбуральных падзей і якую ролю яны адыграюць.

***— Эмігранцкі хлеб, вядома, нялёгкі. Чаго табе найбольш бракуе па-за Беларуссю? Калі б гіпатэтычна з'явілася магчымасць вярнуцца ў Беларусь, куды б ты адразу адправіўся, што б пачаў рабіць?***

— Бракуе Беларусі. Калі б вярнуўся, адразу б пайшоў на магілу маці. Потым у Курапаты. Пэўне, маліўся б і дзякаваў Богу, што даў мне магчымасць падыхаць паветрам Радзімы. На чужыне — іншае паветра. Нават здаецца, што яго там няма.


Прысяга на вернасць Беларусі. Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч, Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч, Артур Вольскі. 1992 год. Фота з сайта pazniak.info

# Гістарычны «камуфляж»

## Як маскоўскія ідэолагі маніпулююць гісторыяй Беларусі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Расійскія ўплывы ў сферы гістарычнай навукі Беларусі з'яўляюцца даволі моцнымі, і таму ўяўляюць небяспеку як для фарміравання айчыннай канцэпцыі разгляду гісторыі Беларусі, так і працэсу фарміравання гістарычнай свядомасці сучаснага беларускага грамадства.**




Днямі ў Маскве выйшаў з друку другі нумар расійскага навуковага часопісу «Белорусский исторический обзор». У рэдакцыйную раду гэтага выдання, сярод іншых, уваходзіць і кіраўнік расійскага Фонду «Гістарычная памяць» Аляксандр Дзюкаў. За апошні час узгаданая арганізацыя выдала шэраг гістарычных працаў, прысвечаных розным аспектам гісторыі Беларусі. Аднак падача інфармацыі ў іх робіцца з пункту гледжання, выгаднага Крамлю.

### Ідэалагічны наступ з Усходу

Гістарычная навука адыгрывае важнейшую ролю ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці народа. У гэтым сэнсе Беларусь знаходзіцца ў вельмі небяспечнай сітуацыі. У савецкія часы беларускую мінуўшчыну разглядалі з марксісцка-ленінскіх пазіцый. Пасля атрымання Беларуссю незалежнасці ў 1991 годзе распачаўся кароткі перыяд аб'ектыўнага разгляду айчыннай гісторыі, аднак часу на выпрацоўку нацыянальнай канцэпцыі гістарыяграфіі ў беларускіх даследчыкаў было вельмі мала, і давесці гэтую працу да лагічнага канца адмыслоўцы не паспелі.

Пасля 1994 года ў беларускай гістарычнай навуцы зноў пачалі распаўсюджвацца савецкія падыходы да разгляду ключавых аспектаў беларускай гісторыі. Гэта працягваецца і сёння, чым актыўна карыстаецца ўсходні сусед Беларусі. Расійскія ідэолагі (большасць з якіх з'яўляюцца дыпламаванымі гісторыкамі), выкарыстоўваюць слабасць беларускай дзяржаўнай ідэалогіі, спрабуюць маніпуляваць гістарычнымі фактамі — і з іх дапамогай уплываць на беларускае грамадства, якое, збольшага, слаба ведае айчынную гісторыю.

Адным з цэнтраў расійскага ўплыву ў гістарычнай сферы ў Беларусі з'яўляецца ўзгаданы вышэй Фонд «Гістарычная памяць». Гэта арганізацыя існуе з 2008 года, і ад пачатку свайго існавання актыўна ўмешваецца ў працэс фарміравання беларускай гістарыяграфіі. Дэкларуючы падтрымку «правядзення даследавання актуальных старонак расійскай і ўсходнееўрапейскай гісторыі», расійскі фонд праз выданне кніг і правядзенне канферэнцый падтрымлівае выгадны Крамлю кірунак развіцця беларускай гістарычнай навукі.

Асабліва гэта тычыцца выдання зборнікаў архіўных дакументаў «Забойцы Хатыні: 118-ты ўкраінскі батальён ахоўнай паліцыі ў Беларусі» (2018) ці «НКУС у Заходняй Беларусі» (2019). Першая з іх робіць акцэнт на тым, што беларускую вёску спалілі менавіта… украінцы. Зроблена гэта, зразумела, з улікам расійска-ўкраінскага канфлікту на Данбасе, у якім Беларусь (у палітычнай сферы) спрабуе захоўваць нейтральную пазіцыю. А што з беларускім грамадствам? Тут для расійскіх прапагандыстаў адкрываецца поле для манеўра. «У Хатыні "бандэраўцы" спалілі мірных беларускіх сялян» — гэты пастулат актыўна адпрацоўваўся ў расійскіх сродках масавай інфармацыі пачынаючы з 2014 года. Да таго ж агучаную ідэю пачынаюць падкідваць праз гістарычныя працы, якія пазіцыянуюцца як чыста архіўныя.

### 1939 год пад «правільным» ракурсам

У год 80-й гадавіны з моманту пачатку Другой сусветнай вайны Расія пачала актыўную «распрацоўку» тэмы «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Украіну». У чэрвені 2019 года на сайце Фонду «Гістарычная памяць» быў апублікаваны арыгінал савецкага экземпляра Пакта Рыбентропа-Молатава, падпісаны ў жніўні 1939 года. Факт публікацыі павінен прадэманстраваць «адкрытасць» расійскай гістарычнай навукі, якая, быццам, заяўляе: «вось, мы не хаваем праўду».

Аднак, тут не ўсё так проста. Крэмль актыўна ўзяўся за адпрацоўку тэмы «17 верасня 1939 года», калі Савецкі Саюз, пасля дваццаці міжваенных гадоў, пачаў выходзіць на «гістарычныя межы».

У гэтым кантэксце важную ролю адыгрывае стары савецкі пастулат пра «ратаванне братоў беларусаў і ўкраінцаў», які, па меркаванні Расіі, і сёння не страціў актуальнасці. Таму і аўтары зборніка «НКУС у Заходняй Беларусі» заяўляюць, што «імкнуцца паказаць адзіную карціну дзейнасці органаў НКУС на ўсіх узроўнях у кантэксце тых грамадска-палітычных задач, якія ставіліся перад спецслужбай вышэйшым палітычным кіраўніцтвам СССР і партыйна-савецкім кіраўніцтвам БССР».

Галоўнай высновай кнігі з'яўляецца пастулат пра тое, што «супрацоўнікі НКУС забяспечылі бяспеку функцыянавання мясцовых органаў кіравання, узялі пад ахову найважнейшыя гаспадарчыя аб'екты, прамысловыя прадпрыемствы і ўстановы, не дапусцілі праявы зладзейства, разбою і рабункаў, стварылі ўмовы дзеля правядзення выбараў і працы Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку».

Як бачым, акцэнты пераносяцца з рэпрэсіўнай палітыкі бальшавіцкай сістэмы на тэрыторыі Заходняй Беларусі на «чыста адміністрацыйную працу і выкананне загаду». Сітуацыю ў лепшы бок зьмяніла б публікацыя ў такога кшталту зборніках асабістых справаў арыштаваных у 1939–1940 гадоў на тэрыторыі былых паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай прадстаўнікоў так званага «польскага кантынгенту» (асабліва матэрыялаў, звязаных з лёсамі 3870 польскіх грамадзян, сляды якіх у 1940 годзе губляюцца на тэрыторыі БССР). Але гэтыя факты дэманструюць сапраўдную сутнасць і працу НКУС, і таму іх адкрыццё для грамадства не ў інтарэсах сучаснай расійскай прапаганды.

Ва ўзгаданым вышэй другім нумары расійскага часопіса «Белорусский исторический обзор» сярод іншых публікуецца артыкул магістра юрыдычных навук з Брэсту Кірыла Азімкі, прысвечаны «дыскрэдытацыі гістарычнай спадчыны Вялікай Айчыннай вайны і Дня Перамогі ў замежных інтэрнэт-СМІ ў Беларусі». Аўтар «выкрывае» дзейнасць «замежных інтэрнэт выданняў, якія фінансуюцца за кошт бюджэтных сродкаў заходніх дзяржаў ці заходніх фондаў». Асабліва дастаецца тэлеканалу «Белсат», які «ставіць пад пытанне Перамогу і гераізуе калабарантаў».

Між тым журналісты ўзгаданага канала, як і іншых незалежных СМІ, імкнуцца распавесці беларусам пра невядомыя, малавывучаныя і часта «забароненыя» ў савецкія часы тэмы. Іншымі словамі, незалежные выданні імкнуцца вярнуць беларусам гістарычную праўду пра іх мінуўшчыну і разглядаюць падзеі той ці Другой сусветнай вайны з нацыянальных беларускіх і агульнаеўрапейскіх пазіцый, а не з савецкіх і маскоўскіх.

### «Выгадныя» архіўныя дакументы

Асобную ролю ў прасоўванні «расійскага погляду» на гісторыю Беларусі адыгрываюць калягістарычныя, папулярныя публікацыі ў «сусветным павуцінні», якія з'яўляюцца напярэдадні важных гістарычных датаў. У сувязі з адмовай польскага боку запрасіць у Варшаву на святочныя мерапрыемствы, звязаныя з 80-й гадавінай з моманту пачатку Другой сусветнай вайны, расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна, большасць расійскіх інтэрнэт-рэсурсаў пачала актыўна абвінавачваць даваенную Польшчу ў распальванні Другой сусветнай вайны.

Напярэдадні 80-й гадавіны з пачатку «польскага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Украіну» на сайце Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі былі апублікаваныя да гэтага моманту засакрэчаныя дакументы Генеральнага штаба РСЧА. Сярод іх вылучаецца дакладная запіска начальніка Генеральнага штаба, камандарма 1-га рангу Барыса Шапашнікава ад 24 сакавіка 1938 года, у якой савецкі военачальнік аналізаваў магчымасць баявых дзеянняў СССР супраць суседзяў у Еўропе і на Далёкім Усходзе. Пры гэтым у дакуменце адзначалася, што «Польшча знаходзіцца ў арбіце фашысцкага (Германія і Італія) блока, спрабуючы захаваць бачную самастойнасць сваёй знешняй палітыкі». Шапашнікаў сур'ёзна разглядаў германа-польскі вайсковы хаўрус супраць СССР.

З сённяшняй перспектывы, пасля аналізу значнай колькасці архіўных матэрыялаў, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што Другая Рэч Паспалітая не збіралася выступаць супраць СССР на баку Трэцяга Рэйху. Пры гэтым, з першага дня Другой сусветнай вайны ў складзе Войска Польскага супраць нацыстаў змагаліся тысячы беларусаў і ўраджэнцаў Заходняй Беларусі. Аднак у сучаснай Беларусі пануе савецкі погляд на падзеі Другой сусветнай вайны, і публікацыя такога кшталту дакументаў (як зрабілі ў Расіі) без гістарычнага каментара, зробленага з беларускіх нацыянальных пазіцый, можа прывесці да скажэння гістарычнай рэчаіснасці 1930-х гадоў.

### Зноў «Рэгнум»

Варта падкрэсліць, што афіцыйныя ўлады Беларусі чарговым разам «вельмі спакойна» адрэагавалі на 80-ю гадавіну далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Пры гэтым у Расіі розныя выданні актыўна каментавалі гэтую тэму. «Рэгнум», напрыклад, параўноўваў нерашучасць Англіі і Францыі ў верасні 1939 года з нерашучасцю гэтых краін у «выкананні абавязацельстваў па "Мінскіх пагадненнях" на Данбасе». Пры гэтым узгаданае выданне актыўна лабіруе мадыфікацыю дня 17 верасня ў нацыянальнае свята. Зразумела, што расійскія дзяржаўныя ідэолагі не імкнуцца абараніць беларускую гістарычную спадчыну і дзяржаўнасць. Галоўнае — супрацьпаставіць Мінск Варшаве і стварыць чарговую «гарачую кропку» ў і без таго нацягнутых беларуска-польскіх міждзяржаўных стасунках.

Акрамя падзей XX стагоддзя расійскія медыя актыўна адпрацоўваюць тэму «польскага героя Тадэвуша Касцюшкі», Люблінскай уніі, якая была накіравана супраць Масквы, — а значыць, гэта, быццам бы, адмоўная старонка гісторыі Беларусі, — і іншыя сюжэты беларускай гісторыі. Улічваючы адсутнасць дастатковай колькасці аб'ектыўных беларускіх гістарычных даследаванняў такога кшталту папулярныя публікацыі адыгрываць адмоўную ролю ў справе фарміравання гістарычнага светапогляду беларускага грамадства.

Расійскія ўплывы ў сферы гістарычнай навукі Беларусі з'яўляюцца даволі моцнымі, і таму ўяўляюць небяспеку як для фарміравання айчыннай канцэпцыі разгляду гісторыі Беларусі, так і працэсу фарміравання гістарычнай свядомасці сучаснага беларускага грамадства. У гэтай сувязі важную ролю адыгрывае дзейнасць незалежных беларускіх гісторыкаў і даследчыкаў, якія непасрэдна працуюць з рознымі грамадскімі плынямі і павышаюць узровень гістарычных ведаў беларусаў. Неабходным з'яўляецца арганізацыя выставаў, прэзентацый, лекцый, на якіх жыхары Беларусі змогуць убачыць і пачуць беларускі погляд на розныя аспекты айчыннай мінуўшчыны. Важным таксама з'яўляецца выданне навукова-папулярных кніг і артыкулаў, якія даступнай і зразумелай мовай будуць тлумачыць людзям розныя факты беларускай мінуўшчыны, чым паспрыяюць павышэнню ўзроўню гістарычных ведаў грамадзян Беларусі.







Фота прадстаўлена Валерам Каліноўскім

# Адабраная Радзіма:

## як сталінская прапаганда скрала будучыню ў «дзяцей Францыі»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Яны нарадзіліся ў вольналюбівай Францыі — і раптам апынуліся ў галечы і бязладдзі СССР, дзе многіх чакаў ГУЛАГ, хваробы, самагубствы... У розных кутках нашай краіны і сёння жывуць тыя, хто лічыць сябе «дзецьмі Францыі», чые бацькі з Заходняй Беларусі выехалі ў міжваенны час туды на заробкі, а потым, паддаўшыся савецкай прапагандзе, вярнуліся — ужо ў Савецкі Саюз. Пра іх — новая кніга журналіста «Радыё Свабода» і пісьменніка Валера Каліноўскага «Дзеці Францыі. Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну», прэзентацыя якой адбылася ў Доме Ваньковічаў у Мінску 22 лістапада.**

### Важная беларуская з'ява

Кніга выйшла ў Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор». Яна раскрывае вялізны недаследаваны пласт беларускай гісторыі. Сам аўтар, франкафон, франкафіл і сябра Французскай амбасады, не ведаў пра «дзяцей Францыі» да мінулага года, пакуль не трапіў на прыём разам з імі ў амбасадара Францыі ў Беларусі Дзідзье Канэса.

Выявілася, што дагэтуль з імі сустракаўся і амбасадар Францыі ў Беларусі ў 2002–2006 гадах Стэфан Шмялеўскі, бацька якога, народжаны ў Беластоку, таксама перад вайной эміграваў у Францыю. Але трагічныя, а часам і драматычныя лёсы французскіх беларусаў заставаліся вядомымі толькі невялікаму колу людзей, пакуль Валер Каліноўскі не зрабіў шэраг публікацый пра іх на «Радыё Свабода».

Запісаўшы першае інтэрв'ю з Янінай Сташко (Грынцэвіч), аўтар думаў, што на гэтым усё і скончыцца. Але потым новыя героі самі сталі знаходзіць яго і прасіць распавесці пра іх гісторыі.

— Гэта выявілася маштабнай з'явай. Усе ведаюць, што былі расійскія эмігранты-белагвардзейцы, многія бачылі фільм «Усход – Захад», але ж гэта была і значная беларуская з'ява ў паваеннай гісторыі, — распавядае Валер Каліноўскі, які значную частку кнігі прысвяціў даследаванню ўмоваў сталінскай рэпатрыяцыі, а таксама беларускаму жыццю ў Францыі перад вайной і неўзабаве пасля яе.

Журналіст запісаў 14 інтэрв'ю (усе яны ўвайшлі ў выданне), вывучыў архівы сваіх герояў, перачытаў кнігі і навуковыя працы, якія выйшлі ў Францыі, Польшчы, Беларусі і Расіі, а таксама даследаваў прысвечаныя эміграцыі выданні, якія выходзілі ў Польшчы і Францыі.

### Людзі са складанай нацыянальнай свядомасцю

3 верасня 1919 года Польшча і пасляваенная Францыя падпісалі дамову аб іміграцыі. Францыі пасля Першай сусветнай вайны патрэбная была вольная працоўная сіла, якой у Польшчы было шмат, як і шмат беззямельных сялян.

Былі створаныя спецыяльныя кампаніі па вярбоўцы работнікаў, іх прадстаўнікі прыязджалі ў польскія і заходнебеларускія мястэчкі і набіралі людзей для працы на шахтах, заводах, у аграрным сектары. На 1931 год колькасць польскіх эмігрантаў у Францыі складала 570 тысяч чалавек, а ў 1939 годзе — ужо 700 тысяч. З Заходняй Беларусі выехалі каля 30 тысяч сем'яў. Пераважную большасць складалі беззямельныя сяляне, якія марылі на французскіх шахтах зарабіць на кавалак уласнай зямлі.

— Яны ўладкаваліся і нарадзілі дзяцей у Францыі. Умовы былі розныя, і вельмі часта складаныя: яны не ведалі французскай мовы, і ім няпроста было жыць на чужыне. А вось іх дзеці, з якімі я паспеў пагаварыць, — гэта ўжо іншае пакаленне, — апавядае Валер Каліноўскі.

Па яго словах, з 30 тысяч беларусаў у Францыі сталінскай прапаганды паслухалася каля трох тысяч — 10 працэнтаў. Яны вярнуліся на гістарычную радзіму ў 1946–1948 гадах. Далей іх лёсы складваліся па-рознаму: замест сацыялістычнага раю хтосьці трапіў у ГУЛАГ, кагосьці адправілі ў турму. Усіх напаткала галеча і голад. Толькі адна з 14 запісаных Валерам Каліноўскім гісторый скончылася адносна шчасліва: сям'і Сцяпана Батуры далі кватэру ў Брэсце, сам ён змог атрымаць адукацыю і стаць выкладчыкам у Інстытуце замежных моваў (цяпер Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт). Хаця і яму чынілі перашкоды ў навуковай кар'еры і забаранялі выязджаць за мяжу.

— Гэтыя людзі лічаць сябе дзецьмі Францыі, бо там нарадзіліся. Многія з іх добра гавораць па-французску. Яны захавалі памяць пра свае самыя шчаслівыя гады дзяцінства, а некаторыя з іх нават пастараліся аднавіць сувязь з Францыяй — дзве сям'і, пра якія я пішу, вярнуліся туды, — дзеліцца аўтар кнігі. — Я пытаў пра іх нацыянальную свядомасць, і яна вельмі складаная. Ім цяжка пэўна адказаць, хто яны, бо паходзілі з польскіх і беларускіх сем'яў, жылі ў Францыі, а вярнуўшыся, не да канца здолелі асвоіцца. Але яны прыехалі ў беларускія вёскі, дзе панавалі беларуская мова і культура, таму я лічу, што гэта беларускі феномен.

### «Выжылі таму, што баяліся»

Ад вяртання і ўсё далейшае жыццё ў СССР «дзеці Францыі» жылі ў пастаянным страху. Цяпер ім 80–90 гадоў, і яны ўсё яшчэ не да канца пазбавіліся яго.

— Яны выжылі толькі таму, што баяліся, асцерагаліся, маўчалі, — зазначае Валер Каліноўскі. — Іх бацькі нічога лішняга не казалі. Бо калі хто нешта казаў, не выжываў.

Праз гэты страх журналісту даводзілася па некалькі месяцаў угаворваць некаторых сваіх герояў распавесці іх гісторыі. А з адной жанчынай прыйшлося нават сустракацца ўпотай, бо яе муж забараняў ёй казаць пра сваё дзяцінства і сям'ю. Праўда, потым ён змяніў сваё стаўленне і падтрымаў жонку і журналіста.

— Я доўга не мог зразумець, у чым справа, калі ўгаворваў даць інтэрв'ю Алеся Салагуба. Здаецца, і беларускамоўны, і патрыёт. Потым аказалася, у яго былі перасцярогі, што яго могуць не выпусціць за мяжу. Усё жыццё ў гэтых людзей было жаданне вярнуцца ў Францыю, а яны не маглі гэтага зрабіць, і цяпер баяцца, што зноў могуць стаць нявыязнымі. А некаторыя ў апошні момант адмаўляліся, як адна жанчына з Віцебска. Яна ўжо памерла, і яе гісторыю мне запісаць не ўдалося.

### Ахвяры савецкай прапаганды

Нельга сказаць, што жыццё беларускіх эмігрантаў у Францыі было намазанае мёдам, зазначае Валер Каліноўскі. Яны цяжка працавалі, зазналі пасляваенныя разбурэнні і картачную сістэму. Жыццёвыя турботы разгортваліся на фоне моцнай камуністычнай прапаганды ў Францыі, да таго ж Савецкі Саюз прываблівае як магутная дзяржава-пераможца ў вайне. Савецкія агітатары, якія прыязджалі да перасяленцаў, запэўнівалі, што на радзіме тыя змогуць працаваць на сябе, іх дзеці будуць мець магчымасць вучыцца ў ВНУ. На сустрэчы з эмігрантамі прыязджаў асабіста наркам замежных спраў СССР Молатаў! Многіх пацягнула на радзіму, да таго ж яны ўжо зарабілі грошы, каб набыць зямлю.

— Прыехаўшы, яны сутыкнуліся са страшным голадам. Многіх адправілі на Данбас, а ва Украіне ў тыя часы быў пасляваенны галадамор, усё было разбурана, мясцовае насельніцтва не заўжды было прыязным да французаў. Ратаваліся тым, што ехалі да сваякоў у беларускія вёскі, дзе была бульба і кавалак хлеба.

У кнізе Валера Каліноўскага ёсць згадкі пра тое, што рэпатрыянтаў, былых белагвардзейцаў, якія вярталіся першым і другім класамі, адразу з парахода забіралі і везлі ў лагеры. Простых людзей збольшага звычайна пакідалі на волю лёсу, што праўда, працягвалі за імі сачыць.

— Пасля вайны савецкія ўлады здолелі перавезці з акупаванай Еўропы і Нямеччыны каля шасці мільёнаў чалавек — палонныя, остарбайтары, былыя грамадзяне СССР, уцекачы... І з іх шэсць тысяч грамадзян перавезлі з Францыі па добраахвотнай рэпатрыяцыі. Усе «дзеці Францыі» дагэтуль задаюць пытанне і не разумеюць, навошта быў увесь той здзек і пакуты. Асноўная мэта сталінскага рэжыму была разбурыць гняздо расійскай палітычнай эміграцыі і пакараць яго актывістаў. Да таго ж трэба было паказаць Захаду, што Савецкі Саюз умее дараваць, што адтуль не толькі ўцякаюць, але і вяртаюцца. Потым гэтых людзей выкарыстоўвалі для антызаходняй прапаганды: ёсць прыклады публікацый, дзе рэпатрыянты распавядаюць, як яны пакутавалі ў Францыі і як шчасліва жывуць у СССР.

### Францыя не пакінула сваіх дзяцей

Сярод выкладзеных журналістам гісторый некалькі разоў згадваецца, што французскія працадаўцы пасля вяртання сваіх былых работнікаў у СССР адшуквалі іх і да канца жыцця выплачвалі пенсіі.



**Яніна (Жанін) Грынцэвіч (Сташко) з сынам Чаславам.** Фота прадстаўлена Валерам Каліноўскім



**Нашчадкі Алеся Салагуба (злева) пераехалі жыць у Тулузу.** Фота прадстаўлена Валерам Каліноўскім

Працяг на стар. 24 »

« Працяг.
Пачатак на на стар. 23

А некаторыя сваякі гадамі маглі атрымліваць французскія пенсіі родных, якія ўжо памерлі.

— У Францыі была назапашвальная пенсія, якая збіралася ў пенсійных фондах. Там падлічвалі, колькі ў чалавека накапілася грошай, і пісалі лісты ў Савецкі Саюз. Так знайшлі бацьку Жанін (Яніны) Гынцэвіч (Сташко) і даслалі яму ліст з прапановай выплаціць пенсію. У КДБ яму сказалі адмовіцца, але справу ўзяў у свае рукі ўнук і ўгаварыў дзеда атрымліваць французскую пенсію. Бацькі некаторых маіх герояў самі звярнуліся да французскага боку з просьбай выплаціць ім пенсію. І яны атрымлівалі па 100 долараў (да прыкладу, савецкая пенсія складала 12 рублёў), іх пераводзілі ў чэкі «Внешпосылторга», з якімі хадзілі ў спецыяльную краму.




На атрыманыя бацькамі пенсіі некаторыя «дзеці Францыі» маглі набываць добрае адзенне, збудаваць жытло і паставіць помнікі на магілах сваіх родных. У той час як «савецкая радзіма» не лічыла патрэбным у свой час парупіцца пра звычайнае побытавае ўладкаванне рэпатрыянтаў, а часам «адплачвала» ім лагернымі тэрмінамі.

Усе гісторыі, выкладзеныя ў кнізе Валера Каліноўскага, розныя, і кожная запамінальная. Але сам аўтар найбольш вылучае дзве з іх. Адна — пра сям'ю, якая з 11 дзецьмі прыехала з Францыі ў Барысаў. Па дарозе іх абрабавалі, адчапілі іх вагон з маёмасцю, потым паслалі працаваць на шкодную вытворчасць запалак у Барысаў.

— Гэтыя людзі не змаглі займець адукацыі, хаця былі вельмі таленавітымі. І ў выніку атрымалася 11 змарнаваных лёсаў. Многія памерлі маладымі, паспіваліся, нехта знік без звестак... З 11-ці цяпер засталося двое.

Яшчэ адна гісторыя — пра Поля Шылянка, які з сям'ёй трапіў у Францыю толькі ў 1958 годзе, яны мелі французскія пашпарты і ехалі ў госці да сваякоў, яны паверылі ў смерць Сталіна і думалі, што змогуць пабачыцца з роднымі і вярнуцца ў Францыю. Калі яны ехалі да родных у госці ў Бабруйск, іх схапілі і закінулі ў калгас. Але Поль Шылянок у 50 гадоў вырашыў аднавіць французскі пашпарт, паклаў 400 еўра ў кішэню, сеў у аўтобус і паехаў у Парыж. Яму было цяжка, ён бадзяўся па вакзалах, але ў выніку Францыя яго не кінула.

Лёсы «дзяцей Францыі» аб'ядноўвае тое, што ўсе яны мрояць убачыць сваю радзіму. Некаторыя з іх здолелі гэта зрабіць, дзве сям'і нават пераехалі туды. Напрыклад, нашчадак народжанага ў Францыі Рэнэ Шэміса Эдмонд Шэміс стаў дырэктарам французска-беларускага прадпрыемства «Дыліс Касметык» (гандлёвая марка «Dilis Parfum») у Маладзечна. Дарэчы, кампанія выступіла спонсарам кнігі Валера Каліноўскага, таксама выданне падтрымаў беларускі бізнесовец, ганаровы консул Францыі ў Брэсце Леанід Стаецкі.

Кнігу «Дзеці Францыі. Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну» ўжо можна знайсці ў «Акадэмкнізе», кнігарнях «Светач», «Веды», «Цэнтральнай кнігарні» і ў прыватных распаўсюднікаў.

# БагатаДата

**Круглая гадавіна з дня народзінаў Міхася Лынькова, і чвэрць стагоддзя Будапешцкага мемарандуму, які не перашкодзіў аднаму з «гарантаў суверэнітэту» ўварвацца ва Украіну. Чым яшчэ адметныя гэтыя дні — у нашым аглядзе.**

## 30 лістапада

**Міжнародны дзень абароны інфармацыі** і **Сусветны дзень хатніх жывёлаў.**

**1899.** У вёсцы Зазыбы Лёзненскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся пісьменнік Міхась Лынькоў. Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі», дырэктарам Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук. Быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Аўтар знакамітай аповесці «Міколка-паравоз», паводле якой зняты фільм. Іншыя вядомыя творы: «Пра смелага ваяку Мішку», «Векапомныя дні».

## 1 снежня

**Сусветны дзень барацьбы са СНІДам**

**1939.** У вёсцы Стайкі Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся матэматык Уладзімір Платонаў, які ў 1987–1992 гадах быў прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі.

**1969.** У Гомелі нарадзіўся банкір, цяперашні прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Румас.

**1989.** У Маскве памёр Мікалай Паталічаў. Ураджэнец Дзяржынскага раёна, але Ніжагародскай вобласці Расіі, ён у першай палове 1950-х гадоў быў першым сакратаром кампартыі Беларусі. Затым займаў пасаду намесніка міністра замежных спраў СССР, таксама кіраваў Міністэрствам знешняга гандлю СССР.



Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа

## 2 снежня

**Міжнародны дзень барацьбы за адмену рабства.**

**1954.** У Мінску нарадзіўся мастак Андрэй Смаляк. Мае срэбны медаль Еўрапарламенту за ўнёсак у еўрапейскае мастацтва.

**1959.** У вёсцы Гайнаўка на Беласточчыне нарадзіўся Міхал Андрасюк, пісьменнік, журналіст, актыўны дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы. Працаваў настаўнікам і камянячосам, затым журналістам беластоцкай рэдакцыі Радыё «Рацыя». Па снежань 2010 года шэф Радыё «Рацыя», вядучы тэлеканала «Белсат».

## 3 снежня

**Міжнародны дзень інвалідаў** і **Сусветны дзень адмовы ад пестыцыдаў.**

**1944.** У вёсцы Кавалі Брагінскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Міхаіл Раманюк, мастацтвазнаўца і этнограф. Аўтар альбомаў «Беларускае народнае адзенне», «Беларускія народныя крыжы». Кансультаваў многія мастацкія фільмы кінастудыі «Беларусьфільм» — у прыватнасці, «Людзі на балоце». Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Мастацтва».

## 4 снежня

**1939.** Выйшаў указ прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб стварэнні Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай, Вілейскай і Пінскай абласцей», які зацвердзіў новае адміністрацыйнае дзяленне заходніх рэгіёнаў Беларусі.

**1959.** У Мінску адкрыўся для наведванняў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Раней пісьменнік там жыў з сям'ёй: гэты дом класіку беларускай літаратуры быў падораны ўрадам БССР на 70-годдзе.

**1989.** Створана Цэнтральная камісія Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.

## 5 снежня

**Міжнародны дзень добраахвотнікаў у імя эканамічнага і сацыяльнага развіцця.**

**1994.** Быў падпісаны Будапешцкі мемарандум, паводле якога Беларусь і Украіна цалкам адмаўляліся ад ядзернай зброі, што заставалася на іх тэрыторыях з савецкіх часоў, а наўзамен Расія, ЗША і Вялікабрытанія гарантавалі дзвюм краінам суверэнітэт.

## 6 снежня

У Беларусі святкуюць **Дзень юрыста** (адзначаецца ў першую нядзелю снежня).

**1899.** У Маскве нарадзіўся тэатральны рэжысёр Барыс Мардвінаў. На мяжы 1940-х і 1950-х гадоў працаваў галоўным рэжысёрам Тэатра оперы і балета ў Мінску. Пры ім былі пастаўленыя «Алеся» і «Кастусь Каліноўскі». У 1953-м вярнуўся ў Маскву, і праз некалькі гадзін пасля вяртання памёр ад інфаркту.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Падпісанне Будапешцкага мемарандума



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіну». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1944

Падпісана да друку 29.11.2019. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.